—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
2
КАСТРЫЧНІКА
1992 г.
№ 40 (3658)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)



## «ЛіМ»-93

Менш за месяц засталося да заканчэння падпіскі, а на «ЛіМ» яна, па нашых звестках, практычна не пачыналася. З усіх куткоў Беларусі і з-за яе межаў па сёння пішуць і тэлефануюць нам нашыя чытачы і паведамляюць, што ў мясцовых паштовых аддзяленнях падпіску на «ЛіМ» не прымаюць.

Паважаныя чытачы ў межах Беларусі! Патрабуйце, каб вас падпісалі на «ЛіМ». Паштовыя работнікі абавязаны гэта зрабіць. Калі дзе-небудзь параней не ўнесены ў каталог кошт падпіскі, нагадваем яго яшчэ раз: на паўгода — 60 рублёў, на 3 месяцы—30 рублёў, на 1 месяц — 10 рублёў. Падпісвайцеся самі, дапамагайце падпісацца на «ЛіМ» сваім сябрам і знаёмым. Сёлета «ЛіМ» вымагае вашай асаблівай увагі і падтрымкі.

Просім прабачэння ў нашых чытачоў за межамі Беларусі, хоць і не па нашай віне яны сёлета не мсгуць выпісаць «ЛіМ». Ды спадзяёмся, што прыкры недагляд службовых асоб будзе ўсё ж выпраўлены і ў наступным паўгоддзі мы зноў сустрэнемся з вамі.



Паэзія Рыгора Барадуліна — гэта найперш, бадай, паэзія першароднага беларускага слова. Менавіта ў гэтага паэта роднае слова найбольш поўна выяўляе сваю сілу, моц і прыгажосць, усе свае, так бы мовіць, прадукцыйныя магчымасці. У ягонай паэзіі — шматплыннасць народнага жыцця, яна ўвабрала ў сябе прыгажосць роднай аўтару Ушаччыны і нерушавасць пачуццяў людзей, якія гэтаксама, як і паэт, улюбёны ва ўсё роднае, крэўнае, дарагое. Да ягонай паэзіі звяртаюцца і будуць звяртацца чытачы як да гаючай крыніцы, што не толькі спаталяе смагу, але і лечыць, амалоджвае душу.

Сёння Рыгор Барадулін — народны паэт. Гэтае ганаровае званне нададзена яму Указам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Гэта — афіцыйнае прызнанне яго заслуг перад Бацькаўшчынай. Для прыхільнікаў жа ягонай паэзіі ён заўсёды быў народным.

Новых творчых поспехаў вам, Рыгор Іванавіч, далейшага плёну на ніве нацыянальнага Адраджэння!

# Кола Дзён

У мінулую суботу, гожым вераснёўскім днём, блізкія, сябры і калегі праводзілі ў апошні шлях кінарэжысёра Аркадзя Рудэрмана. Труна з целам нябожчыка была дастаўлена ў Мінск праз тысячы кіламетраў з Таджыкістана. Там, на горным перавале, здарылася аварыя на дарозе. Можна лічыць, што гэта быў трагічны выпадак. Але гэта не была выпадковасць.

Вядомы беларускі майстар дакументальнага кіно здымаў свой новы фільм. Фільм, як задумвалася, павінен быў расказаць не толькі пра вайну ў Таджыкістане — невядомую вайну, да якой быццам бы нікому няма справы, але і пра нас. Пра нашы адносіны да вайны, да чужога гора, пра нашу адказнасць.

Рэжысёру было сорак два. Яго творчым задумам не лёсіла збыцца... Колькі яшчэ жыццяў абарвалася, ці яшчэ абарвецца — не на той вайне, дык на іншай?

У Таджыкістане нясуць службу і хлопцы з Беларусі. Мінабароны рэспублікі апошнім часам прыкладае больш актыўныя намаганні, каб вярнуць іх на Радзіму. Не спазніцца б...

**25 ВЕРАСНЯ**

**На першую нараду Палітычнага кансультацыйнага савета (ПКС) сабраліся камуністы СНД у Мінску. Нарада праходзіла па старых бальшавіцкіх традыцыях — сакрэтна, без доступу журналістаў. Як вядома з гісторыі, сталіца Беларусі, на жаль, не ўпершыню выбіраецца месцам правядзення падобных «сходак».**

**26 ВЕРАСНЯ**

**У Мінску адбыўся акт грамадзянскай прысягі на вернасць народу Беларусі — у працяг патрыятычнай акцыі 8-га верасня, якую наладзіла Беларускае згуртаванне вайскоўцаў.**

**27 ВЕРАСНЯ**

**Малебнам у Полацкай Сафіі і хросным ходам ад яе да Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра завяршылася святкаванне 1000-годдзя Полацкай епархіі і праваслаўнай царквы на Беларусі. Ва ўрачыстасцях прыняў удзел Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч.**

**Іудзейскае свята Рош гаШана — новы год — адзначалася ў гэты дзень, як і ва ўсім свеце, яўрэйскімі абшчынамі Беларусі.**

**28 ВЕРАСНЯ**

**Прэм'ер-міністр Беларусі В. Кебіч сустракаўся з прадстаўнікамі рэспубліканскага савета ветэранаў. У размове з імі прэм'ер закрануў, у прыватнасці, праблемы эканамічных узаемаадносін з партнёрамі па СНД. В. Кебіч, паміж іншым, паведаміў, што Украіна з 1 кастрычніка пераходзіць на нацыянальную валюту — грыўну. Беларусі ж, на яго погляд, пакуль прыйдзецца застацца ў рублёвай зоне.**

**29 ВЕРАСНЯ**

**Апублікавана пастанова СМ Беларусі «Аб сур'ёзных недахопах у рабоце дзяржаўных і гаспадарчых органаў, службовых асоб па ахове эканамічных інтарэсаў рэспублікі». Некаторым службовым асобам давядзецца развітацца са сваімі крэсламі. Некаторым прыйдзецца даваць паказанні следчым органам. Акрамя таго, паведамляецца аб вяртанні дзяржманаполіі на спіртныя напоі і тытунёвыя вырабы, метал, а таксама аб забароне продажу на біржах рэсурсаў, што размяркоўваюцца цэнтралізавана. Паглядзім, ці дапамогуць адміністрацыйныя меры гэтым разам.**

**Надзвычайны і паўнамоцны пасол РФ на Беларусі І. Сапрыкін уручыў даверныя лісты С. Шушкевічу.**

**30 ВЕРАСНЯ**

**Урадавая дэлегацыя на чале з Старшынёй СМ Беларусі В. Кебічам накіравалася з афіцыйным візітам у Аўстрыю.**

**1 КАСТРЫЧНІКА**

**На Беларусі ўпершыню адзначаўся Дзень пажылых людзей. З ініцыятывай правядзення Дня ва ўсім свеце выступіла ААН.**

# ГОМЕЛЮ — 850 ГАДОЎ

Даўно не помняць гамяльчане такога сапраўды народнага гуляння, у якое выліліся ўрачыстасці, прысвечаныя 850-годдзю горада над Сожам. На цэнтральнай пляцоўцы вырас драўляны замак — сімвал старажытнага Гомеля. Урачыстасці адкрыліся вялікім тэатралізаваным прадстаўленнем, у якім ажылі фрагменты амаль дзевяцівяковай гісторыі аднаго з прыгажэйшых гарадоў Беларусі. Тут можна было сустрэць ўдалага купца, і воіна, і ліхога гусара.

У госці да гамяльчан прыехалі дэлегацыі з гарадоў-пабрацімаў пяці краін Еўропы — Францыі, Аўстрыі, Шатландыі, Германіі і Польшчы, а таксама сябры з памежных Бранскай і Чарнігаўскай абласцей Расіі і Украіны, гарадоў нашай рэспублікі.

Ігралі аркестры, кружыліся ў танцы пары, гучала беларуская, руская, украінская, польская, нямецкая гаворка. Багатыя былі гандлёвыя рады шматлікіх ярмарак і базараў на вуліцах і плошчах. І людзі, забыўшы штодзённыя трывогі і клопаты, проста весяліліся, радаваліся атмасферы цяпла, дабра, усмешак, узаемаразумення.



Свята на вуліцах сівога Гомеля.
Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.
БЕЛІНФАРМ.

# НЕЙТРАЛІТЭТ? ТОЛЬКІ ЎЗБРОЕНЫ...

## БНФ правёў канферэнцыю па праблемах войска

Сімвалічнае прыняцце прысягі на вернасць беларускаму народу, якое ўрачыста прайшло ў Мінску 8 верасня на пляцы Незалежнасці, выклікала надзвычай нервовую рэакцыю ў Міністэрстве абароны і сярод генералаў-дэпутатаў. Арганізатары патрыятычнай акцыі — найперш Беларускае згуртаванне вайскоўцаў — былі публічна абвінавачаны ледзь не ў антыдзяржаўнай дзейнасці, не сумяшчальнай са службай у нацыянальным войску. «Дыскусія» ў сродках масавай інфармацыі, зразумела, ні на крок не наблізіла грамадства да вырашэння сапраўдных праблем, якія востра ставіць перад войскам жыццё.

Ваеннай дактрыны Рэспублікі Беларусь дагэтуль няма. А яе распрацоўка вядзецца ў сакрэце не толькі ад шырокай грамадскасці, але і ад большасці дэпутатаў. Рэальныя праблемы па-ранейшаму хаваюцца ад «чужога вока». А калі закранаецца, напрыклад, праблема карупцыі, вайсковыя чыноўнікі з генеральскімі пагонамі ўзнімаюць лямант: «Нацыяналізм!»

На такім узроўні, зразумела, весці гаворку немагчыма. І ці трэба здзіўляцца, што канферэнцыя на актуальную тэму «Беларускае войска — сучаснасць і будучыня» праходзіла не ў міністэрскіх пакоях, а ў Палацы мастацтваў?

**У соймавай канферэнцыі БНФ разам з БЗВ прынялі ўдзел і іншыя дэмакратычныя партыі і арганізацыі. У прыватнасці, выступіў старшыня Беларускай сялянскай партыі Я. Лугін, бралі слова прадстаўнікі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі.**

**Стварэнне нацыянальнага войска і дзяржаўная незалежнасць самым цесным чынам увязаны між сабой. Аб гэтым гаварыў у сваім дакладзе старшыня сойма БНФ З. Пазняк. Сучаснае войска, сцвердзіў ён, — важнейшы чыннік суверэнітэту і нейтралітэту, да якога імкнецца Беларусь. У цяперашняй геапалітычнай сітуацыі, на яго думку, нейтралітэт рэспублікі можа быць толькі ўзброены і актыўны.**

**Між тым, як адзначалася на канферэнцыі, скарачэнне Узброеных Сіл Беларусі са 130 да 60 тысяч чалавек, якое зараз намечана, можа прывесці не толькі да сацыяльнага выбуху, але і паставіць пад пагрозу бяспеку рэспублікі.**

**Як адзначыў З. Пазняк, ліпеньскія пагадненні, падпісаныя беларускім урадам у Маскве — у прыватнасці, у галіне абароны, уцягваюць Беларусь у блокавую палітыку, што падрывае яе суверэнітэт. Даходзіць да абсурду. Паводле аднаго з пунктаў пагаднення, напрыклад, грамадзяне Беларусі могуць прызывацца на службу ў расійскую армію. Але ж закон аб грамадзянстве Беларусі выключае такую магчымасць, бо той, хто служыць у замежным войску, аўтаматычна пазбаўляецца грамадзянства!**

**У той жа час, вайсковая наменклатура, усвядоміўшы, што нацыянальнае войска на Беларусі будзе, заварушылася і прымае захады, каб захаваць ці ўмацаваць свае пазіцыі на камандных пастах.**

**Як адзначыў у сваім выступленні народны дэпутат Беларусі В. Голубеў, у Мінск перацягваюць генералаў з Расіі, каб забяспечыць ім добрыя пенсіі. (За кошт беларускага падаткаплацельшчыка, між іншым). На аклады цяперашнім военачальнікам не даводзіцца скардзіцца. Міністр абароны Беларусі сёння атрымлівае самую высокую зарплату ў рэспубліцы — 23 тысячы рублёў. Гэта значна больш, чым атрымлівае Старшыня Вярхоўнага Савета.**

**Яшчэ можна было б зразумець, калі б да нас «перацягвалі» служыць лепшых прафесіяналаў. Але ж на канферэнцыі прыводзіліся факты, калі вышэйшых афіцэраў, якія «праштрафіліся» на службе ў Германіі, ці ў Маскве, пераводзілі ў Мінабароны Беларусі на высокія пасады. А ў той жа час, як вядома, тысячы афіцэраў-беларусаў не могуць з-за штучных перашкод перавесціся на службу ў сваю рэспубліку.**

**Уся складанасць у тым, што беларускаму войску засталіся ў спадчыну ўсе застарэлыя хваробы Савецкай Арміі — «дзедаўшчына», карупцыя, раскраданне маёмасці і г. д. Тая ж карупцыя настолькі пранізала адносіны ў войску, што яна часам і не лічыцца злачынствам. А выкарыстанне салдат на будаўніцтве асабістых дач для афіцэраў даўно стала звыклай з'явай. Член Кантрольнай палаты Беларусі А. Ігнаценка прывёў на канферэнцыі такі факт. Калі ён звярнуў увагу гарнізоннага пракурора на будаўніцтва асабістых гаражоў для афіцэраў за вайсковы кошт, той заявіў, што не бачыць у гэтым нічога незаконнага. І гэту пазіцыю пракурора падтрымала ягонае начальства!**

**Сума нястач, па словах Ігнаценкі, у вайсковых часцях вымяраецца мільёнамі.**

**Ці будзе надзейным такое войска, асабліва калі ўлічыць таксама адсутнасць лаяльнасці да незалежнай Беларусі з боку вялікай часткі афіцэрства? (Каля 80 працэнтаў вайскоўцаў прыехалі служыць на Беларусь з-за яе межаў і апынуліся ў ролі «нацменшасці». І ў гэтым, безумоўна, няма іхняй віны).**

**Старшыня БЗВ М. Статкевіч прывёў у сваім дакладзе тры магчымыя варыянты крызіснага развіцця падзей. Першы варыянт (самы, на яго погляд, малаверагодны) — непасрэдны ўзброены ўдар з боку суседняй дзяржавы. Другі — развязванне рэваншысцкай апазіцыяй у Расіі грамадзянскай вайны і перанос яе на тэрыторыю Беларусі. І трэці — скарыстанне войска дзеля захавання ўлады наменклатуры супраць уласнага народа.**

**Як бы ні ацэньваць падобныя «сцэнарыі» і іхнюю абгрунтаванасць, нельга не пагадзіцца з тым, што прыняцце прысягі на вернасць свайму народу сёння набывае вельмі важнае маральна-псіхалагічнае значэнне. Таксама, як патрыятычнае выхаванне ў войску, у навучальных установах, больш хуткі пераход на нацыянальную сімволіку, авалоданне афіцэрамі беларускай мовай. (Напачатку, як зазначыў М. Статкевіч, можна было б вывучыць хоць бы шыхтовыя каманды).**

**Калі закранаць псіхалагічныя аспекты, нельга абмінуць адзін эпізод. Адкрываючы канферэнцыю, З. Пазняк прадставіў гасцей з ЗША і Канады — беларусаў, якія ў час мінулай вайны ваявалі «па той бок». Іх віталі апладысментамі. Гасціннасць і ветлівасць, безумоўна, прыняты ва ўсім цывілізаваным свеце. Але тут рызыкну выказаць асабістае меркаванне. Канечне, прыйшоў час засыпаць акопы другой сусветнай вайны, якія раздзялілі людзей на ворагаў. Трэба назаўсёды адмовіцца і ад штампаў сталінскае прапаганды. Але навошта кідацца з крайнасці ў крайнасць? Ці нельга больш далікатна ставіцца да пачуццяў многіх і многіх ветэранаў вайны? Тых самых запаснікоў і пенсіянераў, пра сацыяльную абароненасць якіх, дарэчы сказаць, клапаціліся многія аратары на канферэнцыі. Ды і ў тых, хто нарадзіўся пасля вайны і чые бацькі ў большасці сваёй змагаліся «па гэты бок», павінна ж быць пачуццё ўласнай годнасці...**

**Вяртаючыся да канферэнцыі, нагадаем правільныя словы, запісаныя ў прынятай на ёй ухвале: «Вайсковая рэформа на Беларусі павінна адбывацца ў інтарэсах усяго нашага народа, у інтарэсах тых вайскоўцаў, што гатовы сумленна і высокапрафесійна служыць дзеля дабра Беларусі».**

**Віталь ТАРАС.**

P. S. На наступны пасля канферэнцыі дзень у Мінску зноў праходзіла сімвалічнае прыняцце прысягі на вернасць Беларусі.

# СУСТРЭЛІСЯ БЕЛАРУСЫ СВЕТУ

**З 5-га па 7-га верасня ў Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі, Злучаныя Штаты Амерыкі) праходзіла XX сустрэча беларусаў свету. Сабраліся разам прадстаўнікі беларускіх асяродкаў ЗША, Канады, Бельгіі, Германіі, Польшчы. Прадстаўнічай была і дэлегацыя з Бацькаўшчыны — Рэспублікі Беларусь.**

**Сустрэча пачалася з выступлення намесніка старшыні Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА) Ю. Азаркі. Ён пазнаёміў прысутных з прывітаннямі прэзідэнта ЗША Д. Буша, губернатара штата Нью-Джэрсі Д. Флорыё і сенатара гэтага штата Ф. Лаўтэнберга.**

**Прывітанне старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіча зачытаў пастаянны прадстаўнік нашай дзяржавы ў ААН Г. Бураўкін. Міністр замежных спраў П. Краўчанка перадаў вітанне ад старшыні ўрада В. Кебіча. Ад імя апазіцыі ў беларускім парламенце і сойма Беларускага народнага фронту прысутных вітаў В. Голубеў.**

**У часе сустрэчы прайшоў сімпозіум «Беларусь на шляху да незалежнасці». Уласна кажучы, пад такім дэвізам праходзіла і сама сустрэча. П. Краўчанка ў сваім дакладзе запыніў увагу на асноўных накірунках унутранай і знешняй палітыкі ўрада Рэспублікі. В. Голубеў стаў па сутнасці апанентам міністра. Надзённыя праблемы жыцця новай Беларусі, яе сувязі з беларускім замежжам, эканамічнага і культурнага развіцця закраналі супрацоўнік беларускай рэдакцыі радыёстанцыі «Свабода» В. Станкевіч, прадстаўнік Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы В. Русак, супрацоўнік Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) у Нью-Йорку Я. Запруднік.**

**Гаворка была прадоўжана на пасяджэннях «круглых сталоў», прысвечаных пытанням палітыкі, эканомікі, адукацыі, культуры і вынікаў чарнобыльскай катастрофы.**

**Адбыліся і іншыя мерапрыемствы, прасякнутыя духам супольніцтва, адраджэння, кантактаў.**

**У канцэрце, які прайшоў у рамках сустрэчы, удзельнічалі беларускія артысты М. Скорыкаў, Т. Мархель, І. Афанасьева, паэт-бард С. Сокалаў-Воюш, кампазітар З. Еўтуховіч, паэт Л. Пранчак, хор «Васількі» з Кліўленда, ансамбль «Васілёк» з Нью-Йорка.**

**Падтрымана ініцыятыва правядзення летам 1993 года ў Мінску І з'езда беларусаў свету.**

З НАГОДЫ

# 3 кастрычніка — Дзень Германіі, Дзень Еўропы

**На фарміраванне палітычнага ландшафту сённяшняй Еўропы карэнным чынам паўплывалі дзве падзеі: дэмантаж Савецкага Саюза і ўз'яднанне Германіі. Гэта быў тэктанічны зрух, у выніку якога паўстала гара на Захадзе і значна panізілася гара на Усходзе. Гэта трыумф ідэі нацыянальнай дзяржавы і параза імперыі, якая мела падмуркам «інтэрнацыяналістычную», «класавую» ідэалогію, дзе слова «нацыяналіст» мела крымінальны сэнс і любоў да роднай зямлі трактавалася як здрада Маскоўскаму Крамлю. Хвалі разбуральна-стваральнага выбуху на тэрыторыі «адной шостай» дайшлі да Чэха-Славакіі (у гэтай краіне чэхі былі схільныя глядзець на славакаў, як на «братоў меншых») і Югаславіі, дзе сербы фактычна мелі статус народа-гегемона. На руінах «шматковых» дзяржаў ствараюцца дзяржавы нацыянальныя. Водгулле выбуху чуецца ў Вялікабрытаніі, Бельгіі, Іспаніі — краінах, дзе ёсць шурпатасці ў міжнацыянальных стасунках. Праўда, надзейны механізм заходняй дэмакратыі дазваляе пазбегнуць трагедыі.**

**Уз'яднанне Германіі — гэта яшчэ і перамога здаровага жыццёвага сэнсу над кабінетнымі палітычнымі дактрынамі. Дзяржава з больш дасканалай эканомікай падпарадкавала сабе другую, дзе эканоміку спрабавалі падпарадкаваць ідэалагічнаму і палітычнаму таталітарызму. Калі глядзець на ўз'яднанне без патэтыкі, дык атрымаецца, што Федэратыўная Рэспубліка проста купіла ГДР з усімі яе заводамі і палеткамі, лясамі і рэкамі, гарадамі і вёскамі, і нават з чужым войскам, што размешчана там з 1945 года.**

**3 кастрычніка — Дзень Германскага адзінства і вялікі дзень у гісторыі Еўропы. Бо без аб'яднанай Германіі не магло быць аб'яднанай Еўропы, а цяпер гэта рэальнасць.**

**Сёння нават чалавек, знаёмы з эканомікай толькі на побытавым узроўні, ведае, адчувае, што Германія становіцца галоўным эканамічным партнёрам нашай краіны. Менавіта з Германіі ідзе большая частка гуманітарнай дапамогі Беларусі па чарнобыльскай лініі. І ўвогуле паступовае аддаленне ад палітычна непрадказальнай і эканамічна нестабільнай Расіі лагічна пабліжае Беларусь да ФРГ. І хоць старэйшае пакаленне ніколі не забудзе немцаў 1941—1944 гадоў на Беларусі, моладзь (а будучае за ёю) мае ўжо іншае ўяўленне аб Германіі. Для іх, маладых, Германія — краіна, якая здолела адрадзіцца пасля вялікага маральнага заняпаду, пераадолець цяжкую спадчыну таталітарызму, прайсці праз пакаянне і пабудаваць моцную, прыгожую і дэмакратычную дзяржаву. Таму ў гэты дзень мы віншуем германскі народ з яго нацыянальным святам.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

## ПРАЦЯГ СЯБРОЎСТВА

З 24 па 30 верасня ў Беларусі прайшлі Дні Балгарыі. За тыдзень адбылося нямала цікавых сустрэч. І кожная з іх прынесла тую радасць, якая бывае звычайна, калі сустракаюцца людзі, што маюць шмат агульнага, супольнага як у сваіх учарашніх, так і сённяшніх справах.

Паразуменне панавала падчас урачыстага адкрыцця Дзён у тэатры імя Янкі Купалы. Радасныя хвіліны сустрэчы з сапраўдным мастацтвам перажылі тыя, хто завітаў у Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, дзе працавала выстаўка мастака В. Міхайлава, аднаго з найбольш ярніх прадстаўнікоў сучаснай балгарскай графікі. Прынесла задавальненне і знаёмства з хорам «Гармонія» з маладзёжным танцавальным калектывам імя Я. Сандаскі.

Маршруты Дзён пралеглі ў Заслаўе, Магілёў, Полацк, іншыя гарады і населеныя пункты нашай рэспублікі.

Адметнасць святу надало і тое, што ў ім актыўны ўдзел прымалі прадстаўнікі праваслаўнай царквы з абодвух бакоў.

## ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ—ПАД СУД?

Адзін здымак зроблены 8 верасня на пляцы Незалежнасці за некалькі гадзін да пачатку свята. На ім вы бачыце мастацкае аздабленне, спраектаванае і выкананае сябрамі творчай суполкі «Пагоня». Другі зроблены праз некалькі дзён у майстэрні Л. Талбузіна, аднаго з аўтараў эталона Дзяржаўнага герба, аднаго з распрацоўшчыкаў і выканаўцаў аздаблення плошчы. Мастак побач з рэшткамі свайго твора, знішчанага варварамі. Гэта абпаленае бел-чырвона-белае палотнішча ўспрымаецца як сімвал барацьбы і пакут, цяжкага шляху Рэспублікі Беларусь да сапраўднага суверэнітэту.

На мінулым тыдні ў газеце «Рэспубліка» былі надрукаваны развагі следчага Я. Камко, якому даручана весці крымінальную справу па факце знішчэння дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь у ноч з 8 на 9 верасня. Таварышу следчаму відавочна вельмі даспадобы версія, што бел-чырвона-белы сцяг з «Пагоняй» згарэў у выніку кароткага замыкання электрычнай праводкі. З публікацыі вынікае, што засталося толькі, каб эксперты пажарнай аховы пацвердзілі ягонае меркаванне, і справу са спакойным сумленнем можна закрываць і здаваць у архіў. Следчы нават папракнуў журналістаў, якія ўздымаюць шум вакол такой, нібыта, несур'ёзнай справы, бачаць у знішчэнні бел-чырвона-белага сцяга антыдзяржаўны акт.

Высновы таварыша Камко не могуць не здзіўляць, калі браць да ўвагі, што следства з самага пачатку мела рэчавыя доказы наўмыснага злачынства. Па абпаленых рэштках сцяга лёгка высветліць (было б жаданне), якім гаручым рэчывам карыстаўся злачынец. Тым болей, што балончык-пырскалка быў знойдзены на месцы злачынства і перададзены ў пракуратуру. Па словах сведкаў, побач з балончыкам былі абгарэлыя запалкі. Сапраўды: сляпы той, хто не хоча бачыць, і глухі той, хто не хоча чуць.

Цяжка ўявіць, што на плошчы, якая ўдзень і ўначы «абстрэльваецца» тэлекамерамі службы бяспекі, дзе за парадкам кругласутачна сочыць міліцэйскі пост і пост АМАПа, а праз пэўныя адрэзкі часу па плошчы праязджае патрульная машына — ніхто не звярнуў увагу на тое, што рабілася за два крокі ад Дома ўрада. Варта высветліць, чаму міліцыянты, з якімі арганізатары Свята беларускай вайсковай славы афіцыйна дамовіліся аб ахове мастацкага аздаблення плошчы ў ноч з 8 на 9, не з'явіліся на пост. Чаму, нарэшце, названыя вышэй паставыя бачылі, як гарэў дзяржаўны сцяг, і не выклікалі тут жа ўначы следчую групу на месца злачынства? А раніцай, як вядома, быў дождж...

Скончыць хацелася б рытарычным пытаннем да чытачоў. Як, на вашу думку, ці знойдзе злачынцаў следчы, які пачынае допыт сведкі словамі: «Ну как тебя, такого молодого, угораздило связаться с БНФ? Положа руку на сердце, скажи, разве вы выиграете референдум? По-отечески тебе советую...» (і далей у такім стылі)?

**П. В.**





Фота У. ПАНАДЫ і У. КАРМІЛКІНА.

## Вера, народжаная са смутку

Сустрэчы з дзеячамі літаратуры і мастацтва ў Літаратурным музеі Янкі Купалы сталі традыцыйнымі. Аднак гэтая розніцца ад папярэдніх. Навуковыя супрацоўнікі Купалавага дома, вучні сталічных школ, навучэнцы Мінскага тэхналагічнага тэхнікума не проста сабраліся на чарговую сустрэчу. Іх аб'яднала любоў да творчасці паэта Міколы Мятліцкага, жаданне яшчэ раз перагарнуць старонкі яго кнігі «Палескі смутак», вылучанай, як вядома, сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Пра М. Мятліцкага, як пра аднаго з найбольш таленавітых прадстаўнікоў літаратараў, якое набліжаецца да свайго саракавога рубяжа, гаварыў намеснік дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы БАН, доктар філалагічных навук Уладзімір Гніламёдаў. М. Мятліцкі, падкрэсліў ён, піша, няхай гэтыя словы не пададуцца гучнымі, з думкай пра народ. У сваіх вершах, асабліва ў кнізе «Палескі смутак», ён выступае супраць бяспамяцтва, супраць тых самых духоўных Чарнобыляў, якія могуць прынесці новыя беды, калі не адумацца, не занепакоіцца. Са смутку, страшнага чарнобыльскага смутку нараджаецца ягоная вера, вера, якая надае ўпэўненасці, аптымізму і яго чытачам.

Пра шлях, які прайшоў М. Мятліцкі ад першага паэтычнага зборніка «Абеліск у жыцці» да «Палескага смутку», пра тое, як паэт, працягваючы купалаўскую традыцыю, стаў песняром мясцін, найбольш блізкіх і дарагіх яму, гаварыла Хрысціна Лялько.

Вершы з кнігі «Палескі смутак» гучалі ў выкананні навучэнцаў тэхналагічнага тэхнікума.

Загадчыца сектара Купалавага музея М. Чабатарэвіч ад імя прысутных выказала думку, што кніга М. Мятліцкага «Палескі смутак» заслугоўвае Дзяржаўнай прэміі. Вырашана з такой думкай звярнуцца ў Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры і мастацтва.

**НАШ КАР.**


Фота У. КРУКА.



Мінулы тыдзень стаўся пікам святкавання 1000-годдзя хрысціянства (праваслаўя) на Беларусі. Урачыстасці прайшлі ў Менску, Заслаўі, Полацку. У праграме святкавання: навуковая канферэнцыя, крыжовыя хады і набажэнствы, малебны, літургіі. Хада свята даволі падрабязна асвятлялася ў друку. Мы ж прапануем увазе нашых чытачоў слова народнага паэта Беларусі, пісьменніка **Ніла Гілевіча** на адкрыцці навуковай акадэмічнай канферэнцыі, што праходзіла 25 верасня ў АН Рэспублікі Беларусь.

## «Калі Божы храм і народ загавораць адною мовай...»

Паважаныя навукоўцы і святары, удзельнікі і госці канферэнцыі!

Тысячагадовы шлях, які прайшла Беларусь пад благаславенным сяйвом хрысціянскай веры, мы азіраем, вядома ж, не толькі для таго, каб паганарыцца мінулым або настальгічна паўздыхаць па незваротна страчаным, а ў першую чаргу для таго, каб, дакрануўшыся душой да вытокаў, лепш зразумець сябе сённяшніх і лепш, ясней убачыць свой заўтрашні дзень — будучыню краіны, якой належым. Зрэшты, усе вялікія даўнія даты для таго і напамінаюць пра сябе, каб людзі і народы не забывалі пра свой абавязак — пройдзенае, перажытае, зробленае асэнсоўваць у гістарычнай перспектыве, з мэтанакіраваным паглядам у будучыню, з усведамленнем урокаў сваёй гістарычнай жыццядзейнасці. Тысячагоддзе праваслаўнай епархіі на землях Беларусі бясспрэчна такою вяхою для нас і з'яўляецца. Мы ўшаноўваем гэту дату з разуменнем той велізарнай ролі, якую адыграла праваслаўная царква, па-першае, у духоўным і культурным развіцці беларускага народа па пачатку крышталізацыі яго этнапсіхалогіі, нацыянальнай самасвядомасці, свайго ўласнага менталітэту, а па-другое — у станаўленні і ўмацаванні беларускай дзяржаўнасці — спярша ў абліччы Полацкага княства, а затым — у абліччы Вялікага княства Літоўскага.

На грунце высакароднай чалавекалюбнай хрысціянскай маралі ішло, з аднаго боку, пашырэнне пісьменства, кніжніцтва, школьнай асветы, прафесіянальнай мастацкай культуры, на Беларусі, а з другога боку — адбывалася натуральнае фарміраванне дзяржаўна-патрыятычных поглядаў, боскае асвячэнне права на свой уласны дзяржаўны пасад між дзяржавамі. Ажыццяўленне гэтых дзвюх місій у іх непарыўнай спалучальнасці было плённым і перспектыўным, аднак, толькі да таго часу, пакуль царква абапіралася на прыродныя духоўныя апоры народнага быцця — на адвечныя звычаі і традыцыі народа, на яго бытавую абраднасць, на яго незвычайны багаты фальклор, а ў першую чаргу — на мову гэтай зямлі на жывую моўную стыхію, у якой усебакова выяўлялася душа народа. Калі ж гэтыя прыродныя апоры пачалі ігнаравацца і падменьвацца іншымі — тады і пачаліся нелады ў духоўным жыцці грамадства, і нарэшце наступіў той поўны драматызму разлад, вынікі якога з'яўляюцца для сённяшняй беларускай праваслаўнай царквы цяжкай спадчынай. Я кажу аб праваслаўнай царкве, але сказанае цалкам стасуецца і да хрысціянскай царквы заходняй, каталіцкай.

Трагічны парадокс нашай гісторыі Заклапочаная маральным станам і духоўным развіццём народа, царква намагалася палепшыць гэты стан і паспрыяць гэтаму развіццю, заняўшы пазіцыю адчужэння ад этнічных беларускіх асноў, ад першаэлементу нацыянальнай культуры — мовы беларускага народа, пайшоўшы на падтрымку імперскай палітыкі асіміляцыі, — будзем сёння гаварыць пра гэта шчыра, як ёсць. Адсюль і тая ненармальная адсутнасць належнага духоўнага супрацоўніцтва творчай і навуковай беларускай інтэлігенцыі з царквою — з'ява, як вы разумееце, вельмі і вельмі непажаданая, бо ад гэтага церпіць агульная справа духоўнага адраджэння нацыі, маральная і палітычная стабільнасць нашага грамадства. Гэта ва ўсіх адносінах вельмі кепска, калі храм Божы і нацыянальна-патрыятычная інтэлігенцыя раз'яднаны. І асабліва кепска ва ўмовах станаўлення нашай Беларускай дзяржавы, якое рашуча вымагае кансалідацыі ўсіх грамадскіх сіл. Прыгадаем, для прыкладу якую незаменную ролю ў перыяд нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Балгарыі адыграла Балгарская праваслаўная царква: усе яе храмы і манастыры былі не толькі магутнымі асяродкамі захавання нацыянальнага духу, вогнішчамі балгарскай веры, але і асяродкамі барацьбы за нацыянальнае вызваленне. З ліку святароў выйшлі многія выдатныя дзеячы балгарскай літаратуры і мастацтва, і нават асобы, якія з'яўляюцца нацыянальнымі героямі Балгарыі.

Зразумела, што мы глядзім наперад і верым у скоры надыход часу, калі Божы храм і народ на Беларусі будуць гаварыць не рознымі мовамі, а адною — моваю гэтай зямлі, калі адраджэнне веры Хрыстовай у душах чалавечых у поўнай меры будзе супадаць з адраджэннем беларускай нацыянальнай і дзяржаўнай самастойнасці, беларускай мовы і культуры.

На гэтай аптымістычнай ноце я і хацеў бы закончыць сваё кароткае прывітанне. Ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і ад сябе асабіста сардэчна віншую з тысячагадовым юбілеем праваслаўнай царквы на Беларусі і зычу плённай працы акадэмічнай навуковай канферэнцыі.

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

ДУМКА ЧЫТАЧА

# БАЙСТРУК ГІСТОРЫІ ЦІ ЗАКОННАЕ ДЗІЦЯ КУЛЬТУРЫ?

Нетрадыцыйнасць міжнароднай навуковай канферэнцыі «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці», што праходзіла 19—20 жніўня г. г. у Маладзечне, заключалася не толькі ў форме яе правядзення, месцы работы, але і ў самой назве. «У той час, калі ў іншых краінах свету хвалюючымі з'яўляюцца праблемы павышэння матэрыяльнага дабрабыту, — адзначаў у прывітальным слове народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, —значныя высілкі нашых інтэлектуальных сіл ідуць зараз на тое, каб паказаць сваю адметнасць ад другіх». Але той факт, што праблематыка канферэнцыі зацікавіла беларускіх навукоўцаў і беларусістаў з розных краін свету, сведчыць аб велізарным і навуковым, і практычным яе значэнні.

Нацыянальная свядомасць — катэгорыя не матэрыяльная, але яе скажэнне і таптанне на працягу папярэдніх дзесяцігоддзяў палітыкі татальнай русіфікацыі з'яўляюцца прычынай таго, што дзяржаўная палітыка незалежнай Беларусі яшчэ не з'яўляецца поўнасцю **нацыянальнай** (ад лацінскага natio—народ). Ці не таму з кожным днём пагаршаецца матэрыяльны дабрабыт нашых суайчыннікаў? Неспрыяльныя гістарычныя ўмовы развіцця, адсутнасць сваёй дзяржаўнасці і суверэнітэту спрыялі таму, што беларусы паступова трацілі сваю нацыянальную адметнасць (па перапісе насельніцтва 1989 г. амаль кожны пяты беларус заявіў, што яго роднай мовай з'яўляецца руская). Беларускасць звязвалася (нават працягвае і зараз разглядацца асобамі з імперскім мысленнем) толькі з песнямі, што збераглісія вяскоўцамі, з гаршкамі і калаўротам.

Сучасная незалежнасць Рэспублікі Беларусь, на маю думку, тлумачыцца больш палітычнымі зрухамі ў былым СССР, чым унутранымі зменамі ў нацыянальнай свядомасці беларусаў. Невыпадкова таму, як выказаўся на канферэнцыі доктар Янка Запруднік з Нью-Йорка, на беларускую дзяржаўнасць глядзяць у свеце, як на «байструка гісторыі».

Аднак ні паланізацыя, ні русіфікацыя, што негатыўна ўздзейнічалі на свядомасць беларусаў, не змаглі яе «размыць». Дзяржаўная незалежнасць Беларусі дае магчымасць адрадзіць генетычную памяць народа, перш-наперш праз выхаванне маладога пакалення. Для гэтага ёсць у нас і духоўныя, маральныя падставы (цяга моладзі, асабліва студэнцкай, да сваёй гісторыі, культуры, традыцый), і прававыя.

Аб тым, што студэнцтва хвалюе лёс нацыянальнага адраджэння ў сённяшніх цяжкіх эканамічных варунках, сведчаць вынікі анкетавання «Нацыянальная школа і грамадская думка», праведзенага аўтарам гэтых радкоў у мінулым навучальным годзе сярод студэнтаў Брэсцкага педінстытута. Наконт адносін да звужэння сферы карыстання беларускай мовай у рэспубліцы 64,1 % апытаных аднесліся адмоўна, сярод іх большасць (42,9 % усіх рэспандэнтаў) выказалася за неадкладныя меры, каб выправіць становішча. Аб тым, што ў ходзе працэсу навучання важна і мова, на якой ён вядзецца, і яго нацыянальная накіраванасць, выказаліся 68,4%. Будучыя настаўнікі ў ліку першачарговых мер па адраджэнні нацыянальнай школы выдзелілі неабходнасць нацыянальнага выхавання з дашкольнага ўзросту — 77,5 %.

Гэтая духоўная падстава (цяга да ўсяго свайго, нацыянальнага) патрабуе такога зместу адукацыі, каб пасля сканчэння ВНУ моладзь была не проста «кадрамі з вышэйшай адукацыяй Паўночна-Заходняга краю былога СССР» (словы з даклада на канферэнцыі Аляксея Каўкі), а беларускай інтэлігенцыяй. Ёсць для гэтага і юрыдычныя падставы: Закон аб мовах, Дзяржаўная праграма развіцця беларускай і іншых нацыянальных моў у рэспубліцы, Закон аб адукацыі і інш.

Аднак нацыянальнае адраджэнне, у тым ліку і ў адукацыі, ідзе марудна. Прычыны таму не толькі суб'ектыўныя (нежаданне людзей «абцяжарваць» сябе авалоданнем беларускай мовы і г. д.), але і аб'ектыўныя, галоўная з якіх— прававы нігілізм. Старанні працаўнікоў адукацыі могуць доўга не даць плёну, таму што амаль уся інфармацыйная прастора ў рэспубліцы застаецца пераважна небеларускамоўнай. Не надта многа можна пачуць і назваў малых і сумесных прадпрыемстваў, дзе адчуваўся б нацыянальны каларыт. У адной толькі Брэсцкай вобласці больш за 700 новых прадпрыемстваў, па назвах якіх нельга вызначыць іх геаграфічную прыналежнасць — «Арго», «Абан», «Джэйн», «Гея», «Відзы», «Марго», «Грэгас» і інш. Адзінкі з іх у рэспубліцы спрыяюць беларускасці: МП «Крок уперад», якое затраціла сотні рублёў на выданне ў 1992 г. гісторыка-культуралагічнага зборніка «З глыбі вякоў. Наш край», дзе адкрываюцца новыя старонкі з нашай мінуўшчыны, ці маладзечанскі «Бізнес-цэнтр», які выступіў адным з фундатараў жнівеньскай навуковай канферэнцыі, і некаторыя іншыя. Гэта не дзівацтва, калі ўспомніць мецэнатаў з нашай айчыннай гісторыі —Магдалену Радзівіл, якая на свае грошы друкавала зборнік Максіма Багдановіча «Вянок» і інш. На жаль, рэчаіснасць прадпрымальніцтва Беларусі сумная: нараджаецца і сталее слой кампрадорскай буржуазіі, для якой не існуе нацыянальных інтарэсаў.

Менавіта крытычнасцю сітуацыі ў эканоміцы і ў духоўным жыцці тлумачыцца рашучасць і жорсткасць радыкальных мер, што прапанаваў прафесар Яўген Шыраеў («ЛіМ», 7.08.1992). Лічу, перш чым прымаць нейкія радыкальныя меры, трэба вярнуцца да прававога падмурку. Зараз законы, якія датычаць нацыянальнага адраджэння, ігнаруюцца. Неабходна звярнуцца да вопыту палітыкі беларусізацыі 1920-х гадоў, калі побач з асноўнымі і пераважна агітацыйна-прапагандысцкімі сродкамі да чыноўнікаў і работнікаў адукацыі, што сабатавалі, прымяняліся і прымусовыя, адміністрацыйныя меры. Дзеля эфектыўнасці каардынацыі беларусізацыі школы пры Народным камісарыяце асветы БССР тады быў створаны Беларускі аддзел, а на месцах—беларускія секцыі пры органах народнай адукацыі. Варта і зараз было б пры рэарганізацыі сістэмы кіравання адукацыяй паклапаціцца аб падобных структурных адзінках на ўсіх яе ўзроўнях, у ВНУ. Дзеючыя законы патрабуюць і пэўнай дапрацоўкі. Напрыклад, на сёння пры атэстацыі педагагічных кадраў, прысуджэнні вучоных ступеняў і прысваенні званняў у Рэспубліцы Беларусь чамусь не патрабуецца абавязковае веданне і практычнае выкарыстанне дзяржаўнай мовы ў дзяржаўнай установе.

Калі мы хочам, каб нас паважалі, то трэба паважаць і сябе, сваю працу, усведамляць свой маральны абавязак перад народам, але памятаць і аб юрыдычнай адказнасці. Бо «каб краіна магла жыць,—як пісаў Адам Міцкевіч,—трэба, каб жылі правы».

**Аляксандр ВАБІШЧЭВІЧ,**
**выкладчык Брэсцкага педінстытута, член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

**19—20 жніўня 1992 г. у г. Маладзечне адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў», падрыхтаваная Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь пры ўдзеле Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Маладзечанскага гарвыканкама. На ёй прысутнічалі вядомыя даследчыкі — гісторыкі, філолагі, мастацтвазнаўцы, географы, этнографы, іншыя спецыялісты — з розных гарадоў Беларусі, а таксама з Англіі, Аўстрыі, Германіі, ЗША, Польшчы, Расіі, Украіны, Швейцарыі.**

**На пленарных пасяджэннях і секцыях удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі гістарычныя, сацыяльна-палітычныя і гуманітарныя аспекты развіцця нацыянальнай самасвядомасці беларусаў як найвышэйшага фактара дзяржаўнага, духоўнага і эканамічнага адраджэння Беларусі, яе ўваходжання ў еўрапейскую і сусветную супольнасць дзяржаў і народаў. На аснове тэарэтычных высноў і канкрэтных прапаноў прысутныя на гэтым навуковым форуме палічылі неабходным зрабіць дзяржаўным органам, навуковым, творча-мастацкім і грамадскім арганізацыям, установам адукацыі і культуры, сродкам масавай інфармацыі, усім грамадзянам Рэспублікі Беларусь наступныя рэкамендацыі (падаём іх са скарачэннямі. — Рэд.).**

# РЭКАМЕНДАЦЫІ

## МІЖНАРОДНАЙ НАВУКОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ «ФАРМІРАВАННЕ І РАЗВІЦЦЁ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАСВЯДОМАСЦІ БЕЛАРУСАЎ»

За апошнія два стагоддзі на Беларусі праводзілася татальная русіфікацыя і, часткова, паланізацыя органаў дзяржаўнага кіравання, народнай адукацыі і друку. Не прызнавалася нацыянальная суверэннасць і культурная самабытнасць беларускага народа. У выніку гэтага сёння моцна падарваны, а ў некаторых сацыяльных групах поўнасцю разбураны універсальныя сімвалы самасвядомасці беларусаў, носьбіты іх духоўнасці — родная мова, аўтэнтычны фальклор, традыцыйны нацыянальны лад жыцця, рэлігія. Нацыянальнае адраджэнне Беларусі, яе сацыяльна-эканамічнае і духоўнае абнаўленне немагчымы без радыкальнага рэфармавання ўсіх звенняў дзяржаўнага і грамадскага кіравання, народнай асветы ўсіх узроўняў, установ навукі і культуры, сродкаў масавай інфармацыі.

Канферэнцыя звяртае ўвагу цэнтральных і мясцовых органаў дзяржаўнай улады, кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, усіх грамадскіх арганізацый на неабходнасць безумоўнага і своечасовага выканання Закона аб мовах у Беларусі і Закона аб культуры Беларусі. Гэтай задачы павінна быць падпарадкавана кадравая палітыка на ўсіх узроўнях. Трэба падтрымаць беларускі друк, нацыянальныя кнігавыдавецтвы, Таварыства беларускай мовы, іншыя ўстановы і арганізацыі ў іх ганаровай працы, скіраванай на вяртанне гістарычных правоў грамадзян Беларусі на сваю родную мову і нацыянальную культуру.

Неабходна садзейнічаць эканамічнаму і духоўнаму адраджэнню сялянства, беларускай вёскі — сацыяльнай асновы беларускай мовы, культуры, нацыянальнага ладу жыцця. Вельмі важна, каб беларускія гарады і мястэчкі з цэнтраў масавай дэнацыяналізацыі беларусаў ператварыліся ў асяродкі беларускай культуры, сталі цэнтрамі духоўна-нацыянальнага адраджэння Беларусі.

Наспела пара істотна палепшыць філалагічную, гістарычную, філасофскую, эканамічную адукацыю ў рэспубліцы, духоўна-этычнае, рэлігійнае, эстэтычнае і патрыятычнае выхаванне дзяцей і моладзі; адрадзіць лепшыя традыцыі беларускай нацыянальнай педагогікі, увесці на філалагічных факультэтах курсы славістыкі, класічнай філалогіі, раманістыкі, арыенталістыкі і інш. у адпаведнасці з профілем навучальных установ, выкладаючы іх на беларускай мове і на аснове традыцый беларускай філасофіі, заснаваць адпаведныя кафедры ва універсітэтах, педінстытутах, іншых навучальных установах.

Дзяржаўным культурна-асветным установам і грамадскім арганізацыям рэкамендуецца не дапусціць разбурэння аўтэнтычнага фальклору, падмены яго другаснымі формамі арганізаванай самадзейнасці. Трэба наладзіць сістэму дзяржаўнай і грамадскай аховы фальклору —крыніцы моватворчасці і прафесійнага мастацтва; стварыць навуковыя цэнтры беларускага этнамузыказнаўства, дзе спалучыць распрацоўку тэарэтычных і практычных праблем музычнай фалькларыстыкі на прафесійнай аснове. Прапанаваць Міністэрству адукацыі ўвесці выкладанне фальклору ў школе.

Звернута ўвага цэнтральных і мясцовых улад, Міністэрства культуры, іншых устаноў і арганізацый на тое, каб прыдаць вонкаваму выгляду гарадоў і вёсак беларускае нацыянальнае аблічча, забяспечыць беларускамоўнае афармленне назваў вуліц, шыльдаў і іншых сродкаў візуальнай арыентацыі. Неабходна вярнуць гарадам і вёскам іх традыцыйныя найменні, надаць вуліцам нашых гарадоў імёны выдатных гістарычных асоб Беларусі, вучоных, асветнікаў, пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва.

Удзельнікі канферэнцыі падтрымліваюць нацыянальна-культурнае адраджэнне ўсіх нацыянальных супольнасцей Беларусі. Варты ўхвалы намер татараў-мусульман Беларусі аб выданні іх свяшчэннай кнігі «Аль-Кітаб» на мове арыгінала.

Удзельнікі канферэнцыі падтрымалі прапанову дацэнта Д. Карава (Гродна) пра рэалізацыю і фінансаванне навуковага праекта «Гістарычная памяць беларусаў: фарміраванне гістарычнай свядомасці, гістарычнай думкі і гістарычнай навукі на Беларусі ў XIII—XX стст.», які распрацоўваецца даследчай групай Гродзенскага універсітэта і Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.

ДАЗВОЛЬЦЕ, ДЗЯДЗЕЧКА...

# НАЙВЯЛІКШЫЯ НАШЫ КАШТОЎНАСЦІ

**Ідзе свядомы сабатаж незалежнасці і суверэнітэту Беларусі як унутранымі прыхільнікамі савецкай імперыі, так і Расіяй. Ад пачатку было ясна: Рэспубліка Беларусь — нежаданае дзіця камуністычнай наменклатуры, узгадаванай на лепшых канонах нацыянальнага нігілізму і халопства. Яна ім мыслілася як часовы прытулак на выпадак непажаданага развіцця падзей у, як ім здавалася, антыкамуністычнай Расіі. Час хуценька зняў мікраскапічны флёр дэмакратыі з расійскіх «дэмакратаў». Аказалася, што кароль голы. Першую пасляпутчавую заяву бліжэйшага паплечніка Ельцына пра наяўнасць у Расіі тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў прынялі як пасляпутчавую эйфарыю. Падтрымка Расіяй прыднястроўскіх мяцежнікаў таксама нікога не ўсхвалявала ў Беларусі, пракамуністычны рускафільны друк з сімпатыяй апавядаў пра барацьбу «русскоязычного населения» супраць законнага ўрада Малдовы.**

**Большасць рэспубліканскіх сродкаў масавай інфармацыі ніколі не вызначаліся беларускім патрыятызмам, бо былі плоць ад плоці КПБ-КПСС. І пасля надання моцы канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб суверэнітэце яны па-ранейшаму ігнаруюць нашу дзяржаўнасць, інтарэсы нашага народа. Упарта сцвярджаецца, што СНД як бы нейкая дзяржава, а Беларусь толькі яе частка.**

**Як афіцыйныя асобы, гэтак і друк вядуць гаворку пра ўмацаванне заходняй мяжы Беларусі. Як гэта можа быць у Беларусі мяжа толькі з аднаго боку?**

**Беларусь не брала ўдзелу ў прыняцці рашэння аб вывадзе савецкіх войск з краін Усходняй Еўропы і дамоўленасці пра іх перадыслакацыю ў Беларусь ні з кім не мае. Чаму ж тады будуюць новыя паселішчы для расійскай арміі па ўсёй рэспубліцы? Навошта нам чужое, па сутнасці, акупацыйнае, войска на нашай зямлі?**

**Частка афіцэрства яшчэ думае, браць ці не браць прысягу на вернасць народу Беларусі. Унікальная з'ява! Ядуць наш хлеб, карыстаюцца ўсімі выгодамі, і не хочуць нам служыць! У арміі здзекуюцца з нашай незалежнасці, нашых ідэалаў свабоды і дэмакратыі. А камуністычны «русскоязычный» урад устыч гэтага не заўважае...**

**Ідзе свядомы сабатаж Закона аб мовах. Працэс вяртання беларускай мовы фактычна прыпынены. Вольна пачуваюць сябе ў суверэннай дзяржаве розныя праімперскія антыбеларускія сілы (паслядоўнікі Жырыноўскага, усялякія «саборы»), кожнае слова ў абарону беларушчыны па-ранейшаму кваліфікуецца як праява «нацыяналізму».**

**Няздольны вырашаць эканамічныя праблемы ў новых умовах незалежнасці, наменклатурны ўрад шукае выйсця ў цесных абдымках Расіі, спадзеючыся на нейкія міфічныя льготы. Кожны раз аказваецца, што льготы эфемерныя, а залежнасць большая.**

**Аніяк нельга пагадзіцца з тым, што маленькая Беларусь будзе падстаўляць сваю тэрыторыю і свой народ дзеля абароны Расіі. Навошта нам расійскія ядзерныя базы? Навошта нам расійскія войскі? Ці не застаецца нам папрасіць патэнцыяльных ворагаў Расіі, калі ім так ужо хочацца ваяваць з ёю, хоць раз пашкадаваць Беларусь і пайсці іншым шляхам на Маскву?**

**За ўсімі гэтымі ганебнымі падзеямі стаіць прывід (ці ж прывід?) — КПБ. Духоўна кампартыя заўжды была антынароднай, антыбеларускай.**

**Пагадненні, што хоць чым-небудзь супярэчаць Дэкларацыі аб суверэнітэце, мусяць быць перагледжаны. Заява Кебіча аб намерах канфедэрацыі з Расіяй мусіць быць дэзавуіравана.**

**Дзеля вываду расійскіх войск мусяць быць вызначаны прымальна сціслыя тэрміны.**

**Закон аб мовах мусіць быць перагледжаны ў тым сэнсе, што тэрміны пераходу на беларускую мову трэба скараціць, а таксама прадугледзець адказнасць за яго ігнараванне ці невыкананне.**

**Зянона Пазняка рускафільныя выданні паспяшаліся абвінаваціць у распальванні антырускіх настрояў, калі ён сказаў, што дэмакратыі ў Расіі прыйшоў канец, што яна вяртаецца ў свой імперскі стан. Хіба гэта не праўда?**

**Суверэнітэт, незалежнасць, нейтралітэт, узаемапавага — найвялікшыя каштоўнасці, ключ да дабрабыту, міру, гарантыя добрага жыцця нашым дзецям і дзецям нашых дзяцей. Ад страты гэтых ключавых набыткаў у Беларусі не выйграе ніхто.**

**М. БУСЕЛ.**

**Уладзімір КОНАН**

# АД СУПЯРЭЧНАСЦЕЙ ДА ЗМЕН

## Нацыянальнае адраджэнне і некаторыя праблемы беларускай прозы



**У канцы мая, пра што «ЛіМ» паведамляў, на пашыраным пасяджэнні Рады СП Беларусі абмяркоўвалася праблема «Нацыянальнае адраджэнне і сучасны літаратурны працэс». З дакладамі і аналітычнымі паведамленнямі выступілі: па прозе — Уладзімір Конан, па паэзіі — Алег Лойка, па літаратуры беларускай эміграцыі — Барыс Сачанка. Сёння мы друкуем артыкул У. КОНАНА, у аснову якога пакладзены даклад са згаданага пасяджэння.**

У СВАІХ «Лекцыях па эстэтыцы» Гегель некалі заўважыў: лірычная паэзія квітнее ва ўсіх народаў; затое іншыя роды літаратуры і віды мастацтва, за невялікім выключэннем, набываюць прыкметы прафесіяналізму толькі тады, калі нацыя стварае сваю дзяржаву, якая клапоціцца пра нацыянальную культуру і забяспечвае грамадскую падтрымку сваім пісьменнікам, мастакам, артыстам, музыкантам. Гісторыя беларускай літаратуры ды мастацкай культуры пацвярджае гэтую думку нямецкага філосафа.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 20-я гады ды й пазней даклады (а іх было тады шмат) звычайна пачыналіся з інфармацыі пра «бягучы момант» (па-расійску — «текущий момент»). Сёння, пасля «славной августовской революции», як назваў былы прэзідэнт ЗША Р. Ніксан памятныя жнівеньскія падзеі 1991 г., здаецца, наступіў у нечым падобны час, калі мы зноў будзем пачынаць нашыя сумоўі з аналізу цяперашняга «бягучага моманту», не ведаючы, між тым, куды імкне час і да якога прыстанку ён нас прывядзе. Галоўны наш пісьменніцкі клопат — гэта выжыванне беларускай нацыі, нацыянальнай культуры, роднай мовы, літаратуры, мастацкай і, шырэй, духоўнай культуры.

Што датычыцца сучаснага «бягучага моманту», у якім апынулася нашая літаратура, то я паспрабаваў ахарактарызаваць яго (пэўна, у нечым суб'ектна) у дзвюх лімаўскіх публікацыях: у артыкуле «Муза паэзіі і малох рынку» (падсумаванне анкеты «ЛіМа», 21 студз. 1992 г.) і ў нядаўна апублікаванай у нашым штотыднёвіку гутарцы з карэспандэнтам Юрасём Залоскам «Народ пачынаецца з каранёў. Ад іх яму наканавана ўзыходзіць да неба» («ЛіМ», 8 мая 1992 г.). Спадзяюся, што мае калегі-пісьменнікі азнаёміліся з гэтымі публікацыямі. У дапаўненне скажу тое, што турбуе ўсіх нас, хто мае гонар належаць да беларускай творча-мастацкай і навукова-гуманітарнай грамадскасці. Мы, беларусы, адраджаем сваю дзяржаўнасць, вяртаем сваю абкрадзеную гісторыю і сваю нацыянальную сімволіку на руінах нашай шматпакутнай нацыі. Бо яе сацыяльны падмурак — спрадвечная беларуская вёска сёння, мякка кажучы, напаўразбурана. Знікае з гістарычнай сцэны традыцыйнае сялянства, аддаўшы свае лепшыя творча-духоўныя сілы дэнацыяналізаванаму гораду.

Праблематычнасць нашай нацыянальнай будучыні вынікае з парадаксальнай сітуацыі, у якой як быццам адрадзілася беларуская дзяржаўнасць, але няма шырокай, масавай беларускай грамадскасці, якая толькі і магла б напоўніць фармальна-прававыя дзяржаўныя структуры нацыянальным сэнсам. Наша сённяшняя беларуская грамадскасць набыла ў апошнія дзесяцігоддзі характар транстэрытарыяльнага манастырскага ордэна, яна выглядае сёння вузкасаслоўнай, у значнай ступені прафесійнай элітай—у духоўным, а не ў сацыяльна-палітычным сэнсе гэтага паняцця.

У гэтай масавай дэнацыяналізацыі, у сённяшняй нацыянальна-моўнай немаце і невідушчасці адукаванага, а найбольш паўадукаванага грамадства — двухсэнсовае, нават праблематычнае становішча эпічных і драматургічных жанраў нашай літаратуры. Бо калі паэт ці яго лірычны герой (што ў рэшце рэшт адно і тое ж) выказвае свае думкі і пачуцці ў рафінаванай беларускай мове, то ў мяне, як чытача, не ўзнікае сумнення ў шчырасці і праўдзівасці яго выказвання: я веру, што ён сапраўды думае і адчувае па-беларуску. Калі ж герой аповесці ці рамана, скажам, сучасны тыповы бюракрат, былы партакрат, прафесар, дырэктар завода ці старшыня калгаса, гарадскі басяк самарэалізуецца ў сваіх дыялогах і ўнутраных маналогах у беларускай моўнай стыхіі, то я не магу пазбавіцца ад пачуцця дысгармоніі, неадпаведнасці паміж рэальным быццём і яго моўнамастацкім выяўленнем. У дадзеным выпадку чытач разумее, што аўтар робіць вымушаную «перакадзіроўку» — дэнацыяналізаванага быцця і русіфікаванай масавай свядомасці, выступаючы ў ролі перакладчыка з мясцовага расійскага жаргону альбо так званай трасянкі на беларускую літаратурную ці гутарковую мову. Невыпадкова, відаць, чуйныя да слова белетрысты апошнім часам карыстаюцца макаранічнымі дыялогамі і рэплікамі, прыўносячы такім чынам у свае творы элементы камізму, травестацыі нашага хімернага быцця. Аднак па вялікім рахунку — гэта скарэй нашая нацыянальная драма, а не камедыя.

Гэтая невырашальная ў блізкай перспектыве супярэчнасць паміж дэнацыяналізаваным быццём і нацыянальнай літаратурай прывяла апошнім часам да істотных структурна-жанравых, марфалагічных змен у сучасным літаратурным працэсе. Калі, напрыклад, у 70—80 гады ў нашай літаратуры пераважвала мастацкая проза ў жанрах рамана і аповесці, гэта значыць эпічная аб'ектыўна-дыялагічная форма мастацкага выяўлення жыцця, то сёння яе моцна пацясніла, а часам і выцесніла суб'ектыўна-маналагічная плынь у жанрах лірычнай, публіцыстычнай і медытацыйнай паэзіі, прытчы, актуальнай сацыяльна-палітычнай публіцыстыкі, белетрызаваных эскізаў, мемуараў і фрагментарных замалёвак сённяшняга нестабільнага, дэгуманізаванага, а нярэдка і дэмаралізаванага побыту. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова пагартаць нашыя літаратурныя часопісы за апошнія два гады.

Адступіла на трэці план, страціла свае пазіцыі традыцыйная для нашай літаратуры і раней папулярная «вясковая проза», за выключэннем хіба што яе рэтраспектыўна-гістарычнай плыні, якая ўсё яшчэ «сведчыць пра сябе». Прычыны тут не толькі аб'ектыўныя — сацыяльна-эканамічнае і духоўнае спусташэнне традыцыйнай вёскі (бо яна ўсё ж яшчэ жыве, захоўваючы хоць бы ў фрагментах нашыя традыцыйныя каштоўнасці), але і суб'ектыўныя — міфы сучаснай навукова-тэхнічнай, урбаністычнай свядомасці, стратэгічныя пралікі сацыяльных навук і сучаснай крытыкі, якая не заўсёды была справядлівая да «вясковай прозы».

Палітыкам, сацыёлагам і крытыкам ліберальна-прагрэсіўнага кірунку здавалася, што традыцыйная вёска адыходзіць у нябыт, яе месца заступае сучасная аграрная індустрыя. Але сёння эканамічны, сацыяльны і духоўны крызіс усходнееўрапейскага рэгіёну, здаецца, моцна астудзіў гэты эвалюцыйна-прагрэсіцкі энтузіязм. Дай Бог, каб я памыліўся, аднак мяне непакоіць прывід татальнага крызісу транскантынентальнай еўрапейска-амерыканскай суперіндустрыяльнай цывілізацыі. Па сутнасці яна вычэрпае свае ўнутраныя магчымасці, імкнецца захаваць сябе экстэнсіўным шляхам—напорыстай, а пагэтаму выбухова-небяспечнай экспансіяй у славянскім, азіяцкім і афрыканскім рэгіёнах. Не маю намеру запалохваць грамадскую думку, але лічу, што нават абстрактная перспектыва татальнага крызісу гарадской цывілізацыі павінна прымусіць нас трымаць у запасе вясковую мадэль быцця і культуры—калі не для сябе, то для сваіх нашчадкаў.

Не магу не закрануць яшчэ адну дэструктыўную тэндэнцыю ў літаратурнай сучаснасці — не так нашай беларускай, колькі агульнай еўраамерыканскай. Маю на ўвазе татальнае размыванне прафесіяналізму ў літаратуры. Яна ўвачавідкі страчвае свой статус мастацкага прарочага слова і становіцца, з аднаго боку, рамяством, нават індустрыяй, «літаратурным бізнесам», а з другога боку — самавыяўленнем для тых, хто не мае за душой агульназначных духоўных патэнцый. Можна было б прывесці шмат аргументаў на карысць гэтага песімістычнага тэзісу, але, эканомячы час, прывяду толькі адзін: прафесіянальнага пісьменніка-мастака энергічна пацясняе на сусветным кніжным рынку аматар-славалюб альбо банальны графаман. Сёння ў ролі «аўтараў» выступаюць прэзідэнты і рэзідэнты, спартсмены і бізнесменчы, артысткі і аферысткі, дамашнія гаспадыні і, урэшце, героі мафіі і крымінальнага падполля. Мне могуць запярэчыць: а якое ўся гэта квазілітаратура мае дачыненне да літаратурнага мастацтва? У тым якраз і бяда, што яна не мае нічога агульнага з мастацкім словам і гэтым самым размывае мяжу паміж мастацтвам і антымастацтвам, разбэшчвае густ публікі, у рэшце рэшт — спрашчае культуру.

Але ёсць яшчэ паняцце прафесіяналізму ў сацыяльным сэнсе: гэта калі пісьменнік самазабяспечваецца сваім літаратурным рамяством у добрым сэнсе гэтага слова. Гарантам захавання прафесіянальнага ўзроўню мастацкай творчасці з'яўляецца альбо дзяржаўны пратэкцыянізм у дачыненні да літаратуры ды іншых мастацтваў, альбо цывілізаваны кніжна-літаратурны рынак у спалучэнні з інстытутам дзяржаўнага, грамадскага і прыватнага мецэнацтва. Сёння ў нас моцна панізіўся ўзровень дзяржаўнай падтрымкі літаратуры, а шырокі рынак на беларускую кніжку немагчымы ва ўмовах масавай дэнацыяналізацыі і дэвальвацыі традыцыйных грамадскіх і духоўных арыентацый. Калі вершы часам можна пісаць па натхненні і сумяшчальніцтве з асноўнай службай альбо працай, то для аповесці і рамана патрэбна мець у запасе хоць год вольнага часу. І вось аказваецца, што ў гэткім сацыяльна-эканамічным сэнсе ў нас зусім мала літаратараў-прафесіяналаў. Шмат хто з нашых калег, асабліва маладзейшых, вымушаны тварыць похапкам у вольны ад пазалітаратурнай функцыянальнасці час.

Гэтая асуджанасць на непрафесіяналізм, літаратурнае аматарства — адна з аб'ектыўных прычын паніжэння мастацка-эстэтычнага ўзроўню сучаснай прозы ў параўнанні, скажам, з адпаведнымі жанрамі «застойных» 70—80-х гадоў. Я, здаецца, перачытаў усё, што друкавалася ў «Полымі» і «Маладосці» за 1991—1992 гг. і, на жаль, знайшоў толькі некалькі твораў у традыцыйным эпічным жанры, які б можна назваць літаратурнаю з'яваю сезону. Але такой бяды, тым больш, што мастацкая дасканаласць — рэдкая ў любой літаратуры. Да таго ж у нашым друку гэтых жа гадоў ёсць цікавыя знаходкі ў жанры рамана, прытчы, мемуараў і той жа аповесці, пра што гаворка пойдзе ніжэй. Горш, калі часопіс «Маладосць», які стаў школай маладых літаратараў і калектыў якога адкрыў нямала талентаў, пачаў друкаваць сыры, па-мастацку неапрацаваны матэрыял, не заўсёды ўмелыя эскізы, шчыра кажучы, чарнавікі, што выдаюцца іх аўтарамі за апавяданні, аповесці, больш сціпла, «маленькія аповесці». Але малы жанр — якраз найбольш працаёмкі. Думаю, што не варта было спяшацца з публікацыяй рукапісу дэбютанта ў жанры прозы Яўгена Хвалея пад інтрыгуючым загалоўкам «Прынцэса «Жалезная Дзева» (1991, № 10). Аўтар эскізна пазначыў дэтэктыўную фабулу, аднак не знайшоў часу рэалізаваць свой праект, прапанаваў чытачам прэснае цеста замест хлеба мастацтва.

Гэтай паспешнай канспектыўнасці, эскізнасці, а часам і правалаў густу не пазбег вопытны літаратар, аўтар некалькіх рускамоўных кніг, але дэбютант у беларускай прозе Мікалай Сердзюкоў у аповесці «Страчаны рай» («Маладосць», 1992, №№ 1—2). У традыцыйнай плыні бытапісальніцтва, якая, здаецца, ужо вычарпала сябе, не даўшы прыкметнага плёну, пісалася аповесць Леаніда Калодзежнага «Баян» («Маладосць», 1992, № 4).

Апублікаваныя сёлета ў «Маладосці» апавяданні Анатоля Бубіча («Міраж», «Аўдыенцыя», № 1), Алеся Давыдава («Рып калодзежнага жураўля», «Вада», «Апошні», № 2), Алеся Бадака («Каралева», «Яблык», № 4), У. Сіўчыкава («Згадкі на Маргінэзе», № 4), У. Дукатава («Лёс зямны», «Завушніца», «Радоўка», № 4)—гэта замалёўкі, праекты, цікавыя скарэй для абмеркавання на семінары маладых празаікаў, чым для сур'ёзнага эстэтычнага аналізу. Яны нешта абяцаюць, сведчаць пра пэўныя літаратурныя здольнасці. Але маладыя (у сэнсе прафесіяналізму) літаратары часам забываюць, што апавяданне, навела — бадай што самы цяжкі і працаёмкі жанр у мастацкай прозе. Затое і ўдзячны, бо апавяданне было і застаецца школай і крытэрыем літаратурнага майстэрства.

Сярод навелістыкі часопіса «Маладосць» прыкметна выдзяляюцца, калі не кампазіцыйнай і стылістычнай арыгінальнасцю, то хоць бы добрым мастацкім густам апавяданні Кастуся Цвіркі «Алеся» і «Марылька» (№ 4) і «Кароткія апавяданні» Міры Лукшы. Гэта — элегічныя малюнкі-роспаведы пра беларускія нацыянальныя тыпы, яны адраджаюць паўзабытую сёння літаратурную традыцыю, вытокі якой пачынаюцца з «Нашай Нівы». Але ж К. Цвірка, як вядома, паэт, а Міра Лукша—з беластоцкай «Белавежы». А дзе ж падзелася новае пакаленне нашых празаікаў, якое раней таленавіта заявіла сябе першымі творамі? Хіба што друкуецца ў кааператыўных выдавецтвах, новай «Нашай Ніве» ці ў «Крыніцы», якая, па чутках, стала выключна расійскамоўным «Родником»? Яшчэ нядаўна нам здавалася, што нашыя беларускія авангардысты плануюць рэвалюцыю ў літаратуры. На жаль, у мяне не хапіла часу, каб прачытаць іх апошнія творы. Але тое, што мне вядома,— не больш чым штудыі і фрагменты феноменаў, якія ўжо праходзілі еўраамерыканскія літаратуры.

Часопіс «Полымя» застаецца, так сказаць, мастацкім прыстанішчам эпічных жанраў літаратуры. Апублікаваныя ў ім творы за 1991 — пачатак 1992 г. засведчылі, што гэтыя жанры, перажываючы крызіс, не паміраюць, і што ў рэшце рэшт пісаць вялікі раман ці нават абсмяяную публіцыстамі трылогію — зусім не сорамна, калі ёсць у пісьменніка сацыяльны і духоўны вопыт ды схільнасць да самаахвярнай працы.

У аповесці Віктара Казько «Но Пасаран» (1990) па-новаму загучалі балючыя для яго мастацкай памяці сюжэты і матывы дзяцей-сірот («Суд у Слабадзе»), душэўнай непрыкаянасці ад экалагічнага разбурэння запаветнай Палескай Зямлі («Неруш») і пасляваеннага лёсу палескіх землякоў пісьменніка («Дзетдомаўская хроніка»). У новым творы гэтыя матывы набылі новы, трагічны аспект, адлюстравалі прынцыповую няўдачу таго сацыяльнага эксперыменту, які пачаўся ў кастрычніку 1917 г. Але пісьменнік кажа нам хутчэй пра чалавечы, душэўны, чым пра эканамічны крызіс. Пра катастрофу «экалогіі душы» і нацыянальнага духу народа. Пра вытокі люмпенізацыі дзяцінства і люмпенізацыі цэлага народа. Праўда, асобныя канцэптуальныя моманты аповесці В. Казько выклікаюць спрэчку, яны занадта палемічна завостраныя. У крытычных нататках «Трохі пра жыццё і літаратуру» («Полымя», 1991, № 8) пра іх ужо ішла гаворка.

Раман Алеся Асіпенкі «Лабірынты страху» («Полымя», 1991, №№ 10—12) разам з папярэднім раманам «Святыя грэшнікі», на мой погляд, выводзіць наш буйны эпічны жанр з таго крызісу, у якім ён аказаўся пасля «раманнага буму» ў два застойныя дзесяцігоддзі. Аб'ект мастацкага даследавання пісьменніка — не толькі гістарычная драма народа, але і яго духоўнатворчага духу, літаратуры, яго пісьменніцкай эліты. Апублікаванае ў «ЛіМе» (15 мая 1992 г.) сумоўе аўтара твора з крытыкам Алесем Марціновічам — цікавыя, але яшчэ недастатковыя каментарыі да гэтай бясспрэчнай з'явы нашага літаратурнага сезону. Удача пісьменніка, на мой погляд, — вынік таго, што аўтар творча зыкарыстаў вопыт класічнай раманістыкі, удала пазбег эмпірызму, канспектыўнасці жыццёвых падзей, захаваў творчую дыстанцыю паміж літаратурай і быццём, меру выяўлення жывой рэальнасці і мастацкага канструявання. Думаю, што апошнімі творамі Асіпенкі зацікавяцца не адны крытыкі, але таксама драматургі і кінасцэнарысты, бо тут мы бачым не толькі драматызм фабулы, эпічную пластычнасць, але і кампазіцыйныя знаходкі, займальнасць.

(Працяг на стар. 12).

# ЖЫЦЦЁ І ПРАЎДА

**7 кастрычніка — 60 гадоў Івану Пташнікаву, аднаму з самых выдатных майстроў нашай нацыянальнай прозы, пісьменніку, які ў сваіх творах глыбока псіхалагічна раскрывае душу беларусаў, ва ўсёй складанасці паказвае жыццё нацыі на ўчарашніх і сённяшніх паўстанках.**

**Віншуем Івана Мікалаевіча з юбілеем, зычым яму доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя, новых выдатных твораў!**



Вырашыўшы, што «ўспамінаць былое ніколі не рана, успамінаць часам бывае толькі позна», Іван Пташнікаў пачаў пісаць і друкаваць «эскізы» ўспамінаў —«Што застаецца ў памяці». Першым успомніўся пісьменніку эпізод, звязаны з яго паступленнем у 1951 годзе, пасля заканчэння сярэдняй школы, у Беларускі тэатральны інстытут. Пташнікаў паступіў. Але... і тут жа кінуў. Чаму так зрабіў,пра гэта гаворыцца ў эскізе.

Цікавы іншы момант.

Праз шмат гадоў лёс звёў Пташнікава з артыстам Паўлам Дубашынскім, які таксама тады паступаў. Разгаварыліся.

«Я, кажу яму, стаў пісьменнікам, а каб...

— Хто ведае, як склаўся б лёс... Цяжка сказаць. З такой фактурай акцёраў у нас няма, — адказаў мне Паша».

І вось заключны сказ:

«Хто ведае, як яно было б...»

Калі я чытаў першы раз (ды і пазней) гэты «эскіз», пастаўлены ў пачатку ўспамінаў, заключныя гэтыя словы сваім зместам, настроем, сваім кантэкстам неяк зачапілі мяне. Пачулася ў іх нібы шкадаванне: а можа, было б... Нібы сум: колькі засталося нявыяўленага, нерэалізаванага... Недзе і быццам адчуванне няпэўнасці ў значнасці зробленага: а можа б тое было б больш важным...

Як суб'ектыўнае самаадчуванне ўнутрана багатай асобы я гэтыя словы дзесьці разумею; ведаючы ж творчасць пісьменніка — прыняць не магу. Бо тут мае сэнс не «як яно было б», а як ёсць. І — што ёсць.

Зусім нядаўна чытач атрымаў два апошнія тамы Збору твораў Івана Пташнікава ў 4-х тамах. Якраз напярэдадні пісьменнікавага шасцідзесяцігоддзя. Збор твораў уключае лепшае, створанае пісьменнікам, хоць, зразумела, не ўсё.

І вось гэтае лепшае, сабранае разам як адзінае цэлае — творчасць, дазваляе аб'ектыўна (у пэўнай ступені) гаварыць пра тое, што ўжо ёсць, што жыве сваім, ужо не залежным ад аўтара, жыццём.

Проза Івана Пташнікава — сёння гэта самабытная і значная з'ява нацыянальнай літаратуры, шырэй — нацыянальнай культуры. З'ява гэтая дастаткова выразна акрэслілася, раскрыла і глыбока выявіла свае ідэйна-мастацкія асаблівасці, жыццёвыя вытокі, сцвердзіла сваю мастацкую арганічнасць.

Раманы «Алімпіяда» і «Мсціжы», аповесці «Тартак», «Найдорф», апавяданні «Алені», «Алёшка», «Бежанка», «Эфка», «Львы», «Арчыбал»— менавіта гэтыя творы складаюць з'яву, назва якой — проза Пташнікава. Кожны з іх, гэтых твораў, стаў пэўнай вяхой на творчым шляху пісьменніка, з'явіўся прыкметнай падзеяй у нацыянальнай літаратуры.

У свой час у рэцэнзіі на раман «Алімпіяда», названай даволі характэрна «Яго вялікасць жыццё», Вера Палтаран пісала: «У рамане «Алімпіяда» ў цэнтры ўвагі таксама вёска з усімі яе складанымі праблемамі, але пісьменніка цікавіць не столькі вясковае, колькі народнае жыццё...»

Самабытны талент празаіка, што рэалізаваўся, увасобіўся ў рэальных мастацкіх набытках, сфармаваўся ў даволі пэўную, адчувальную рэальнасць нашага духоўнага жыцця, заўважаны і высока ацэнены ў свой час крытыкай замежнай.

Вядомы чэшскі даследчык Вацлаў Жыдліцкі ў пасляслоўі да рамана «Мсціжы» зазначае, што пры чытанні гэтага твора ў яго «ўзнікае жаданне сцвярджаць, што без Пташнікава вобраз вёскі не толькі ў сучаснай беларускай прозе, але і ў савецкай літаратуры наогул (а пісалася гэта недзе ў 1981 г. — С. А.) быў бы няпоўны, у нечым важным збеднены». Пранікненне ж у ідэйна-мастацкую глыбіню рамана дазваляе яму паставіць Івана Пташнікава ў шэраг тых пісьменнікаў, якія «ствараюць моц беларускай савецкай прозы».

Слушнасць выказанага больш дзесяці гадоў назад меркавання крытыка, які глядзеў на нашу літаратуру і творчасць Пташнікава ў ёй як бы збоку, пацверджана часам. Прайшоўшыя гады па сваёй насычанасці значнымі сацыяльнымі і духоўнымі зрухамі, па сваёй пераменлівасці роўныя дзесяцігоддзям. Пераацэньвалася і пераацэньваецца ўсё і ўся. Здаецца, у жыцці не засталося нічога святога, нічога, што не было б падвергнута сумненню і адмаўленню.

І тым большы сэнс набывае сёння ўсё тое, што вытрымала і вытрымлівае жорсткія выпрабаванні часу і што ў гэтых выпрабаваннях здолела сцвердзіць і захаваць сваю сапраўдную існасць, у гэтых бесчалавечных умовах яшчэ раз пацвердзіць, што ёсць у свеце, што ёсць у нашым жыцці каштоўнасці непераходныя, каштоўнасці, непадуладныя ніякім кан'юнктурным меркаванням. Асабліва складана і цяжка давесці і сцвердзіць гэта ў сферы каштоўнасцей духоўных. Іх не так і многа, але яны ёсць. Яны не даюць канчаткова разбурыцца нашаму жыццю, яны даюць сілы чалавеку, мацуюць яго веру.

Творчасць Івана Пташнікава якраз у гэтым радзе. Чытаеш творы пісьменніка сёння, успрымаеш іх, адгукаешся сэрцам і розумам так, як і дзесяць, як і пятнаццаць, як і дваццаць гадоў назад. І гэта тады, калі столькі твораў, столькі творцаў, якія колькі гадоў назад што называецца грымелі, былі высокім прыкладам сапраўднага служэння мастацтва народу, дакладней — партыі і народу,— выкінуты наогул з актыўнай літаратуры. І не адміністрацыйным шляхам. Не. Проста іх сёння не чытаюць. Бо нельга чытаць: розум, душа не прымаюць.

Творы Пташнікава, нягледзячы на нейкую мітуслівасць, разбэрсанасць, штохвілінную зменлівасць нашага жыцця, сёння чытаюцца. Чытаюцца і ўспрымаюцца, як і раней, удумліва, сур'ёзна. Патрабуюць душэўнай аддачы, духоўнай работы, прымушаюць думаць. Патрабуюць сумленных адносін. Ад іх не адмахнешся, не прабяжыш похапкам.

Бо ў іх жыццё. Бо ў іх праўда.

Жыццё і праўда ў слове, у сказе, у сцэне, эпізодзе, у вобразах.

Ствараецца адчуванне, быццам Пташнікаў не піша твораў пэўнага жанру (хоць з яго жанравымі вызначэннямі наўрад ці можна спрачацца). Ён узнаўляе жыццё, узнаўляе такім, якім яго бачыць, адчувае, якім яно ў ім жыве. У гэтым жыцці ўсё да драбніц знаёмае, усё сваё, асабістае. Падзеі амаль усіх яго твораў адбываюцца ў адных і тых жа мясцінах. Гэта мясціны роднай яго Лагойшчыны. Але што характэрна: узноўленае ў творах пісьменніка жыццё не мае нейкіх прасторавых межаў. Дарэчы, як і часавых.

Два невялікія, характэрныя прыклады.

З аповесці «Найдорф».

Знаходзячыся ў партызанскім заслоне, Яхрэм Жаваранка, адзін з галоўных герояў гэтага твора, у хвіліны кароткага зацішша «ўзіраўся на пустую да-

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# ТАКІЯ ЭЛЕМЕНТАРНЫЯ ПАХІБКІ!..

Паважаны пан рэдактар! У Вашым тыднёвіку за 4 верасня апублікаваны артыкул Лявона Юрэвіча пра жыццё і творчасць Сяргея Сымонавіча Сіняка, які ў заходнебеларускай паэзіі другой палавіны 30-х гадоў стаў вядомым як паэт Сяргей Хмара. Ён друкаваўся на старонках часопіса «Калоссе», выдаванага спачатку Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры, створаным Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй, а пазней стаў самастойным выданнем народнафрантавой арыентацыі, якое імкнулася згуртаваць на сваіх старонках беларускую творчую інтэлігенцыю незалежна ад палітычных поглядаў. Ад аўтараў патрабавалася толькі вернасць агульначалавечым каштоўнасцям — праўдзе, дабру і красе, ды служэнне адраджэнню беларускай культуры, якая лічылася важнейшым чыннікам нацыянальнай тоеснасці народа. Хмара значыўся ў картатэках паліцыі рэвалюцыянерам, дзеячам КПЗБ, быў асуджаны ў 1928 г. на 2 гады турмы, а ў 1931 —на 4 гады турмы. З 27.V.37 па 21.V.38 ізаляваны ў канцлагер Картуз-Бярозы. Выйшаўшы на волю, устанавіў сувязь з левымі беларускімі выданнямі — «Нашай воляй», «Беларускім летапісам» і польскімі «Poprostu» і «Karta», друкаваўся там і замест ганарару атрымліваў вялікую колькасць экземпляраў гэтых выданняў, якія распрадаваў сярод сімпатыкаў КПЗБ. У якасці інструктара Таварыства беларускай школы ездзіў з Р. Шырмам на Палессе, аказваў дапамогу мясцовым гурткам ТБШ, збіраў фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы і на іх аснове пісаў навелы, апавяданні, замалёўкі, вершы.

**С. Хмара як паэт развіваў бунтарныя матывы грамадзянскай лірыкі М. Танка, сімпатызаваў ніцшэанскай ідэі звышчалавека, выяўляў настроі крайне левых элементаў рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху. У 1936 г. спрабаваў стварыць літаратурную арганізацыю «Маладая ўскалось». Паводле паліцэйскіх інфармацый, да стварэння гэтага аб'яднання справа не дайшла: на сустрэчу ў Дзятлава прыехала 22 верасня некалькі падпольшчыкаў - камуністаў (Яўген Пронька з Навагрудчыны, Іван Івашкевіч з Лідчыны), а паэтаў было мала, таму пытанне адклалі да другога сходу. Цяжкасць была, відавочна, у тым, што ўдзельнікаў Літаратурнага фронту сялянскіх і рабочых пісьменнікаў і супрацоўнікаў «Літаратурнай старонкі» (Валянцін Таўлай, Піліп Пестрак, Алесь Рэдзька, Янка Патаповіч, Пётра Радзюк, Якуб Міско і інш.) загналі за краты а тыя, што ацалелі, не жадалі самахоць напрошвацца на рэпрэсіі ў той час, калі можна было друкавацца ў «Беларускім летапісе», «Шляху моладзі», «Калоссі» і без заснавання новай нелегальнай арганізацыі. Так друкаваліся Міхась Васілёк, Алесь Мілюць, Янка Брыль, Анатоль Іверс, Ніна Тарас, Анатоль Бярозка, Хведар Ільяшэвіч, Ганна Новік, а Валянцін Таўлай і Сяргей Хмара дасылалі свае творы нават з турмаў і канцлагера. Напэўна, С. Хмара быў вопытным рэвалюцыянерам, калі здолеў і ў такіх умовах пісаць і друкаваць вершы і апавяданні. Такія яго навелы як «Кантрабанда», «Курапачы вывадак» і лепшыя вершы — «Мы», «Не вярнуліcь назад», навеяны лагернымі ўражаннямі, з'яўляюцца унікальнымі ў заходнебеларускай літаратуры.**

Я ведаў пра Сіняка даўно, маю ў бібліятэцы яго зборнік «Жураўліным шляхам», але на жаль, не мог падаць да публічнага ведама інфармацыю пра яго з-за цэнзурных забарон і зігзагаў яго біяграфіі ў часы акупацыі, пра якія нядаўна пісаў Анатоль Іверс у публікацыі, змешчанай у «ЛіМе». Нават у зборнік паэзіі Заходняй Беларусі «Ростані волі» не ўдалося змясціць твораў шэрагу заходнебеларускіх паэтаў, якія апынуліся на індэксе ў ідэалагічных службах. Прыемнай неспадзеўкай для мяне было пісьмо ад С. Хмары ў 1989 г. Ён залічыў мяне за мае сціплыя працы пра заходнебеларускую літаратуру да ліку тых літаратараў, «якія нешта рабілі і даўней, каб крыху праўды ўбачыла свет». Мы сталі перапісвацца. Я даведаўся, што ў 1923 г. Сяргей Сіняк быў сувязным партызанскага атрада Іскры, падпарадкаванага ўраду БНР. Адрасат аспрэчыў маю думку пра зігзагі яго біяграфіі перыяду акупацыі, пісаў, што прымаў чынны ўдзел у арганізацыі партызанскіх атрадаў з людзей, якія прытрымліваліся праграмы Беларускай сялянска-рабочай грамады. Сімвалам тых атрадаў мела быць Двупагоня. Я, аднак, колькі ні распытваў на Слонімшчыне і Пружаншчыне, не знайшоў слядоў такіх атрадаў. Ды яны й не маглі існаваць, бо выклікалі б асацыяцыю з вядомым рымскім божкам Янусам. С. Хмара ўнёс карэктыву ў складзены мною ў 1963 г. зборнік заходнебеларускай паэзіі «Сцягі і паходні», назваў свае вершы, надрукаваныя там як ананімныя. Перапіска наша ішла туга, з доўгімі перапынкамі, спадар Сіняк меў іншы, чым мой, погляд на вызваленчы і партызанскі рух у Заходняй Беларусі, але ўсё ж прысылаў мне нумары выдаванай у Канадзе газеты «Беларускі голас», дзе ён друкаваў свае ўспаміны. Перыяд акупацыі выдаўся мне выгладжаным, асобныя нумары газеты выглядалі як самарэклама выдаўца, які з'яўляецца экзекутыўным дырэктарам клуба этнічных журналістаў Канады. Гэта было ўсё ж цікава, бо сведчыла пра стан нацыянальных адносін у дэмакратычнай дзяржаве. Падабалася мне вернасць С. Хмары Палессю, друкаванне паэтаў з Берасцеі. Паэзія эмігрантаў на старонках «Баявой ускалосі», на жаль, слабаватая, пародыі і сатырычныя творы часта грубыя, нават вульгарныя. Я спрабаваў пераканаць С. Хмару ў беспадстаўнасці яго нападак на М. Танка, які ў гутарках не раз выказваў спачуванне С. Хмару, як ахвяры сталінскіх рэпрэсій. Я асабіста лічыў і лічу, што нацыянальнае прымірэнне патрабуе не толькі рэабілітацыі нявінна рэпрэсаваных, але і жэсту даравання, нават міласэрнасці ў адносінах да тых, хто паддаўся настрою помсты. Чалавек пакрыўджаны рэжымам, мае права помсціць рэжыму, але не грамадству, не народу, які пад акупацыяй змагаўся з захопнікамі. Гэта як мне думаецца, зразумеў С. Хмара, прынамсі, напісаў мне, што прымаў удзел у вызваленні В. Таўлая з нямецкай акупацыйнай турмы. Хадайнічаў перад Радаславам Астроўскім, але не асабіста, а цераз трэціх асоб, якіх не назваў, «бо,— пісаў С. Хмара, — як бы я пайшоў да Астроўскага, дык за каго прасіў бы, той загінуў бы». Здзівіла мяне, што пасля адступлення з акупантамі Астроўскі назначыў Сяргея Хмару, а не Станіслава Станкевіча, свайго поп-кампана, кіраўніком прэс-службы. Але ў жыцці непаслядоўнасці — рэч натуральная, няяснасці не аступджалі маё жаданні пісаць пра паэта Сяргея Хмару артыкул, вызначыць яго месца ў заходнебеларускай літаратуры. І вось, дзякуючы Л. Юрэвічу, я даведаўся, што ўжо даўно пісаў пра Хмару ў сваёй кнізе «Час і песні», надрукаванай у 1963 годзе. Малады крытык прыводзіць такую цытату: «Пра яго дзейнасць у нас пісалася (цытую з кнігі У. Калесніка «Час і песні», таксама поўнай міфаў самага рознага кшталту): «былі, праўда, партызанскія адзінкі, у якіх верхаводзілі нацыянал-авантурысты, пераважна эсэры (атаманы Хмара, Скамарох)... У крытычны момант эсэраўскія верхаводы пераходзілі на паслугі дэфензівы, адкупляючыся крывёю беларускай моладзі, завербаванай у

рогу, натапырыўшыся, усё роўна як чакаючы бяды; пасля глядзеў, павярнуўшы галаву ў акопе, на светлы прагал над Пагуркам — як у далёкі свет... Глядзеў — і яму здавалася, што ён ляжыць у акопе вечна, не было ні жыцця ў вёсцы да вайны, ні араў, ні сеяў, ні рваў карчы на пасецы; здавалася, ён вырас у акопе з зямлі, як расце грыб, і яму суджана пакласці галаву тут, у гэтую зямлю...»

З рамана «Алімпіяда».

Міфодзя, сын Алімпіяды, ідзе з бальніцы да маці ў родную вёску Крамянец. Бачыць, як пусцее вёска. «За ціхімі старасвецкімі дубамі, недзе пад Крамянцом, куды трэба было ісці, вісела вялікае цяжкае жоўтае халоднае воблака, займаючы ўвесь край неба. Сонца, заходзячы за сіні ў дыме лес, падсвечвала воблака, робячы яго чырвона-бурым, і здавалася, што яно старое-старое — вечнае. Вісела тут, калі яшчэ не было зямлі, і застанецца назаўсёды. Над воблакам зажаўцеліся палоскі ад далёкіх самалётаў — два доўгенькія каласкі ячменю. Каласкі пасля выцягнуліся ў дзве вузенькія памятыя саломінкі і апусціліся на край зямлі».

Тут, у гэтых апісаннях, узятых, дарэчы, амаль выпадкова, увесь Пташнікаў-мастак, яго бачанне жыцця, больш таго, яго мастакоўскі прынцып ўзнаўлення рэчаіснасці. Прынцып гэты, відаць, можна вызначыць так: у родным кутку — увесь свет.

І ў Пташнікава, і ў яго герояў нейкае спрадвечнае разуменне, а можа, часцей усвядомленае адчуванне, еднасці з навакольным светам. А чалавек і навакольны свет, найперш свет прыроды — гэта адзінае. Свет жа прыроды бясконцы. Той жа Жаваранка ў стане хоць невялікага спакою свабодна, без якога б там ні было «інтэлектуальнага намагання» суадносіць сваё жыццё, сваё рэальнае становішча з бясконцасцю сусвету: сусвет для яго — натуральны працяг усяго, што робіцца вось тут навокал.

Ва ўспрыманні Міфодзі адвечнае і сучаснае, прыроднае і народжанае нашым тэхнічным часам зліліся ў адно. Але след самалёта ўсё ж — толькі маленькі каласок у параўнанні з воблакам.

Адчуванне бясконцасці свету, адчуванне дыхання вялікіх прастораў жыцця пранізвае апісанні, прысутнічае ў самой фразе, у яе эмацыянальным ладзе.

І вось гэтая здольнасць арганічна спалучыць у адлюстраванні рэчаіснасці (нават у самой моўнай тканіне) самы бліжэйшы план з далёкай перспектывай, імкненне суаднесці «сваю прыроду» з вялікай прыродай свету, прозу штодзённага рэальнага насыціць паэзіяй імкнення да высокага,— думаецца, у найбольшай ступені выяўляе чалавечае і мастакоўскае жаданне цэласнасці, гармоніі. Развіццё творчасці пісьменніка, яе ўнутраны рух абумоўлены гэтым жаданнем. У яго творах прысутнічае (як інстынкт жыцця) імкненне знайсці, паказаць, сцвердзіць глыбінную ўзаемазалежнасць асобных фактаў, падзей, сітуацый на розных узроўнях рэчаіснасці.

Імкненне да гармоніі свету, да еднасці чалавека і абставін (у самым шырокім разуменні слова), знешняга і ўнутранага —галоўная ўтваральная сіла мастацкага адзінства, Пташнікавага мастацкага свету.

У гэтым свеце, перад тварам вечнасці і бясконцасці, у дачыненні да іх, усё сённяшняе набывае сапраўды рэальныя параметры, выяўляе сваю існасць, сваю неабходнасць жыццю і чалавеку.

Свет гэты, узноўлены, створаны сілай мастаковага таленту, цэласны, завершаны недзе ў сваім руху, самадастатковы, акрэслены ў сваіх межах, выразны ў сваіх фарбах: пісьменнік нібы спыняе жыццё. І разам з тым... Разам з тым свет гэты надзвычай рухомы ў сабе, рухомы ва ўсіх праявах; ён складаны, супярэчлівы ў кожнай сітуацыі, кожнай падзеі, кожнай жывой клетачцы. Вылучаецца адметнасцю і непаўторнасцю ва ўсіх сваіх праяўленнях і фарбах, моцнай духоўна - эмацыянальнай асабістай напоўненасцю.

Чалавек (яго духоўны свет, думкі, пачуцці) пастаянна ўзаемадзейнічае з асяроддзем, з навакольным светам. Умовы, абставіны, навакольная прырода падаюцца не самі па сабе, яны «ачалавечаныя». «Ачалавечнасць» гэтая своеасаблівая, аб'ектыўны свет абставін не проста так ці інакш падключаны да лёсу чалавека, эмацыянальна суб'ектыўна афарбаваны; ён суб'ектыўна асэнсаваны і трансфармаваны, наскрозь пранізаны чалавечымі эмоцыямі, напоўнены чалавечым духам. Таму правамерна гаварыць не проста пра абставіны, у якіх дзейнічаюць персанажы, а пра абставіны, якія ім належаць, абставіны іхнія. У творах нібы зліваюцца ў адно непарыўнае цэлае праўда факта і праўда сэрца.

Узаемадзеянне чалавека з навакольным светам пастаяннае, шматбаковае. З абставінамі першага, бліжэйшага плана (прырода, побыт, праца, асабістыя ўзаемадачыненні)— непасрэднае, шырокае, асабліва моцнае і інтэнсіўнае. З абставінамі ж другога, вышэйшага плана (грамадска-сацыяльнымі) — больш апасродкаванае, дзесьці як бы выбіральнае. Калі чытаеш твор, ствараецца ўражанне, што абставіны вышэйшага плана чым нібы паглынаюцца абставінамі першага плана, якія ў выніку набываюць большую глыбіню і маштабнасць.

І ў паказе сацыяльна-бытавой сферы чалавечага жыцця, і ў паказе прыроднага асяроддзя Пташнікаў прытрымліваецца адных мастацкіх прынцыпаў: у надзвычай падрабязным, дэталёвым апісанні захоўваецца перспектыва выхаду ў шырокі свет жыцця, да з'яў, да праблем агульназначных. Таму побыт, асабістыя ўзаемаадносіны людзей заўсёды нясуць у сабе моцны змест грамадска-сацыяльны, а разам — змест шырокай маральна-этычнай значнасці.

А героі Пташнікава ў такой ступені звязаны арганічна з навакольным светам, з абставінамі жыцця грамадскага, што пачынаюць несці ў сабе іх змест, іх сэнс. Жыццё чалавека ўвасабляе жыццё вёскі, а жыццё вёскі — жыццё народа. Пісьменніку ўдаецца ў духоўных пакутах і выпрабаваннях герояў увасобіць пакуты і выпрабаванні гісторыі народа, выпрабаванні яго лёсу. Лёс чалавека і лёс народа адзіны.

Вось гэтае імкненне, здольнасць бачыць і паказаць пэўную падзею, сітуацыю, жыццёвую гісторыю ў яе шырокіх часавых і прасторавых сувязях, як фрагмент гісторыі народа, наогул вялікага жыцця дало магчымасць стварыць вобразы выключнай жыццёвай устойлівасці і духоўнай сілы.

Зноў звернемся да вышэйпамянёнага артыкула Веры Палтаран, якая, можа, як ніхто, любіла, разумела творчасць Івана Пташнікава. Яна піша:

«Пісьменнік паказаў глыбока станоўчы народны тып... у яго глыбіннай народнай існасці, якую складаюць праца, сумленне, спачуванне — спаконвечныя асноватворныя апоры народнага жыццёвага кодэкса. Алімпіяда Падаляк, Уліма, як яе завуць у вёсцы, уяўляе сабой гістарычна сфармаваны народны, прыродны характар, які ўвабраў у сябе ўсё тое пазітыўнае, што стваралася стагоддзямі народнага жыцця, духоўнага існавання народа, гэта той праведнік, на якім заўсёды стаяў свет і да якога ва ўсе часы праяўляла цікавасць класічная літаратура».

А ці не такі і Андрэй Вялічка («Мсціжы»)?! А Грасыльда («Лонва»)?! Яхрэм Жаваранка?! Большасць герояў аповесці «Тартак»?!...

Усё гэта характары народныя, глыбока звязаныя з роднай зямлёю, працаўнікі, творцы жыцця. Звычайныя, простыя людзі, знешне нічым быццам непрыкметныя. Але якой жыццеўстойлівасцю, якім аптымізмам, верай у чалавека надзелены! Гэта тыя, на кім, як кажуць, свет трымаецца.

Стварыць такі характар, жывы, паўнакроўны, прывабны для чытача і адначасна ніколькі не адарваны ад рэальнай асновы, не ўпрыгожаны, для мастака задача першаступеннай важнасці. Не кожны можа пахваліцца, што ён яе выканаў. Зразумела, не сам пахваліцца.

Героі Пташнікава (найперш тыя, пра каго ідзе размова)— людзі пэўнага часу і пэўнага асяроддзя. Гэты час і гэтае асяроддзе адчуваюцца выдатна: яны нясуць яго ў сабе. Але ж гэта і людзі, якія ўвасабляюць тып беларуса—яго сціпласць, працавітасць, цярплівасць, немітуслівасць, надзейнасць. Яны — людзі-творцы.

Я ўпэўнены, што сёння, калі ў жыцці ўсё больш настойліва, дзесьці нават нахабна наперад вылазяць людзі асабліва прадпрымальныя, аж занадта энергічныя, людзі не абцяжараныя сумленнем, пазбаўленыя хоць малой долі сумленняў у правамернасці сваіх учынкаў, сваіх паводзін, чытач у літаратуры будзе шукаць і шукае нечага іншага. А менавіта таго, што нясе ў сабе пэўнасць, цяпло, увагу да яго, веру ў будучыню. У герояў твораў Івана Пташнікава ўсё гэта ёсць. Прычым як жыццёвая норма, як звычайны стан іх душы і сэрца. Яны, героі пісьменніка, вучаць жыць. Не проста выжыць, як цяпер модна (а гэтая мода спекулятыўная) гаварыць, а менавіта жыць.

Пачынаеш чытаць твор Пташнікава, паступова ўцягваешся іх магутнай эпічнай сілай, падпарадкоўваешся аналітычнай глыбіні, зачароўваешся жывапіснасцю... І ты ўжо поўнасцю падуладны твору, ты ўжо ў ім. Ён нясе цябе...

Як плынь ракі, ракі беларускай, у якой вада сцюдзёная ад глыбінных крыніц, чыстая і празрыстая, дзе берагі сонечныя і зацененыя дрэвамі, дзе мурожныя груды і пясчаныя светлыя выспы. Адчуваеш магутнасць плыні, адчуваеш злітнасць з ёю.

Такая сіла мастацкага слова.

Мова Пташнікава выключна адметная, свая ва ўсіх яе элементах, свая ў яе цэласнасці. Свой лексічны склад, свой сінтаксіс, свая рытміка, свой эмацыянальны лад. Яе пранізвае багатая дыялектная стыхія. Гэта мова жывога жыцця. Багатая, дакладная, экспрэсіўная, выключна арганічная. Тут няма недакладных ці непатрэбных слоў, знешняй, штучнай экспрэсіўнасці, самамэтнага выкарыстання дыялектных слоў ці формаў. Ёсць адзінства сэнсава-лексічнага напаўнення, рытміка-сінтаксічнага ладу і эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі. Моўная плынь глыбокая, жывая і што самае істотнае — арганічная. Такой бывае мова жыцця і высокай культуры. Выдуманае не бывае арганічным і глыбокім.

Вернемся да пачатку.

Так: «хто ведае, як яно было б...»

Напэўна, ніхто.

Затое мы ведаем, як ёсць і што ёсць.

Ёсць выдатныя творы, ёсць літаратура (жыццятворныя ідэі, зямныя народныя характары, глыбокая нацыянальная моўная стыхія) — ёсць тое, што гаворыць: народ жыве.

Пэўная ж пісьменнікава незадаволенасць можа толькі абяцаць новыя мастацкія творы.

**Серафім АНДРАЮК.**

---

атрады». Між тым, папраўляе мяне Л. Юрэвіч, «паслугач дэфензівы», закупляючыся, «з'яўляўся адным з арганізатараў Таварыства беларускай школы, ініцыятарам закладзін 12 беларускіх школ, займаўся беларусізацыяй царквы ў сябе на Казлоўшчыне». Не ведаю, з кім «таксама» я напоўніў сваю кнігу «міфамі рознага кшталту». Але што Л. Юрэвіч стварае не міф, а звычайную лухту на аснове выскубанай цытаты з маёй кнігі, гэта факт. Спадзяюся, што ў міфатворцы хопіць зразумення, што перадусім для яго карысці я разбуру ягоны паклёпніцкі міф.

«Федот да не тот...» — пачынаецца адна непрыстойная расейская прымаўка. Сяргей Сіняк меў літаратурны псеўданім С. Хмара, а падпольную клічку Хмара насіў паручык беларускай адзінкі ў літоўскай арміі пачатку 20-х гадоў Вячаслаў Разумовіч, якога ўрад БНР паставіў на чале 4-й групы паўстанцкага руху на Гарадзеншчыне ў 1922—23 гг. Штаб атамана Хмары знаходзіўся ў літоўскім мястэчку Мэрач, размешчаным на польска-літоўскай граніцы, адкуль паступалі каманды, грошы і зброя для паўстанцкіх груп. Арганізацыяй Бельскага павета кіраваў Герман Шыманюк-Пэрыт, які меў падпольную клічку Скамарох. Ён утварыў баявую групу з 15 чалавек і выдаваў часопіс «Беларускі партызан». Да рэвалюцыі ён быў акцёрам у пецярбургскім тэатры, адсюль і псеўданім. Пішучы ў свой час артыкул, які ўдастоіў увагі Л. Юрэвіч, я карыстаўся толькі часткаю інфармацыі, якую сабрала польская следчая служба для судовага працэсу над паўстанцамі ў Беластоку. Мяне ўразіла тое, што паўстанне было так слаба законспіравана і так лёгка правалена. Дэфензіва заслала ў падполле свайго канфідэнта Эдуарда Лянкевіча, жыхара мястэчка Саколка, і па яго даносе задушыла падпольныя структуры павальнымі арыштамі. Мізэрным аказаўся баявы набытак паўстання — напад на пастарунак у Кляшчэлях, забойства двух паліцэйскіх, трымальніка рэстарана і яго маці, напалоханне аднаго ксяндза — вось і ўсё. За гэта палявы суд вынес смяротныя прыгаворы пецярым паўстанцам, у іх ліку непаўналетняму Панцялею Нічыпаруку. Пілсудскі замяніў яму смяротную кару пажыццёвым зняволеннем, але хлапец не паспеў даведацца аб памілаванні, памёр, відаць, ад катаванняў у турме. Несуразмернасць паміж баявым набыткам і стратамі, а таксама факт, што на лаве падсудных з кіраўнікоў апынуліся толькі два начальнікі — кіраўнік беластоцкага раёна Вера Маслоўская і гродзенскага Адам Трыпуз, астатнія начальнікі зніклі — Разумовіч-Хмара застаўся ў Літве, а што Скамарох і Жылінскі знайшлі прыстанішча ў БССР, я не ведаў. Толькі працуючы над кнігай «Ветразі Адысея», я даведаўся з перапіскі У. Жылкі з партызанам А. Мікулічам, што ў нізах на ўзроўні атрадаў існавала баявое супрацоўніцтва асобных эсэраўскіх ці БНРаўскіх баявых груп з камуністычнымі, якія аказаліся няўлоўнымі для дэфензівы і карных войскаў ды лідзіравалі ў баявой дзейнасці. Варожасць паміж кіраўніцтвам камуністычных і некамуністычных атрадаў прывяла да лёгкага разгрому апошніх і да знікнення эсэраўскай партыі з палітычнай сцэны ў Заходняй Беларусі. Праўда, вышаўшая з левага крыла эсэраў Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя ўлілася ў КПЗБ і беларусізавала яе кіраўніцтва. Гэты альянс дазволіў стварыць у 1925—27 гг. стотысячную легальную рэвалюцыйна-дэмакратычную арганізацыю БСРГ. У гэтым руху склаўся як грамадскі дзеяч і як паэт С. Хмара. Пра спробу Л. Юрэвіча аналізаваць яго творчасць мне не хочацца гаварыць, разгляд аматарскі зацыклены і бездапаможны эстэтычна, ухілісты этычна. Спачуванне выклікала Юрэвічава пазнавальнае крэда: «Колькі б не пісалася пра эмігрантаў, кожны раз адчуваеш патрэбу нібы апраўдаць іх, растлумачыць гэты крок або, наадварот, хуценька прайсці нібы не заўважаючы яго. Можа, і гэта вынікі нашай міфалогіі, яе канонаў? Таму, каб не ствараць новых казак, пакінем прывілею тлумачыць (ці не тлумачыць) асобныя крокі свайго жыцця самім героям нашых артыкулаў». Нішто сабе прывілеі, але ж даюцца яны дорогай эміграцыі. А як быць з рублёвай? Чаму ж не выклікала ў чуллівай душы Л. Юрэвіча спагады трагедыя Іверса, чыя сям'я загінула не ад чарадзейнай палачкі, а ад рук акупантаў і іх памагатых, беларусаў-слонімцаў? І на такой зыбкай блытанай аснове малады даследчык хоча гаварыць пра «патрэбу згоды, еднасці ўсіх беларусаў»?

Сёння бачу, што мая ацэнка праваленага ў 1923 г. урадам БНР паўстання лішне суровая, але не пачуваю віны, бо міфатворчасцю якогась там кшталту не займаўся, стараўся быць справядлівым і спачуваў пакутам паўстанцаў, падстаўляючы пад рэпрэсіі. Як аказалася, быў я аж занадта для таго часу неартадаксальным. Кніга «Час і песні» была вылучана на дзяржаўную прэмію, атрымала больш за дзесяць рэцэнзій і чытацкіх водгукаў. Яна ўспрымалася свежай па матэрыяле, на кожны яе раздзел мне давялося затрачваць па году архіўных пошукаў. Прэміі ж яна не атрымала. Як дайшлі да мяне чуткі, на пасяджэнні камітэта палічылі, што ў аўтара пішчыць заходніцкая пазіцыя, ідэалагічная нявытрыманасць. Так што пан-спадар Лявон Юрэвіч мае добрых папярэднікаў па абвінавачанні мяне ў міфалагізацыі. Паняцце міф у яго ўжываецца легкадумна: то як пахвала, то як загана. Напрыклад, успаміны Іверса пра трагічную смерць яго жонкі і бацькі ад рук акупантаў для Л. Юрэвіча таксама міфы са знакам мінус, а Хмаравы замалёўкі ў стылі народнай фантастыкі — міфы са знакам плюс. У духу міфалогіі па собскім трапары ён напісаў жыціе пакрыўджанага Калеснікам Сяргея Хмары. Усё гэта падобна на забаву наіўнага шаляніцы. Можна было б і прайсці міма гэтага штукарства, але няхлюйных адносін да фактаў нельга абысці, спусціўшы вочы. А гэтым поўніцца ўвесь яго артыкул. Напрыклад, Л. Юрэвіч адкрыў у Заходняй Беларусі адно зусім невядомае літаратурнае аб'яднанне «Рунь» і прыпісалі яму выданне альманаха «Рунь веснаходу». На справе ж была спроба стварыць аб'яднанне творчай моладзі «Веснаход», прайшоў арганізацыйны сход, на старшыню выбралі Н. Арсенневу, на сакратара — мастака Міколу Васілеўскага. Хоць у праекце статута гаварылася, што арганізацыя будзе апалітычнай і беспартыйнай, улады забаранілі яе, засталася аб ёй толькі памятка, альманах «Рунь веснаходу», дзе дэбютаваў Сяргей Сіняк.

Л. Юрэвіч піша, што дзейнасць «сустані «Рунь» была перапынена новым зняволеннем Хмары і іншых у лагеры Картуз-Бяроза. Але ж «Руні» такой не існавала, а «Веснаход» перастаў існаваць у 1928 г., а канцлагер Бяроза-Картузская быў адкрыты ў 1934. Слонімская даваенная газета называлася «Вольная праца», а не «Вольная праўда», Анатоль Іверс і Якуб Міско, Сяргей Новік-Пяюн і Хведар Ільяшэвіч ніколі не сядзелі ў мінскай турме. Іверс у адрозненне ад Якуба Міска і Сяргея Сіняка быў беспартыйным і ў калізію з савецкімі рэпрэсіўнымі органамі не трапіў, а Якуб Міско быў арыштаваны ў 1940 годзе і сядзеў у Слонімскай турме, але, маючы вопыт палітвязня, пераслаў цераз наглядчыка пісьмо Панамарэнку, патрабуючы праверкі беспадстаўнага арышту і звальнення. Ён быў вызвалены і прадаўжаў працаваць у лідскай газеце да пачатку вайны, а тады эвакуіраваўся ў складзе рэдакцыі, уступіў у дзеючую армію і ваяваў у злучэнні генерала Чуйкова камандзірам разведкі.

Прыкра вытыкаць такія элементарныя пахібкі. За такое я звычайна работы студэнтаў першага курса ацэньваю двойкай.

**Уладзімір КАЛЕСНІК.**

г. Брэст.

---

**АД РЭДАКЦЫІ.** У сувязі з лістом прафесара Калесніка мусім нагадаць нашым аўтарам, што яны нясуць адказнасць за дакладнасць імён і фактаў, якія прыводзяцца ў іх матэрыялах. Што ж да магчымай палемікі, то абавязковай умовай з'яўляюцца карэктнасць тону і паважлівасць да апанента.

Васіль МАКАРЭВІЧ



# Постаці

## Скрыпка Адама Русака

Бард з бандарні,
Прыкусі язык,
Не грымі бандураю стозыкаю!
А ці знаеш, што сярод музык
Быў ён першым хватам
І музыкаю!

Маецца капрыз
У кожнай з муз.
Ды хіба яны былі скупечамі!!
Гэтаму — зурну,
Таму — камуз!
А яму, канечне,
Скрыпку пеўчую!

Можа, Паганіні ён унук,
Ці на слых яму
З маленства собіла!
Бы тугую цеціву на лук,
Ён струну нацягваў
Па-асобаму.

Лёс не песціў,
А няшчадна гнёў.
У сяле, бядотамі аслонены,
Напалову вёў ад цыганоў
Смуглую, з хітрынкай,
Радаслоўную.

У песні той,
Што ткаў у сто нітоў,
З цнотай сарамяжлівай і ласкаю,
Пераплёўся наш кужэльны ўток
З яркімі калёрамі
Цыганскімі.

Недарэмна
Прадзед-халасцяк,
Пасля службы ў рэкрутах,
Без хабару,
Летам цераз поплаў,
Наўпрасцяк,
На руках прынёс
Цыганку з табару.

Годы ўціску,
Годы нематы
Колькі на вяку жуды пабачылі,
Покуль з-пад смычка
Узляцеў матыў
Апантанай рызыкі
Прабабчынай!

Рэзаў так,
Што плойма скразнякоў —
Дзе, здаецца, ў іх і сіла бралася!! —
У горле ўсіх прастуджаных вякоў
Плакала,
Стагнала,
Абуралася.

Адслужыўшы спеўную імшу,
І не меўшы граматы ахоўнае,—
Лашчы слых і пацяшай душу
Ведзьмака і ўладара
Вярхоўнага!

Ды ці стане смык
Барозны струн
Роспачна скародзіць непаседаю,
Калі скрозь арудуе хапун
З блаславення ўладнага
І ведама.

Што губляць!
Ад трантаў рызманы,
Ды яшчэ, магчыма, бугі з вугамі!
Значыць, праўду ў вочы разані,
Каб яго душа ўзялася
Вугалем!

Спеў ішоў то ціха,
То званчэй.
І смычком з мелодыяй,
Што выверыў,
Глыбы двух слязін
З яго вачэй
Над труною Кірава
Ён вывернуў.

Скрыпача заслуга!
Не, віна!
І пад сілай грознай, прымусоваю
Разлічыся і сплаці спаўна
За цяжкімі ржавымі
Засовамі!..

На касьбе ліхой,
Што ў сотні кос
З-за пляча махала непаседаю,
Як збярог яе шчаслівы лёс,
Можа, толькі бог адзін
І — ведае.

Гэтак,
Як з-пад ёмкага дручка,
Мог адзінай радасцю усцешыцца:
Лепш навек пазбавіцца смычка,
Чым вадзіць знаёмства
З самадзержцамі!..

Глянь сягоння
У гадоў блакнот,
Дзе зашчэмлены рукой гарэзнаю
Гукі шчыльна ў азяроды нот,
Сціснуты радкі
У старонак рэзгіны.

Шчодра узышоў яго пасеў...
Кожны год
Праз далечы журлівыя
Скрыпкі спеў
Задумліва нясе
З выраю
Капэла жураўліная.

## Дэвіз Піліпа Пестрака

1

Нібы з пажыццёвым трафеем,
Забыўшы на пострах і страх,
З пацёртым жаўтлявым партфелем

Васіль ХОМЧАНКА



# І БОГ ЯМУ ПАМОГ

Апавяданне

МАКАР КАМКОЎ як скокнуў з вагона, так адразу і сеў на траву. Поезд прастукаў міма, а ён сядзеў яшчэ колькі часу. Родная зямля нібы схапіла яго сваім прыцяжэннем і трымала, як трымае магніт жалезныя апілкі. З поезда больш ніхто не выйшаў, Макар быў адзін на гэтай глухой лясной станцыі, чым і задаволіўся, бо не хацеў, каб яго нехта пазнаў. Торба, якую ён кінуў з вагоннага прыступка, ляжала воддаль, перавернутая хахлом уніз, але Макар не зрушыўся паправіць яе, хоць магло там праліцца віно з пляшкі. Яго, знясіленага за лагерныя гады і змучанага доўгай дарогай з Сібіры сюды, гэта родная зямля, густа зарослая ізумруднай травой, жывіла, і на душы было ціхае супакаенне і вера ў добрае.

На зямлі ўладарыў ліпень — спелая пара лета, яго макаўка. Сонца ўзбіралася да зеніту, шчодра аблівала зямлю цяплом і святлом, дасушвала траву, якую нядаўна абліў кароткі дождж. Макар па сонцу вызначыў, што ідзе ўжо другая гадзіна. Дома, куды ён зараз прыйдзе, відаць, нікога не будзе, усе на сенакосе. І жонка, і дачка Кацюша там жа. Яны, можа, сваёй карове косяць, а можа, калгасу. Падумаўшы пра Кацю, Макар запоўніўся радасцю, заўсміхаўся, і ад гэтай радасці, што ў яго ёсць дачка, ажно ўскрыкнуў:

— Дзякуй табе, Божа, што збярог і захаваў яе мне!

Каця нарадзілася і вырасла без яго, ён не бачыў яе жывой, а толькі на фотакартачках, якія прысылалі яму ў лагер. На фота Каця прыгожая ў матку, бялявая, з тоўстай касой, хоць дзяўчынцы яшчэ толькі дзесяць будзе. Нарадзілася дачка праз тры месяцы, калі Макара арыштавалі, пісьмы яму пачала пісаць, як пайшла ў школу. Некалькі яе самых першых пісьмаў з дзіцячымі каракулямі Макар захаваў і цяпер вёз іх дамоў. Яны і надавалі яму ў лагеры надзею на ўратаванне і сустрэчу з домам.

— Каця, Кацюша, Кацярына, Кацечка, — прамовіў ён з незыходзячай з твару ўсмешкай, радуючыся, што дачку можна называць столькімі імёнамі. Паўтарыў яшчэ раз, падхапіўся, узяў торбу і пайшоў.

Ісці яму трэба было да сваёй вёскі вёрстаў сем, хады каля дзвюх гадзін. Дарога ішла праз мястэчка, куды Макар хадзіў у школу з пятага па сёмы класы. Ходжаная і пераходжаная, яна і праз дзесяць гадоў нікольк не змянілася—тыя ж калёсныя каляіны, з жоўтымі пяшчынамі выбоінамі, абапал сосны, ядлоўцавыя кусты. Усё пазнавалася. Ён і спыняўся каля якога-небудзь памятнага месца — валуна, ручая, дрэва, дзе некалі з ім штосьці адбывалася. Любое такое месца выклікала цяпер самыя нечаканыя ўспаміны, прымушала хвалявацца былымі хваляваннямі — раднымі ці засмучанымі, бо міжвольна ў думках перакідваўся ў той час. Памяць дзіцячая — учэпістая, часу не сцерці з яе, не выбіць тое, што навек адклалася, зачапілася. І ўсё пазнаваўшы на гэтай дарозе, адчуваў балючую тугу па тых сваіх дзіцячых, хоць і не сытых, але вольных гадах, бо яны былі самымі шчаслівымі ў яго жыцці. Пасля іх было ў яго толькі цяжкае жыццё ў калгасе і яшчэ цяжэйшае ў няволі. А пачалася тая няволя ў такі ж ліпеньскі дзень, толькі на пачатку месяца.

Макар спыніўся, як бы наткнуўся на нешта: ён так выразна-балюча прыгадаў той дзень. Была тады такая ж сенакосная пара. Макар мусіў разам з брыгаднымі касцамі ісці касіць на луг Бесядзі. Касцы пайшлі, а Макар нешта забавіўся дома. Маці і жонка таксама пайшлі ўжо на луг. У хату зайшлі двое: участковы міліцыянер і раённы энкавэдзіст, якія і паказаў Макару маленькі шматок паперы — ордэр на арышт і вобыск. Не могучы зразумець, завошта яго трэба арыштаваць, не ведаючы сваёй віны, Макар не спалохаўся, толькі занепакоіўся, што не паспеў накасіць сена сваёй карове, і што маці з жонкай гэта будзе зрабіць цяжка. Ён сказаў пра гэта ўчастковаму, а той супакоіў: «Паспееш, накосіш, доўга не затрымаюць». Вобыску не рабілі, што яшчэ больш супакоіла Макара. Ніякай запіскі Макар дома не пакінуў, а сказаў старой суседцы, якая сядзела на загавальні, што ён хутка вернецца, няхай маці з жонкай не палохаюцца.

Энкавэдзіст тады за ўсю дарогу не прамовіў ні слова, ішоў ён ззаду Макара. Макар, калі загаворваў, то з участковым, а той, як бачыў Макар, адчуваў сябе няёмка, што вядзе арыштаванага чалавека, які на яго ўчастку ніколі нічога не парушыў. Пякло сонца, звінелі сляпні і авадні. Калі выйшлі з вёскі на шлях, абсаджаны старымі ліпамі, тут у Макара і забалела душа. Ён спыніўся, павярнуўся да вёскі, зразумеў, што не накосіць ён сёлета сена, і тут у яго вырвалася адчайнае:

«Завошта вы мяне забралі? За якую шкоду?» — Гэта ён выкрыкнуў энкавэдзісту, які, не чакаўшы такога крыку, спалохана адступіў назад і расшпіліў кабуру нагана. Але ж і змоўчаў.

«Камкоў, не шумі, — ляпнуў Макара па плячы ўчастковы, — разбяруцца» .

Макар пайшоў далей, і яны пайшлі: участковы — побач, а энкавэдзіст, як і ўсю дарогу, ззаду.

Яшчэ раз Макар спыніўся і паглядзеў развітальна на вёску каля ліпы, на ствале якой быў выразаны крыж. Выразаў яго нехта як памяць пра расстралянага аднавяскоўца Саўку Ракава. Прыехаў у вёску недзе ў дваццатым чырвоны конны атрад, забралі хлопца за тое, што не пайшоў служыць да чырвоных, прывязалі да гэтай ліпы і расстралялі. Макар паглядзеў тады на той крыж і падумаў: а якая доля будзе яго? І нечакана для сябе перахрысціўся.

«Цікава, — думаў цяпер Макар, ідучы ўжо ў адваротным напрамку гэтым шляхам, — ці ўцалела тая ліпа з крыжам?»

Гэтак жа, як і каля ліпы з выразаным крыжам, Макар тады спыніўся і перахрысціўся на мосце цераз Бесядзь перад самым мястэчкам. Перахрысціўся за ўпакой забітага на гэтым мосце чалавека, якога ён убачыў, калі ранкам ішоў у школу ці не ў пяты яшчэ клас. Вясна толькі пачалася, лужыны ад расталага снегу блішчалі на мосце, адна лужына чырванела ад крыві забітага, які ляжаў ніцма. Чалавек быў у світцы, лапцях, аўчыная шапка з незавязанымі паднятымі ўверх вушамі валялася воддаль — зляцела, відаць, калі чалавек, прабіты куляй, паваліўся. Каля забітага хадзіў чырвонаармеец з вінтоўкай. Макар спыніўся, скаваны страхам, баяўся прайсці міма, гатоў быў вярнуцца і бегчы дамоў. Чырвонаармеец яму махаў рукой, каб не стаяў, праходзіў, і ён прабег тады міма забітага. У той жа дзень Макар даведаўся, хто і завошта забіў чалавека. Ішоў селянін у сваю вёску па чыгуначным пуці, думаў прайсці цераз чыгуначны мост, які ахоўваўся чырвонаармейцамі. Пры падходзе да моста вартавы спыніў яго грозным крыкам «стой». Селянін ці з перапуду, ці падумаў, што яго будуць доўга трымаць, правяраць, не спыніўся, а сышоў на луг і паспяшаў да мястэчка. Вартавы быў задужа пільны, вырашыў, што ішоў шпіён і дыверсант — тады ж толькі пра іх і крычалі і пісалі, кінуўся ў пагоню. Чалавек пабег ужо ад страху. Вартавы, каб спыніць, стрэліў угору, чым яшчэ больш напалохаў бедалагу. І калі той узбег на пешаходны мост і заставалася яму прабегчы, каб схавацца за будынак пошты ўсяго крокаў пяцьдзесят, чырвонаармеец прыцэліўся і стрэліў у галаву...

— Няхай твая душа, чалавек, забіты без віны, у рай трапіць, — сказаў Макар, успомніўшы той выпадак.

Бога Макар прыняў у першы лагерны год, пасяліў Усявышняга ў душы сваёй, жыў з верай у яго волю. І Бог памог яму сцярпець усе мукі і выжыць.

Жыццё Макарава ў лагеры ішло, як і бывае ў кожнай няволі, звіліста, ламалася на розныя эпізоды, сярод якіх былі і самыя крытычныя, адчайныя. Не ведаў, што будзе заўтра, але спадзяваўся на волю боскую і што заўтра таксама застанецца жывым і здаровым. Кашмар сваёй няволі ён перамагаў іменна гэтымі спадзяваннямі. І перацярпеў, выжыў з цэлай, нязломанай душой, не стаў пустым, як той сноп-абмалотак, з якога выбілі цэпам жывое зерне. Зладзіў з пакутамі, толькі з часам зладзіць нельга, ён роўны для ўсіх — і ахвяр і катаў, старыў усіх аднолькава, састарыў Макара на дзесяць гадоў. Цяпер яму трыццаць адзін.

Пра сваю віну, за якую яго арыштавалі, ён даведаўся толькі на першым допыце. Нібыта ён, Макар Камкоў, вёў шкодныя антысавецкія размовы, скіраваныя супраць аднаго з кіраўнікоў партыі і ўрада. А супраць каго іменна, следчы не гаварыў, дабіваўся, каб яго сам назваў Макар. Макар тады і ўспомніў тыя размовы. Яны адбыліся ў прысутнасці двух сяльчан — прадаўца крамы Цітка і загадчыка клуба Антона Прохарава. Гаворка ішла тады вясёлая, бо ўсе трое былі на падпітку. Ціток прывёз у краму бочачку піва, для вёскі рэдкасць, вось яны ўтрох, там жа ў краме, і пілі. Пілі, вольна часалі языкамі. У вёсцы спакон вякоў не баяліся гаварыць кепскае і пры цары, і пры Леніне з Троцкім, бо за гэта не арыштоўвалі, не было пільных даносчыкаў сярод аднасяльчан. Тэмай гаворкі ў краме былі партрэты правадыроў, якіх уручылі Цітку на базе для продажу. Па пяць партрэтаў Сталіна, Варашылава, Кагановіча. Ціток кожнаму пакупніку, перш чым нешта прадаць, прапаноўваў тыя партрэты. А чуў адзін адказ: «А на халера яны мне, што я маліцца на іх буду?» І партрэты сталі не прададзеныя.

Калі Макар і Антон напіліся піва, Ціток пачаў угаворваць і іх купіць партрэты. «Ты купі таварыша Кагановіча,—тыцкаў ён у грудзі Антона,—а ты, Макар, купі Ёсіка Вісарыёнавіча». Антон маўчаў. А Макар, надаўшы твару сур'ёзны задумлівы выгляд, сказаў: «А што, вазьму вусатага Ёсіка. І павешу.—Памаўчаў як бы ў роздуме.—На суку бярозы, што пад акном расце. А можа, да сценкі лепш паставіць? Што б Вісарыёнавіч сам для сябе выбраў — пятлю ці кулю? Як ты думаеш, Ціток?»

Хадзіў неразлучна Пестрак.

І мог ён уласнай персонай
Засведчыць і ноччу і днём,
Што месціўся ў ім перасоўны,
Сталічны, лічы, гастраном.

Умеў па-сялянску прыпасвіць
З базара ці нават ларка
У сэнсе смакотных прыпасаў —
Цыбулі, укропу, гурка.

Астрожныя дні так даліся
За цяжкім іржавым замком,—
Багаццем уласным дзяліўся
З міністрам і вартаўніком.

А сам на высокія строфы
Апошнія дні галадаў,
З аблічча яго Мефістофель
З хітрынкай падчас выглядаў.

Жыццё яго часта брыкала,
Кідала то ўгору, то ўніз.
Сустрэнемся на барыкадах! —
Для веку ён высек дэвіз!

2

Каб наведаць час былы,
Гаротны,
Годам і падзеям наўздагон,
На рысорах нёс яго ў Гародню
З вокнамі бліскотнымі
Вагон.

Як паэт і як
змагар-падпольшчык,
Сцежак ён і явак не забыў!
З белапанскім ожэлам
Пад Польшчай
Жыць калісь не мог,
Хаця і жыў.

Вулкамі блукаў,
У прошлым вязнуў.
Выглядаў сяброўства праз
смугу.
Быццам дні далёкія, як вязняў,
Мог сустрэць дзе-небудзь
На рагу.

А пад вечар, фантазёр,
пракуда,
Калі месіка ўсплываў нарог,
Грукаў брукам, кутым-
перакутым,
Начаваць у колішні астрог.

І паслаўшыся на мулкіх нарах,
Пры святле газнічкі,
неўпрыкмет,
Позіркам па шэрых сценах
Шнарыў,
Выглядаў свайго бунтарства
След.

Ля аконнай, за желазам, рамы,
Апрача ірваных пісягоў,
Павучынку трэшчынак ці
шрамаў

Ён знаходзіў —
Толькі і ўсяго!

Пахла ўранку
Бульбай, буракамі,
Што ўкрылі лапушыста дол.
З нараў, як з вятрыстых
барыкадаў,
Ён злятаў астрогу у прыпол.

Цераз плошчу
Праставаў з партфелем,
Што ўзбіла клумбаў дываны,
І бясцэнным нёс у ім трафеем
Пах былой астрожнай
Даўніны.

# Свечка Сяргея Грахоўскага

Гарэла свечка на стале,
Гарэла свечка.
Б. Пастарнак.

Завулак.
Дашчаты дамок.
І дуплы на дрэвах, бы совы.
Адгэтуль яго павалок
У цёмную ноч
Трыццаць сёмы.

Патух і знямеў
Гэты свет
Са снежнай калючаю сечкай.
І вокам жаўтлявым услед
З акна толькі хліпала
Свечка.

Хоць іншае
Меў ён жытло,
Без крэсла,
Без ложка і вокан,
А кволае тое святло
У душу ўзіралася
Вокам.

Было, што ні легчы,
Ні ўстаць,—
Так цешыўся здзек
крымінальны.
А свечка! Магла яна стаць
Навек для яго Пахавальнай.

Як сотні
Адданых сыноў,
Спазнаўшы і боль
І знявагу,
Ён вырваўся ўсё-ткі дамоў
З нязноснага пекла
ГУЛАГа.

Дармо, што тых дзён
Не відно,
Ён чуе, паэт, рабацяга,

Як штосьць пад былое акно
Вядзе яго ўпарта
І цягне.

Ён рады пачуць,
Як ускрык,
Як ранняй зязюлі куванне,
Варотцаў даверлівы скрып,
Ды бразганне клямкі
Каванай.

Блукае па ценяў трысці,
Што стануць пад вечар
Сціраццa.
Не можа ў дамок
Ён зайсці,
Не можа яго
Адцурацца.

Глядзіць ён з начы,
Не дыхне,
Душой скалануўшыся
Зрэдку,—

А, можа, мільгне
У акне
Той свечкі
Жаўтлявае зрэнка!

Пад ранак,
Нібы па вадзе,
З завулка, прапахлага кменам,
Дамоў яго кульба вядзе
У вулей глухі
І каменны.

Кароткая ручка Цітка з вузкай далонькай, якая пацягнулася ўжо да партрэта, каб даць Макару, павісла ў паветры, а потым асцярожненька апусцілася і легла на другую,што ляжала на ягоным жывоціку. Макар зразумеў, што Цітка напалохалі ягоныя словы пра Ёсіка Вісарыёнавіча, і толькі паўсміхаўся з гэтага сполаху. А Ціток глядзеў не на Макара, а на Антона, стараючыся здагадацца, як той зрэагаваў на Макаравы словы. Антонаў твар, аднак, быў поснасумны, атупелы ад выпітага піва. Неўзабаве яны і разышліся ціха, ацяжэлыя, хмяльныя.

Вось на следстве Макар пра гэтыя свае словы, сказаныя ў краме, і ўспомніў, ды не прызнаўся, што гаварыў іх.

Следчы яму не верыў. «Ды я пра кожнае тваё слова ведаю, пра кожны твой уздых,— крычаў ён на Макара.—«Павешу вусатага на суку бярозы ці да сценкі пастаўлю...»—Гаварыў такое?»

Следчы быў худы, даўганогі, ногі яму ну проста заміналі сядзець за сталом, таму ён перастаўляў свой стул на сярэдзіну пакоя, бліжэй да Макара, вольна выцягваў перад сабой тонкія ногі ў хромавых ботах ,счэпліваў пальцы рук на каленях, круціў імі. Ён то крычаў на Макара, збялелы ад злосці, з шалёнымі вачамі, то раптам рабіўся спакойным, ціхім, безмяцежным, нават добрым, і ўжо спагадліва ўгаворваў прызнацца ў віне і хутчэй скончыць следства.

Следчы ўгаворваў а Макар думаў, хто ж з тых двух сведак — Ціток ці Антон — напісаў на яго данос, і падазраваў, што яны маглі гэта зрабіць абодва. Камсамолец-актывіст Антон заўсёды выступаў на ўсіх сельскіх сходах, гаварыў доўга, нудна, з той упэўненасцю, што гэта цікава ўсім, якая бывае ў людзей недалёкіх,тупаватых. А ён і быў дурнаваты. У выступленнях яго адно гучалі пагрозы: «У нас поўна рознай контры кулацкай, якую трэба к пазногцю»,— і ціснуў пазногцямі, як давяць вош. Двух сяльчан — настаўніка Мельнікава і Антонавага суседа Казіміра нядаўна забралі, і людзі ведалі, па чыім даносе — Антонавым і такой жа актывісткі настаўніцы Хрысціны Сяргеенкі...

Не любіў Макар і Цітка—хітранькага зладзейчыка, які, здаецца, быў і зачаты бацькамі прадаўцом-падманшчыкам. Ён любога, нават свайго блізкага родзіча хоць на капейку ды падмане. Таму і Ціток мог таксама пабегчы да энкавэдзіста.

Месяцаў восем сядзеў Макар у Магілёўскай турме, чакаў суда, дачакаўшыся, атрымаў дзесяць гадоў. Судзілі без сведак, усяго хвілін пятнаццаць, не далі на судзе нават расказаць пра сябе. І адбываў Макар гэты тэрмін ад званка да званка, штодзень праклінаючы таго Ёсіка з вусамі, якога ён з вялікім бы шчасцем і павесіў бы на суку, і паставіў бы да сценкі...

Антона ўжо няма, памёр летась, як пісала жонка, яшчэ больш здурнелы пасля кантузіі на вайне. Ціток жывы, працуе ў той жа краме. Вось у яго Макар і распытае, хто з іх быў стукачом.

А гарачыня дасягнула вышэйшага напалу, сонца стаяла ў самым зеніце, цені дрэў, кустоў і яго, Макараў цень, укараціліся да самай маласці. З дарогі, каб скараціць яе, Макар сышоў на луг, ярка-зялёны, ну той жа самы, які быў дзесяць гадоў назад — жывы, свежы, быццам і не стаміўся жыць, пасля таго, як кожнае лета аддаваў траву са свайго цела. Калі ішоў па лузе, то з-пад травы шэрым дымком падымаліся камары, што прыхаваліся там ад спёкі. Не было горача конікам, яны дружна і гучна пплялі сваю суцэльную музыку. Кіпелі сярэбранай лістотай пад верхавым ветрыкам асінкі, што самасеем выраслі на краю луга. Ад кустоў, травы, асінак, недалёкай Бесядзі ішла прахалода, дыхалася вольна і лёгка. Бліскаючы стракатым целам, працёк па сцяжынцы яркім струменьчыкам вуж—поўз да вады. Усё тут пазнавалася Макарам, нібы жыццё спынілася, каб дачакацца яго вяртання. Быццам той ліпеньскі дзень, калі вялі яго з дому па гэтых жа мясцінах дзесяць гадоў назад, усё яшчэ цягнуўся і дацягнуўся да гэтага часу.

«Дзень даўжынёю дзесяць гадоў»,— уздыхнуў з сумам Макар і, зачапіўшыся ў думках за тыя гісторыі, якія ўспомніліся яму дарогай ад станцыі, яшчэ больш упэўніўся, што час, у якім ён жыў і жыве, — гэта насілле, што праводзілася быццам бы для шчасця такіх, як ён, Макар. А для гэтага шчасця трэба было расстраляць Саўку Ракава, забіць селяніна — а можа, ён дыверсант, загнаць яго, Макара, ў лагер... «Шчасце нам прынеслі, каб вы...»— вылаяўся злосна Макар і пастараўся адбіцца ад гэтых думак і супакоіцца. Пачаў думаць пра дом, пра двор, нават пра дварняжку Жучку, для якой некалі Макар збіў добрую будку. А каб у ёй не заводзілася блох, падкідваў туды свежыя сасновыя стружкі. Як ведаў з дочыных пісьмаў, Жучка жыве, чакае гаспадара.

«Ах, дачушка Кацюша,— зачаплілася радасць на душы Макара,— родная мая крывіначка». Хацеў быў палезці ў торбу, каб зірнуць на Кацюшына фота, ды не стаў — жывую ж хутка ўбачыць. Заўсміхаўся, успомніўшы яе пісьмы, дзе яна пісала: «Тата, ты ўцячы, а мы цябе дома схаваем...»

Каля лукі рэчкі, дзе малым любіў купацца, Макар прысеў на беразе. Бераг круты, з яго з разбегу кідаліся ў ваду, ныралі. А накупаўшыся, скакалі на адной назе, схіліўшы галаву тым вухам уніз, куды трапіла вада, і прыгаворвалі: «Маланачка-глушка, выллі ваду з вушка, а калі не выллеш, то сама выйдзеш».

Да сваёй хаты Макар вырашыў падысці не па вуліцы, а з поля праз агароды. Не хацеў, каб яго першым нехта чужы ўбачыў. Калі ўбачыў двор, вільчак хаты, бярозу, сэрца затахкала ад хвалявання. Гаспадарскім вокам адразу вызначыў, як усё заняпала, патрабуе рамонту. Стрэхі хаты і пуні пазелянелі ад моху, адваліліся верхнія цагліны на коміне. Макар падышоў да прасла агарода, ухапіўся за жэрдку абедзвюма рукамі і сціскаў яе, сціскаў, як бы баючыся, што зноў нейкая бяда можа адкінуць яго ад дому. Вось ён, яго родны кут, куды столькі гадоў ён марыў вярнуцца, цярпеў усё, каб убачыць яго. І вярнуўся. Але чамусьці раптам устрывожыўся, спалохаўся, штосьці балюча нядобрае адчулася яму, нібы там, у хаце, ёсць тое, што не павінна быць у такі шчаслівы дзень, калі ён вярнуўся. Ён прыслухаўся, каб пачуць якія-небудзь гукі з хаты, але не пачуў нічога. Тады Макар пералез цераз прасла і па баразне пайшоў да хаты.

Першае, на што ён звярнуў увагу — былі белыя свежыя стружкі на двары і дзве рыдлёўкі, прыслоненыя да сцяны хаты. Гэтыя свежыя стружкі і асабліва рыдлёўкі і ўразілі Макара здагадкай пра нейкую бяду... Прыглушанае рознагалоссе і ціхія жаночыя ўсхліпы пачуў каля сенцаў і ўбег у хату.

Там за ссунутымі накрытымі сталамі сядзелі людзі. Ні дачкі, ні жонкі сярод іх Макар не ўбачыў. У хаце адразу нібы ўсе і ўсё застылі — і людзі, і гукі; замерла і жанчына ўся ў чорным адзенні, якая сядзела на ўслончыку перад печчу.

— А Каця дзе! Каця?! — вырвалася з Макаравых грудзей.

Людзі маўчалі, глядзелі на жанчыну ў чорным, якая і павінна была адказаць яму. І Макар да яе павярнуўся, таксама чакаў адказу. Гэта была яго жонка, з пазелянелым, такім схуднелым тварам, нібы пад скурай не было плоці, а адна косць. Яна ўтаропіла ў Макара няўцямна-ненатуральны позірк, перакошаны ў грымасе рот яе застыў на ўсхліпе. Макар зразумеў, што жонка яго не пазнала.

— Я — Макар,— сказаў ён злосна.

Яна маўчала, толькі сцяла рот.

— Я — Макар, дзе Кацюша?

Жонка з грукатам упала з услончыка на падлогу, падпаўзла да Макаравых ног, абхапіла іх, загаласіла:

— А Кацечка, а дачушка, а не дачакалася бацькі...

— Што з ёю? — ледзь прадыхнуў Макар, павярнуўшыся да тых, хто сядзеў за сталом.

— Кацю пахавалі толькі што,— адказаў незнаёмы Макару мужчына ў гарнітуры і пры гальштуку.— Яшчэ вось не паспелі пачаць памінкі.

Макар не пазнаваў яго, не пазнаваў і іншых застольнікаў, бо не прыглядваўся да твараў, яны былі як у тумане.

«Стружкі ад труны, рыдлёўкі...» — мільганула ў галаве Макара. Божа, як сціснуўся свет для яго, звузіўся нібы да таго турэмнага боксу, куды яго не раз запіхвалі, якім цяжкім, густым здалося паветра, дыхаць было немагчыма і слова не пракаўтнуць. Макар стаяў, як у паралічы, слухаў незнаёмага ў гарнітуры, які расказваў, што дачка два дні назад легла спаць і не прачнулася...

— Спазніліся вы на нейкія паўгадзіны, убачылі б у труне.

— Я яе хачу ўбачыць зараз. Я ўбачу яе,— ціхенька, не для людзей, а для сябе прамовіў Макар. Ён кінуў на лаўку мяшок, які не здымаў дагэтуль з плеч, і выйшаў з хаты. На двары ўзяў рыдлёўку і подбегам паспяшаў да могілак. Не азіраўся, ведаў, што за ім услед выйшлі ўсе з хаты. Нехта ўжо і дагнаў яго, пайшоў побач—той самы ў гарнітуры.

— Макар Сафронавіч, куды вы? — сказаў ён, спрабуючы спыніць Макара, але не рашуча.

— Я не бачыў дачку жывой, я хачу ўбачыць яе хоць мёртвай.

— Ну ці ж можна адкопваць нябожчыка?

Так плячо ў плячо яны і дайшлі да могілак і да свежай жоўтай магілкі, акуратна падроўненай. Макар адкінуў кветкі і пачаў капаць. Ён не бачыў і не хацеў бачыць, хто акружыў магілу, не чуў, што гаварылі яму, чуў плач жанчын. Ён капаў, спяшаўся, быў ужо па пояс у яме. Зямля мяккая, незляжалая, паддавалася лёгка, і неўзабаве лязо лапаты стукнулася ў дрэва. Дрыготкімі рукамі ўхапіўся за накрыўку труны, узарваў і выкінуў з ямы.

Дачка ў труне была, як жывая, нібы спала, залацістая тоўсценькая каса ляжала на грудзях. Твар і рукі паспелі загарэць на сонцы. Макар узяў яе рукі ў свае, адчуў загрубеласць на далонях — ад сялянскай працы.

— Кацечка, дачушка,— затросся ў плачы Макар, прытуліўся тварам да доччыных грудзей, цалуючы галаву, рукі.— Што ж ты мяне не дачакалася, памерці паспяшалася... Без мяне нарадзілася, без мяне памерла...

Галасіў ён па-бабску, усхліпваў, слёзы не выціраў, яны капалі і на твар дачкі.

— Дачушка, устань, зірні на бацьку свайго.— У тупым адчаі ён далонямі ляпнуў яе па абедзвюх шчоках.— Ажыві, дачка! Божа, памажы!

І Бог памог.

Каця адплюшчыла вочы. Твар яе, дагэтуль бледны, пачаў раптам чырванець, грудзі калыхнуліся і закалыхаліся ў рытме.

— Ой, разбудзілі мяне... Дзе ж гэта я? — ўскрыкнула яна.

Людзі, што стаялі вакол ямы, прыселі, засланілі сонца. А Макарава жонка лезла з крыкам у яму, яе не пускалі. І тады яна сціхла і пачала рукамі адграбаць зямлю ад ямы, баялася, каб зноў той зямлёй не засыпалі дачку.

— Летаргія,— сказаў незразумелае вяскоўцам слова чалавек у гарнітуры.— Трэба ж такому быць. І ці паверыць хто?

Зашамацелі бярозы на могілках, закалыхаліся кусты бэзу, трава заварушылася, залівіста засвісталі дразды.

А людзі вакол ямы маўчалі, стаялі, быццам застылыя.

# ТЭАТР МУДРЭЙШЫ ЗА НАС



**Зазвычай Сусветны кангрэс УНІМА (Міжнароднай асацыяцыі лялечных тэатраў), які ладзіцца раз на чатыры гады ў розных краінах, злучаецца з Сусветным фестывалем лялечных тэатраў. Сёлета ў Любляне (Славенія) з імі з'яднаўся і традыцыйны фестываль лялечных школ: з лёгкай рукі рэжысёра Эдзі Маярона, добра вядомага беларускай і асабліва мінскай публіцы, праграмы афіцыйная, «шкалярская» ды спадарожная не заступалі адна адной. Галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі Аляксей ЛЯЛЯЎСКІ, спраўны глядач, удзельнік фестываляў ды кангрэсу УНІМА, сведчыць, што немагчыма было сцвярджаць пэўна, што якой праграме належыць і каму з удзельнікаў перадусім варта аддаць перавагу (хоць бы па ступені прафесійнасці).**

— Менавіта гэтым я быў моцна ўражаны,— удакладняе А. Ляляўскі,— параўнаць шляхі развіцця тэатраў самых розных краін з нашым жасцерным шляхам нават не выпадала. Апынуўся я ў Любляне з Ірынай Жараўцавай, прэзідэнтам Савецкага цэнтра УНІМА (краіна ўжо знікла, а арганізацыя існуе), як віцэ-прэзідэнт. Тое, што я старшыня беларускай секцыі, што прадстаўляю незалежную краіну і да т. п., не адыграла фармальнай ролі ў маім вылучэнні на кангрэс. Фармальнай, таму, што менавіта дзяржава Беларусь знайшла сродкі, каб годна прадставіць там не аднаго мяне — рэжысёра, але і маіх студэнтаў-лялечнікаў. Ніводнага з калегаў па творчым саюзе я ў Любляне не пабачыў; безграшоўе, як вядома, не стымулюе мастацтва. Паколькі кангрэс — вышэйшы кіруючы орган УНІМА, мы займаліся не толькі выбарамі-перавыбарамі (дарэчы былы прэзідэнт Хенрык Юркоўскі вырашыў засяродзіцца на навуковай працы, а таму саступіў прэзідэнцкае месца спадарыні Сір'е Шыўры Асп, рэжысёру і актрысе з Фінляндыі). Ад нас, натуральна, нікога нікуды не выбіралі, — для гэтага трэба нешта з сябе ўяўляць.

Асноўная мэта нашых доўгіх пасяджэнняў — давесці статут УНІМА да нормаў міжнароднага права, каб напрасткі, без пасрэдніцтва Міжнароднага інстытута тэатра ўвайсці ў ЮНЭСКА. Але па-ранейшаму надзённым застаецца стварэнне Беларускага цэнтра УНІМА. Для нас прадстаўніцтва ў такой буйной міжнароднай арганізацыі — выйсце ў свет і карыстанне ягонымі тэатральнымі каштоўнасцямі.

Акрамя УНІМА, няма іншай арганізацыі ў свеце, якая б так пільна дбала пра мастацтва, праблемы ды развіццё тэатра лялек. І скажу шчыра: назіранні за ходам кангрэса і двух фестываляў спарадзілі крамольную думку: на Беларусі палітыкі ў галіне культуры... не існуе. Пазіцыя ўрада ёсць: выжывайце, дапаможам, дадзім грошы, сродкі. Але няма ні ўрадавай канцэпцыі так званага выжывання, ні пэўных акрэсленых праграм,— таго, што я і назваў палітыкай. Для стварэння нацыянальнага беларускага цэнтра УНІМА, акрамя пэўнай сумы ў валюце, якую трэба штогод выплачваць за чальство (сумы ледзь не сімвалічнай — чатырохсот долараў за ўсіх чальцоў!), патрабуецца актыўнасць. Трэба прымаць пэўныя культурныя праграмы, ажыццяўляць іх і да т. п. — вось у чым сэнс далучэння да УНІМА. Прыстойна паказацца на кангрэсе і супакоіцца можна, але жыццё дзеецца паміж кангрэсамі. А «беларуская праграма» пачалася з адмены Беларускага фестывалю тэатраў лялек. «Сур'ёзная» заяўка на годны ўдзел! Калі ж няма мастацкай дзейнасці па-за нашай акрэсленай работай у тэатры (а мы паспяхова існуём пакуль), дык няма сэнсу ствараць Нацыянальны цэнтр.

Пакуль што без УНІМА мы — у ізаляцыі, куды нас выправіла дзяржава. Мастацтва — гэта яшчэ і дастатковая інфармацыя, якой мы не маем (нават часопіс з-за мяжы, свой, спецыялізаваны, я выпісаць не магу). Кнігі, а іх у свеце шмат, і менавіта па лялечным мастацтве, часопісы, відэаінфармацыю і да т.п. мы не маем. Нават самы прадстаўнічы фестываль — гэта маленькі зрэз таго, што дзеецца ў свеце, і калі ў тыднёвым фестывалі бяруць удзел дзвесце спектакляў, іх фізічна немагчыма паглядзець! Інфармацыя з Масквы ўжо не паступае. Заканамерны шлях — стварэнне Нацыянальнага цэнтра. Першы крок Беларусь ужо зрабіла — сама зрабілася незалежнаю. Другое — фінансавая падтрымка. Доўгі час за нас плаціла Расія, бо валютныя сродкі ў бюджэт СТД СССР паступалі толькі з СТД Расіі (праўда, хто як не ён меў магчымасць зарабіць ды адлічыць гэтыя сродкі! Хоць такім чынам «аднаўлялі справядлівасць»). Але цяперака трэба быць ненармальным, каб плаціць грошы УНІМА за чальцоў іншае дзяржавы. Пакуль, аднак, шануючы адзін аднаго плацілі. У бліжэйшым будучым фінансава трэба разлічваць толькі на сябе. Не адно на канцылярыю,— галоўнае ў дзейнасці Нацыянальнага цэнтра — ажыццяўленне, паўтаруся, праграм ды праектаў. Напрыклад, УНІМА толькі-толькі рэалізаваны праект, які называецца «Традыцыйныя лялечныя тэатры Еўропы», гэта — усе лялечныя вулічныя прадстаўленні, што існавалі ў Еўропе. Рэалізаваў яе Стэфан Джунка з Італіі, — беларускай батлейкі там няма. Затое там ёсць расійскі Пятрушка, якога разыгрываюць хлопцы з Цюмені. Я дзівіўся: Славенія, краіна не нашмат большая за наш Мінск (па колькасці жыхароў), нягледзячы на свае нядаўнія ваенныя падзеі, цяпер скарыстоўвае ўсе шляхі, каб увайсці у агульнаеўрапейскі жыццёвы працэс, укараніцца ў ім. Кангрэсам УНІМА адзначылі першую гадавіну незалежнасці Славеніі, — адметна? Мастацтву аддалі перавагу перад палітыкай, — выдатна?! Крок славенцаў дастаткова арыгінальны, але ж і практычны: пра прыбытак я не пытаўся, але цяпер ці не кожнаму дзеячу тэатра, чытачу газеты, гледачу тэлебачання вядома: Славенія — еўрапейская дзяржава. Яна здужала кангрэс і два сусветныя фестывалі, значыць, яе варта падтрымліваць, з ёю трэба лічыцца. (У нас у галіне культуры ёсць толькі адна праграма: пра мову. Праграма, якая не выконваецца, але пра якую перыядычна згадваецца).

Штодня з дзевяці да дзвюццаці чатырох гадзін з невялічкімі перапынкамі я глядзеў спектаклі, і гэта было самым цудоўным баўленнем часу! Быў прадстаўлены найшырэйшы лялечны свет: Японія, Ісландыя, Аргенціна, Канада, Аўстралія, натуральна, шмат еўрапейскіх дзяржаў. З-за такога шырокага прадстаўніцтва спектаклі ўспрымаліся вельмі цяжка, бо належалі да палярна супрацьлеглых, разнастайных культур. Вылучу тое цікавае, што мы хацелі б, у ідэале, бачыць на сваім фестывалі. Самае цікавае для мяне —па-ранейшаму чэшскі тэатр «Драк» з Храдзец-Хралавэ. Фенаменальна, ды тэатр не толькі жывы ў тэатральным сэнсе слова, але і працуе на высокім узроўні. Паказвалі яны «Пінокія» паводле Карла Калодзі, фрагменты літаратуры былі аб'яднаныя спектаклем. Кожная сцэна — вялікі вобраз, — вельмі моцны візуальна спектакль, які іграюць усяго чатыры чалавекі. І адна лялька Пінокія, сабраная ці то з дошчачак, ці то з пацурбалачкаў. Драўляны чалавечак наяве, —з ім выдатна працуюць акцёры. Дальбог, я такога не бачыў! Напрыклад, пантаміма «пад вадой» (калі злосны гаспадар тэатра шукае Пінокія): усе бачаць, што вады няма, але прысутнасць вады адчувальная. А дадаць сюды гумар артыстаў... Уразіла мяне і іншая акалічнасць: ажно два спектаклі былі заснаваны на оперным матэрыяле. Нават непрыемна зрабілася: са спяваючай «Папялушкай...» паводле Маснэ наш тэатр патрапіў проста ў сусветную плынь. Няўжо паралельнае мысленне? Альбо... настаў час музычна-опернага лялечнага тэатра! Люблянскі тэатр паказаў «Спалены дом» на музыку Й. Гайдна, з неблагімі опернымі салістамі, камерным аркестрам... Праўда, мне здалося, што лялькі прысутнічалі на сцэне самі па сабе, а салісты — самі па сабе, але фестываль — свята дэмакратыі, крытыкі сваімі абмеркаваннямі нікому не замінаюць, таму кожны спявае са сцэны з якімі хоча лялькамі. Атрымалася нешта на манер японскага бунраку. Праўда, у японскім тэатры вочы мае чамусьці не бегалі... не мітусіліся да болю, стараючыся нічога не прамінуць. Другі спектакль — не зусім опера, але з пастаяннымі спевамі, называецца «Сіне-бела-чырвоны ў чорным». Сіне-бела-чырвоны— гэта французскі сцяг, спектакль, натуральна, належыць французу, Масімо Шустэру. Спектакль пра Вялікую французскую рэвалюцыю. Пра жыццё, дэмакратыю, прагрэс. На жаль, я непісьменны музычна, таму з пэўнасцю не магу вызначыць музыку, якую і пад якую Масімо спяваў, але ягоныя лялькі на колцах ды іхнія дзеянні моцна ўразілі залу. Вельмі ўмоўныя лялькі (ведаю, што ў свой час у такім самым стылі Шустэр рабіў «Караля Убю»). Што гэта такое, сфармуляваць цяжка. Гэта не плынь, не ланцуг вобразаў, не набор сцэн ды сцэнак. Калі фармуляваць лёгка, значыць ведаюць як гэта зроблена. А ў выпадку з Шустэрам нібыта ўсё зразумела, нават паўтарыць можна, але ягоная тэатральная загадка невырашальная. Ну як «Драк» зрабіў «Пінокія»? Я не ведаю як. Такі самы загадкавы тэатр прывезлі з японскага горада Чыр'ю — тэатр «Бунраку і Каракуры». Каракуры я бачыў толькі ў музеі: шпяньковую лялечку ў лапаку з адмысловай механікай. Японцы паказалі такія невымоўныя трукі з гэтымі лялечкамі! Напрыклад з гэтага традыцыйнага лапака лялька караскалася наверх, па вяроўцы, а потым, перахопліваючы рукі, перапаўзала ў іншы жолаб... Як?! Падобны прыём апісаў у еўрапейскім тэатры Ёрык: лялькі адмыслова танцылі і рухаліся на двух матузах, — крытык падкрэсліваў загадкавую прастату канструкцыі... А што да бунраку, дык на Беларускім лялечным фестывалі нам ягоныя элементы паказалі амерыканцы. Тры чалавекі, што працуюць у адкрытую з лялькай, але твары лялечнікаў абавязкова ўхутаны ў чорныя палотны... Сапраўдны бунраку — гэта тры-чатыры гадзіны дзеі з песнямі, пантамімай ды рознымі адмысловасцямі. Але самы ўлюбёны свой спектакль, «Нябёсы» Фрыка Нейрынка з Бельгіі, я на гэтым лялечным фэсце не паглядзеў. У свой час я зрабіў усё, каб і нашы гледачы зірнулі на тыя славутыя «Нябёсы» па матывах жывапісу Рэне Магрыта, але гісторыя няспраўджанага сёлетняга лялечнага фестывалю «ЛіМам» ужо апісана. Спектакль смешны, чысты, светлы, сюррэалістычны: два дзіўнадзіўных спадара існуюць у надзвычайным свеце незвычайнага жывапісца. Рыбы там плаваюць па небе, а людзі граюць на грабеньчыках, б'юцца з вялікімі дзвярыма... Калі я глядзеў «Нябёсы» ў Бельгіі, на спектаклі было процьма малых, проста клапянятаў па два гады! І яны глядзелі, і яны—разумелі!

...Спяваў і знаны італьянскі лялечнік Клаўдзіа Чынэлі, выконваў оперу «Травіята»... рукамі. Як могуць спяваць рукі на шырме! У фінале, вядома, Травіята памерла. І ўсе смяяліся. Бо стыльная пародыя зрабілася выбітнейшым і дасціпным наватворам. Дальбог, спадар Вердзі пасмяяўся б з намі. Дарэчы, менавіта праз смех уразіла работа нямецкага тэатра са Штутгарта (так званага «Матэрыял-тэатра») «Спроба палёту». Спектакль — пра дачыненні жонкі і мужа-дзіцяці, які трымаецца за жончыну спадніцу. Мне здалося, што спектакль разлічаны на людзей, якія маюць у сям'і падобныя праблемы, гэткае пераўвасабленне здыпава комплексу. Але момантамі было вельмі нядрэнна. Напрыклад, выкарыстанне гуку: публіцы дэманстравалі адмысловы механізм з нейкімі колцамі, шрубкамі, пасакамі, усё гэта круціла маленькія падставачкі, на кожнай з іх стаяў келіх. Каб штосьці прагучала, трэба было мачаць палец у ваду і трымаць яго ля беражка келіха. Тая самая машына прадставіла ў лялечным варыянце тое, чым займаюцца закаханыя людзі сам-насам. Кажу шчыра, спектакль меў цвярозы разлік шакіраваць да збянтэжыць публіку. Яна ж ні шакіравацца, ні бянтэжыцца не схацела — разглядала тэхнічныя прыстасаванні.

Мо гэта азначае, што эпатаж замінае і эмоцыям, і эстэтычным пачуццям гледачоў? Паміркуем. Трупа з Бергама (Італія) паказала радасны здзек з эпатажу, паказаўшы «Амфітрыён». Не класічны. Выйшла цётка таўшчынёю з рымскую калону, абвешаная ці то кухонным начыннем, ці то нейкім іншым снадзівам, — а гэта былі лялькі, і пачала нетаропка выкладаць гледачам знакаміты сюжэт з гэтымі лялечкамі. Распавядае прыгожа, маляўніча, з інтанацыямі. Ды з'яўляюцца нейкія дзіўныя мужыкі, якія не маюць дачынення ні да сюжэта, ні да ягонага ўвасаблення, апускаюць заслону і публіка бачыць нейкае нагрувашчванне скрынак, каробак, нейкі склад тары,—і знакаміты сюжэт... працягваецца, але на ўзроўні харчавальні-варэннай. Цудоўная сцэна (класічнае абагульненне!) — для пацярпелых ад мірнага атама. Гаспадыня крышыць нешта, скрыляе, таўчэ — і ў кацёл з выяваю знака радыяцыі. Кацельчык падпаліла, плотненька прыгнала накрыўку, а варыва пачало шыпець, буркацець, і накрыўка адарвалася... Думаю, у іх тыя самыя праблемы — нашы. І яны з іх ужо смяюцца. Было ў спектаклі і ўвасабленне, так бы мовіць, плоцевага кахання (просталінейнасцю, нагадаю, расчаравала трупа з Германіі): з'явіўшыся чарговы раз на спатканне, герой, як бога з машыны дастаўшы тэлевізар і падключыўшы да яго камеру, дае нырца пад коўдру— з гаспадыняй, натуральна. Адбываецца вельмі граматны пераход ад гульні з прадметам да відэавыявы на экране: мы бачым... прадметныя прыстасаванні. Нешта шрубуецца, змазваецца алеем, у дошцы свідруюцца адтуліны, працуе напільнік... Публіка, падрыхтаваная да надзвычайных праяў эратызму, падсвядома чакала дасціпнага ходу, рэжысёрскай прыдумкі, пазначкі дзеяння — прычакала надзвычай смешнага падману сваіх інтымных доследаў. Захапленне было агульным. Урэшце ёсць жарты, якія дазвалялі сабе нават на старажытных паказах «Амфітрыёна», жарты, якія падхапіў сярэднявечны карнавал (дастаткова згадаць так званыя абсцэнныя сцэны — сцэны агалення чалавечага «нізу»), і калі самае далікатнае не плюжыцца, можна толькі парадавацца за артыстаў.

У сувязі з нашымі тэатральнымі радасцямі да паяднанасцю праграмы заўважу, што некаторыя спектаклі сталых прафесійных калектываў я шчыра палічыў за студэнцкія, і наадварот. Прадстаўнікі тэатральных школ засведчылі сваю сталасць. Вельмі цікавай здалася мне тэатральная школа з Прагі, якой кіруе знаны Ёзэф Крофта (працуе ў тэатры «Драк») і школа з Шарлевільдэ-Мезьера, міжнародная лялечная школа з Францыі. На мой погляд, гэта ўжо тэатры са сваім рэпертуарам (а я бачыў студэнтаў другога і трэцяга курсаў!); праўда, адкрыццяў мінулага фестывалю не паўтарылася. Перш-наперш абедзве школы далі ўзор вельмі трапнай, дакладнай гульні з прадметам: чэхі паказалі спектакль паводле японскага старажытнага жывапісу,— паданні пра ўзнікненне людзей. Пры гэтым людзей выцінáлі і паказвалі іхняе сталенне: серыя выцінанак паралельна з тэкстам. Другая частка спектакля — легенда пра журавоў, якія прыносяць шчасце — заснавана на выцінанках знакамітага японскага жураўліка. Уражанне такое, што пражане вельмі добра ведаюць, чаму вучацца і чаму вучыць трэба; студэнты другога года навучання свабодна валодаюць прафесіяй! Такую ж разняволенасць паказалі і студэнты з Францыі: «Адысею» паводле Гамера і «Птушак» Арыстафана Мастацкім кіраўніком гэтага тэатральнага праекта быў Рамàн Паскá, амерыканскі лялечнік, адметны тым, што любіць спалучаць неспалучальнае. «Птушкі» пачыналіся з нейкага шалёнага кручэння веласіпедаў, а сярод класічнай птушынай чарады з'яўляліся птушкі Хічхока. Думаю, навучальнай мэтай гэтага спектакля якраз і было з разнародных кавалкаў будаваць штосьці стылёва ды ідэйна гарманічнае.

Варта спытаць, як жа сярод лялечнікаў пачуваліся лялькі? Якраз студэнты з Сафіі са сваімі лялечкамі, складзенымі з

кіёчкаў ды анучак вярнулі фестывалю нешта вызначальналялечнае, напалову забытае. Гэтыя лялечкі спраўна хадзілі, лёталі, размаўлялі, дурэлі (праўда, сюжэт спектакля крыху замінаў ім разняволіцца, дый зразумець, вераб'і яны ці кураняты): гісторыя, па ўсім відаць, была пра тое як малыя вучыліся і рыхтаваліся да самастойнага жыцця (ёсць такая вядомая балгарская казка). Тое, што давялося пабачыць сёлета, было настолькі рознастылёвым, разнародным, я б нават сказаў, — рознапрыродным, што нават Хенрык Юркоўскі заўважыў, маўляў, адзінае, што нас аб'ядноўвае, гэта старажытны назоў «лялечны тэатр».

У плынь пад старажытным назовам увайшла беларуская лялечная школа (прадстаўнікі Акадэміі мастацтваў). Разумею, што я, кіраўнік курса, не самы аб'ектыўны апавядальнік пра сваіх выхаванцаў, але па рэакцыі гледачоў-прафесійнікаў (на падобным фестывалі, параўноўваць і меркаваць могуць нават аматары) я адчуў, што ў агульнасусветную плынь мы патрапілі. З аднаго боку, мы на Беларусі нібыта зразумелі, да чаго імкнецца сусветны лялечны прагрэс і як яму спрыяць. З другога боку, няможна не дзівіцца з таго, што сусветная плынь (асабліва еўрапейская), рухаецца да таго, з чаго пачыналі мы! Мяне ўразіла, напрыклад, колькасць тэксту (памятаю, як за савецкім часам з нас кпілі: што, маўляў, ізноў прыехалі балабоніць?), нават у студэнтаў з Францыі, хоць хто, як не прадстаўнікі іхняе школы, колісь імкнуліся абяссловіць дзею дарэшты...

Хутчэй за ўсё сусветны тэатр мудрэйшы за нас: трэба і са словамі, і без слоў, і нічога няможна адмаўляць, і ўсё патрэбна ў тэатры, і любой лялькі знойдзецца ў ім месцейка. Прынамсі я зразумеў, што мы ідзём насустрач. Усе спектаклі, што выпала пабачыць, мелі свае ўнутраныя лялечныя законы і развіваліся па іх, а не паводле літаратуры, якая была скарыстана для асновы спектакляў. Ніхто не пераказваў сюжэт, ніхто не выпінаўся са скуры любымі сродкамі давесці гэты сюжэт да гледачоў. Ніхто не дбаў, «каб усім усё было зразумела»: асабліва гэтую тэндэнцыю выявілі маленькія спектаклі, што паказвалі ў вячэрнім тэатральным клубе. Наш спектакль «Гэта было, было...» прыпаў на дваццаць чатыры гадзіны і быў прыняты. Хоць гэта надта няўдзячная справа: паказваць свае ўяўленні пра літаратуру Дастаеўскага публіцы, якая з дзевяці гадзін раніцы паглядзела ўжо шэсць-восем спектакляў. Па-мойму, не збег ніхто. І студэнтам гэта было карысна. Таму я і зрабіў выснову, што стаўленне да мінскай тэатральнай школы... спакойнае. Нам ужо не сорамна. А вось на першым фестывалі мне было сорамна. Тады Саюз прадстаўляла яраслаўская школа, прадстаўляла як адна са старэйшых ды лепшых, а як высветлілася — як адна з найсумных...

Нас яшчэ памятаюць па былым Саюзе. І вельмі шкада, што кантакты нашы з лялечнікамі свету выпадковыя, рэдкія. Ёсць усе падставы гэтыя кантакты ўсталяваць надзейна, напрыклад, лялечнаму аддзяленню акадэміі падпісаць пагадненне пра супрацоўніцтва лялечных школ (ініцыятар — камісія па прафесійнай адукацыі УНІМА). Калі гэта ўдасца, з'явіцца юрыдычная магчымасць кантактаваць. Прынамсі ў будучым годзе Шарлевіль збірае студэнцкую супольнасць паразважаць з лялькамі ў руках над міфамі свету, — нам застаецца толькі падрыхтавацца. Калі сёлетнюю ўрадавую дапамогу не адымуць, можна будзе дбаць і пра Беларускі цэнтр УНІМА, а гэта значыць, трывала ўвайсці ў мастацтва свету.

**Запісала Жана ЛАШКЕВІЧ.**

МУЗЫКА

# ТАЯМНІЦА АБАЯЛЬНАСЦІ

О, гэта — незвычайная жанчына! Калі я бачу яе—ці то ў кансерваторыі, ці то ў канцэртнай зале, дома альбо проста на вуліцы, мне здаецца, што свет круціцца вакол яе з патроенай хуткасцю і ад гэтага ён яшчэ больш маляўнічы. Яе ўвесь час некуды цягне (хоць, калі ёй проста сказаць пра гэта, яна ўдакладніць, што яе цягне толькі дахаты), нейкая нястрымная ўнутраная энергія пастаянна разрывае яе на часткі... ды захоўваецца надзіва цэласны вобраз чалавека творчага і проста-такі ахопленага полымем натхнення. Аднойчы ўбачыўшы, яе ўжо немагчыма забыць: жывыя вочы, азораныя думкамі-бліскавіцамі, імклівыя рухі артыста, нізкі голас; высокая, стройная, з хвалістымі светлымі валасамі, элегантная і рамантычная.

Дома яе завуць «Міла», усе іншыя — «Людміла Андрэеўна», а самы малодшы член сям'і трывала засвоіў фразу: «Хадзі сюды!». Гэта, дарагі чытач, знаёмы і не знаёмы партрэт Л. А. Матукоўскай — цудоўнай піяністкі. Асобы ад мастацтва, абаяльнай жанчыны і няпростага, шматграннага чалавека.

## АЎРА

Мы прызвычаіліся да парадку; прыходзячы дадому, прывыклі бачыць кожную рэч на месцы. У доме Л. А. фраза: «Пакладзі на месца» рэдка ўжываецца. Зазірнуўшы да яе «на агеньчык», з усмешкай адзначыш так званы творчы беспарадак. Рэчы ляжаць у неверагодных спалучэннях: ноты, цацкі ўнука Ягоркі, касеты, пудра, кавалак Ягоркавай булкі, на якую ён забыўся, кнігі... Пастаянна звоніць тэлефон, штосьці гарыць на кухні, грыміць у пакоі. А сама гаспадыня, седзячы за раялем, напружана рыхтуецца да чарговага канцэрта. Самае дзіўнае, што яе і немагчыма ўявіць у іншых акалічнасцях — скажам, у атмасферы англійскай цырымоннасці. Але ў тым-то і чароўнасць, незвычайны шарм, што яна і ёсць дзейсная частка нашага бурлівага, тысячу разоў абернутага грамадства і менавіта гэтым яна арыгінальная і прывабная.

Атмасферу яе сям'і жывяць два творцы, адзін з якіх яна сама, а другі — яе муж, вядомы журналіст і драматург Мікалай Ягоравіч Матукоўскі (назаву яго ўмоўна «Назіральнік»). Шматлікія прыклады сведчаць, як цяжка захоўваць сямейны саюз людзям творчым, тым больш калі яны зусім супрацьлеглыя натуры. Назіральнік спакойны і разважлівы, а ягоная жонка — крыштальна чысты тып халерыка з несупынным фантанам энергіі. Дык трэба думаць, што яны арганічна дапаўняюць адно аднаго, бо за доўгі час сумеснага жыцця Назіральнік стварыў шэраг п'ес, якія з поспехам пастаўлены на тэатральнай сцэне, а Л. А. аб'ездзіла з канцэртамі паўсвету, а яшчэ паспела выхаваць студэнтаў, сыграць багата беларускіх фартэпіянных твораў і яшчэ выгадаваць унука, і яшчэ...

Яе дом нагадвае свет, дзе ўвесь час штосьці мяняецца. Мікрасвет ствараюць гаспадары: Ён — за сталом, Яна — за раялем, а макрасвет— усе сябры і знаёмыя, якія сюды прыходзяць і якіх вялікае мноства. Назіральнік мімаходзь адзначае, што у Л. А. велізарная патрэба у таварыскіх зносінах, яна надзвычай эмацыянальная, імпульсіўная, і ёй, як мастаку, які шукае паразумення, патрэбна адпаведнае асяроддзе, каб выплеснуць гэтую хвалю пачуццяў і ідэй, якія ў ёй нараджаюцца. «Я не выбіраю людзей, яны самі прыходзяць да мяне і сілкуюць мяне»,—гаворыць Л. Матукоўская. Яны ўсе розныя: запальчывыя і спакойныя, экстраверты й інтраверты, любяць пярэчыць і любяць прыслухоўвацца. Галоўнае, што яна заўсёды зразумее чалавека. Гэта звычайная рэч, калі Кампазітар, у парыве натхнення накідаўшы новую песню, першай спявае яе Л. А., гэтаксама, як Паэт чытае ёй яшчэ «не прасохлыя» радкі, гэтаксама, як яна першая гартае пакрэмзаныя старонкі новай п'есы мужа. Выказваючы свой пункт гледжання, яна робіць заўвагі надзвычай далікатна і па-сяброўску, добразычліва і мякка. Да яе імкнуцца, у ёй адчуваюць патрэбу — значыць, яна нечым прыцягвае людзей. Прапусцім звыклыя фразы пра адукаванасць, духоўнасць, камунікабельнасць... Ёсць штосьці яшчэ, прычым **магічнае** «яшчэ» —прынамсі, няхай яно застанецца таямніцай яе абаяльнасці.

Вы думаеце, у яе мала недахопаў? Памыляецеся, яна проста-такі саткана з іх. Але, папершае, як кожная жанчына, яна ніколі з тым не пагодзіцца, а па-другое, калі разабрацца... усе недахопы хітра пераўтвораны ў вартасці! І потым, яна настолькі шчыра прызнае свае памылкі, што нагадваць пра іх ужо быццам і непрыстойна. Хоць у зайздроснікаў Л. А. інакшы пункт гледжання. А яна ўсміхаецца: «Зайздроснікі — гэта добра, гэта нават нейкі стымул да творчасці, працы». Па шчырасці, ёй усё роўна, што думаюць пра яе зайздроснікі. Галоўнае — каб сама была задаволеная, каб уласная творчасць давала ёй жыццёвую сілу, стымул да самаразвіцця.

Яна досыць шчаслівая — гэтым свеціцца яе твар, вочы, нягледзячы на жахлівую загрузку, матанне нерваў. Менавіта шчасце, уменне радавацца жыццю, якое яно ёсць, зрабіла сэрца Л. Матукоўскай такім шчодрым да людзей — яна ж вельмі шчырая і цудоўна разумее іхнія праблемы.

Да яе часта прыходзяць студэнты, шмат іграюць. Назіральнік заўважае: «Канечне, ёй цяжка. Што значыць слухаць, як скажаюць Бетховена, Моцарта, Брамса?! Яна не вытрымлівае гэтага, тлумачыць, але музыку цяжка перадаць словамі, лягчэй самой сесці і сыграць. Да таго ж яна яшчэ і жанчына, гаспадыня: гэта і магазін, дом, любімы ўнук... Трэба лунаць у небе, каб тварыць. Ды безвыходных сітуацый не бывае. Да прыкладу,



Людміла Матукоўская.

званок у дзверы — тры чалавекі. Я думаю: «Божа, у халадзільніку нічога няма!» Пакуль я вяду лёгкую таварыскую гутарку, на стале з'яўляецца закусь. Дагэтуль не магу зразумець, адкуль што бярэцца.. Цікава назіраць яе збоку, звычкі, манеры. Вось, напрыклад, яна любіць чытаць, пісаць, глядзець фільмы позна ўначы, калі ўсе ўжо спяць. Затое раніцай яе будзяць тройчы. Яна захапляецца эканамічнымі і палітычнымі праблемамі, таму мы часта спрачаемся. З ёй лёгка, бо ўсе крыўды імгненна забываюцца. І ўвогуле ў нас вельмі многа пунктаў гледжання, якія супадаюць».

## КАНЦЭРТ

У дзень канцэрта існуюць толькі дзве рэчы — раяль і артыстка. Дом, званкі, кансерваторыя адкідаюцца. У гэты дзень усё кепска, фальшыва, невыразна: «Я нікога не хачу бачыць». На душы—туга... Але вы прыйдзіце на канцэрт!

Камерная зала, свечкі, паўзмрок... На сцэне — зіхаціць золатам сілуэт піяністкі. У яе свой бог — цудоўны раяль. Цішыня. І раптам палілася музыка: то ціха шапоча, то крычыць. Як мяняецца на сцэне піяністка! Цэлы калейдаскоп гукаў закруціўся і згуртаваўся ва унікальную маляўнічую аграмадзіну. Усе эмоцыі адлюстроўваюцца на ейным твары, у жэстах, ва ўсім аблічы. «Я павінна пражыць гэтую музыку, адчуць кожны гук, зразумець логіку развіцця музычнай думкі. Толькі тады мне ясна, што я граю, зразумелая прырода гэтай музыкі. Больш за тое, іграючы Шапэна, напрыклад, мне важна прачытаць яго пісьмы, каб зразумець, чым ён жыў у гэты час, якія пачуцці перажываў, чаму ягоная думка зрабілася менавіта такой музыкай, а не іншай. Мне цікава, яго глыбіня, як мастака»,—Л. А. іграе, і я адчуваю: яна ўжо частка гэтай музыкі. Я—слухач, і я адыходжу разам з ёй у свет музыкі, гледзячы на яе вачамі артысткі, гэта — як цудоўны сон. «Мне шкада, калі канцэрт сыграны. З'яўляецца нават настальгія па ім, па зробленай рабоце і непаўторным зачараванні менавіта гэтага канцэрта. Але мяне чакае новая праца і ўсё паўтараецца зноў».

Л. Матукоўская атрымала выдатную фартэпіянную школу: яе педагогамі былі М. Бергер і В. Мяржанаў. Яшчэ вучыўшыся ў БДК, яна сур'ёзна зацікавілася беларускай фартэпіяннай літаратурай — іграла творы А. Багатырова, Г. Вагнера, М. Аладава... Па-першае, гэта было новае, нязведанае, цікавае; яна адкрывала гэтую музыку. Па-другое, відаць, паўплывала беларускае выхаванне: сям'я першага прарэктара БДУ А. Малышава была шчодра напоена нацыянальнай песняй, бацька Л. А. быў шчырым беларусам, іграў на скрыпцы, спяваў. У доме збіраліся людзі мастацтва — літаратары, музыканты, часцяком зазіралі вучоныя. Цікавым было жыццё — вялікі абсяг для душы. «А па-трэцяе,—заўважае Л. А.,—мяне прываблівае жывая гаворка, моўная інтанацыя ў музыцы. Сучасная беларуская музыка адпавядае гэтаму і адгукаецца ў маёй душы».

Захопленая беларускай музыкай, Л. Матукоўская іграе яе ўсюды: у кансерваторыі, Саюзе кампазітараў, філармоніі, на радыё, у маленькіх і вялікіх канцэртных залах. І не важна, поўная зала альбо напаўпустая, ёй важна **ЖАДАННЕ** прысутных слухаць і разумець. Летась у Мінску прайшлі канцэрты, арганізаваныя Л. Матукоўскай. Іграла яна сама, ігралі студэнты (увесь клас!) фартэпіянныя творы Л. Абеліёвіча, Э. Тырманд, У. Алоўнікава, Я. Глебава, Р. Суруса, В. Войціка, У. Дарохіна, Л. Мурашкі. І няхай маладым выканаўцам часам не ставала артыстызму альбо ўжо занадта ахоплівала хваляванне, але музыка гучала ў іх уласнай інтэрпрэтацыі, са сваім адчуваннем піянізму. «Галоўная мая мэта — выхаваць самастойнасць студэнта. Мне цікава канцэртаваць са студэнтамі нават больш, чым адной, гэта дае цудоўныя магчымасці паказаць педагогіку на практыцы»,—кажа Л. А. Яна замоўчвае ці проста забываецца на адну маленькую дэталь, якая надзвычай важная і ўласцівая не многім педагогам, — установка на канцэрт. На ўласным прыкладзе яна развівае ў студэнтах адчуванне сцэны, артыстызм.

Л. Матукоўская часта гастралюе: нядаўна была ў Таліне з беларускай праграмай, у Рызе — з канцэртам, прысвечаным М. Багдановічу. Яна атрымлівае ад гэтага хутчэй эстэтычнае задавальненне, бо заробак, можна сказаць, сімвалічны. Дый многія канцэрты ў яе бясплатныя, гастролі дармовыя; мецэнатаў няма, усё трымаецца на энтузіязме. І калі б не было такіх, як яна, мастацтва загінула б.

На адным з лепшых здымкаў яна—у акружэнні кніг і фатаграфій, з нейкай загадкавай усмешкай, у доўгай зіхоткай сукенцы. Увасабленне жаноцкасці і элегантнасці! Але свецяцца ў яе вачах нейкія гарэзлівыя іскрынкі, зусім не спакойны гэты погляд. І зноў разумееш: Л. А. непрадказальная і жыве па нейкіх сваіх арыгінальных законах. І гэта цудоўна, бо незвычайны чалавек заўсёды выклікае ў нас цікавасць.

**Марына МДЗІВАНІ.**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# БФК: напярэдадні выбараў

Беларускі фонд культуры —адна з нямногіх грамадскіх арганізацый, якая здолела перанесці ўсе апошнія грамадска - палітычныя буры і застацца дзейснай, жывой. Не выбралася яна яшчэ, як і краіна, з фінансава-эканамічнай ямы. Але не скардзіцца, а з падзякай ставіцца да дзяржавы, якая ў цяжкую хвіліну падтрымала яе — выдаткавала 1100 тысяч рублёў на сёлетні год. Тым не менш, застаюцца надзеі і спадзяванні на тое, што калісьці і прадпрыемствы фонду будуць пазбаўлены ад падаткаў. Бо наперадзе — ажыццяўленне самых разнастайных культурных праграм, а рэалізацыя іх таксама патрабуе вялікіх грашовых сродкаў. Народжаны гэтыя праграмы тымі праблемамі, якія не здольны былі вырашыць ні дзяржаўныя, ні навуковыя, ні грамадскія ўстановы ці арганізацыі.

Такія думкі выказваліся ўдзельнікамі нарады кіраўнікоў абласных і Мінскага гарадскога аддзяленняў Беларускага фонду культуры, якая адбылася ў Мінску. А збіралася яна ў сувязі з маючай адбыцца ў кастрычніку справаздачна - выбарчай кампаніяй БФК. Удзельнікамі сходу была зацверджана працэдура выбараў — ёй дадзены накірунак быць самай дэмакратычнай.

Адмовіцца ад удзелу ў палітычным рознагалоссі, але сканцэнтраваць увагу на вырашэнні пытанняў адраджэння і развіцця нацыянальнай культуры — асноўны вынік нарады.

**В. КУДРАЎЦАВА.**

АДРАДЖЭННЕ

# ВЫВІХ ГІСТОРЫІ,

## ці непазбежны працэс развіцця культуры, які трэба зразумець і прыняць?

10-га верасня ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь адбылася прэс-канферэнцыя, наладжаная Камісіяй па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны. На пытанні журналістаў адказвалі старшыня камісіі Ніл Гілевіч, намеснік старшыні Алег Трусаў і начальнік Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў культуры Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Дзмітрый Бубноўскі.

Прэс-канферэнцыя не была дапасавана да нейкай пэўнай падзеі, і ў гэтым яе нетрадыцыйнасць. Кіраўнікі гуманітарнай камісіі Вярхоўнага Савета, што падрыхтавала законы аб культуры, адукацыі, грамадзянстве, дзяржаўнай сімволіцы, святах і іншыя, палічылі патрэбным правесці дыялог з прэсай, каб падзяліцца сваімі клопатамі, якія датычаць стану культуры і мовы, духоўнасці ўвогуле. Такая размова асабліва важная ў часе грамадскага крызісу, які найперш адбіваецца на сферы маралі і нораваў. Ва ўступным слове Ніл Гілевіч выказаў засмучэнне пазіцыяй Прэзідыума Вярхоўнага Савета, які з прапанаваных камісіяй законапраектаў да разгляду на сесіі парламента прыняў толькі адзін — праект Закона «Аб ахове і зберажэнні гістарычнай спадчыны». Былі на высокім узроўні падрыхтаваны і шмат якія іншыя не менш важныя і патрэбныя законапраекты: Закон «Аб архівах і архіўнай справе», Закон «Аб бібліятэках і бібліятэчнай справе», Закон «Аб музеях і музейнай справе» і інш. Недаацэньваць значнасць гуманітарнай сферы, ролю культуры ў жыцці народа — няслушна ва ўсіх адносінах, — сказаў Н. Гілевіч.

Намеснік старшыні камісіі Алег Трусаў паведаміў журналістам наступныя факты. Нягледзячы на тое, што Закон аб адукацыі прыняты год таму, ён з-за прамаруджання адпаведных падраздзяленняў Савета Міністраў, дасюль не выконваецца. У Камісію па культуры з пачатку навучальнага года прыйшло мноства тэлеграм, у якіх ставіцца пытанне аб прычынах невыканання арт. 34 закона, дзе гаворыцца аб даплатах настаўнікам з 1-га верасня г. г. Саветам Міністраў ігнаруецца таксама Закон «Аб мовах», і не прымаюцца захады па пераводзе справаводства на дзяржаўную мову. Па словах А. Трусава, застаюцца па-за ўвагай урада і прапановы камісіі па змаганні з праявамі жорсткасці і насілля ў сферы масавай культуры.

Першае пытанне журналістаў, як і трэба было чакаць, тычылася ідэі ўзаконення двухмоўя, што апошнім часам запушчана ў сродках масавай інфармацыі. Алег Трусаў звярнуў увагу журналістаў на публікацыі Манаева ў «Белорусской Ниве» і «Советской Белоруссии» на гэты конт, у якіх паказана псеўданавуковасць «сацыялагічных апытанняў», што праводзіліся рознымі лабараторыямі па заказах фірмы «Эрыдан» і іншых арганізацый. «Вынікі гэтых апытанняў аб быццам бы масавым адмаўленні беларусаў ад роднай мовы і масавым пажаданні мець у якасці дзяржаўнай мовы мову рускую — звычайная фальшыўка», — заявіў А. Трусаў.

Было паведамлена, што ў Камісію па культуры прыходзяць штодзённа дзесяткі пісьмаў ад грамадзян рэспублікі, у якіх выказваецца абурэнне рознага роду публікацыямі, дзе наўмысна пагардліва кажацца пра беларускую мову. Абсалютная большасць аўтараў лістоў выказваецца за захаванне ў якасці дзяржаўнай толькі адной — беларускай — мовы.

Шмат увагі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі ўдзялілі рэформе вышэйшай школы і адукацыі ўвогуле. Н. Гілевіч, разважаючы над станам адукацыі, падкрэсліў, што працу на ніве асветы і адукацыі трэба зараз падпарадкаваць адной вялікай мэце — выхаванню асобы, якая пачувалася б грамадзянінам сваёй краіны, была гатовая служыць ёй, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў. «Рэфармуючы школу, мы павінны ўважліва паставіцца да лепшых заваёў сусветнай педагогікі, але й ашчадна выкарыстаць уласныя здабыткі ў галіне адукацыі», — падкрэсліў Н. Гілевіч.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта «ЛіМа» пра стаўленне членаў камісіі да сітуацыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, Н. Гілевіч выказаў засмучэнне расколам, што ўзнік сярод прафесуры філалагічнага факультэта. Прычыны яго, на думку Н. Гілевіча, у «неразуменні таго, што трэба мяняцца». Глабальныя працэсы ў развіцці культуры — а такім ёсць нацыянальнае Адраджэнне Беларусі — вымагаюць адпаведных змен у самасвядомасці, асабліва інтэлігенцыі, якая працуе ў вышэйшай школе. «Адкручваць назад развіццё культуры — няўдзячны і безвыніковы занятак», — сказаў Н. Гілевіч. Ёсць яшчэ сілы супраціўлення беларусізацыі, таму працы яшчэ шмат, шмат яшчэ давядзецца працаваць з кадрамі, выпрацоўваць новыя падыходы ў галіне кадравай палітыкі.

Другое пытанне «ЛіМа» тычылася сітуацыі вакол Сафійскага сабора, якая апошнім часам супярэчліва каментуецца ў прэсе. Адказваючы на гэтае пытанне, А. Трусаў падкрэсліў, што цвёрдая пазіцыя Камісіі па культуры адносна лёсу Сафійскага сабора — каб ён захоўваў і надалей статус культурна-асветніцкай установы для ўсяго народа. Ніводная з канфесій, што мае віды на гэты храм, не можа прэтэндаваць на манапольнае ўладальніцтва Сафійскім саборам.

Было таксама зададзена пытанне па Законе «Аб мовах», у прыватнасці, ці не задоўгія тэрміны яго выканання. Разважаючы над ім, Н. Гілевіч сказаў: «Самая надзейная палітыка — гэта палітыка, якая грунтуецца на рэаліях. Пра тэрміны выканання закона мы шмат спрачаліся яшчэ ў рабочай групе, што рыхтавала законапраект для колішняга Вярхоўнага Савета БССР. Мая пазіцыя з тае пары не змянілася — тэрміны вызначаны рэалістычна. Увогуле, што могуць значыць для мовы, для гісторыі народа дзесяць год? Мова—катэгорыя вечная, і яе геній аніколькі не прыменшыцца ад некалькіх гадоў, вызначаных законам. Камісія па культуры не схільная да авантурызму ў метадах зрэалізацыі Закона аб мовах. Але іншае вялікае пытанне — гэта стаўленне да мовы самога Вярхоўнага Савета, яго Прэзідыума, Савета Міністраў рэспублікі, дзяржаўных міністэрстваў і ведамстваў. Там па-ранейшаму адраджэнне нацыянальнай культуры ўспрымаецца як вывіх гісторыі, як часовыя непрыемнасці. І гэта не можа не засмучаць».

**Ю. Л.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Усюды і з усімі— па-беларуску!

Я нарадзіўся ў райцэнтры пад Берасцем, але сям'я мая была цалкам рускамоўнай. У школе сутыкнуўся з беларускай мовай толькі ў 5 класе, а скончыўшы школу—доўгія 17 гадоў не меў аніякай патрэбы ведаць яе: фізфак ва універсітэце, потым праца ў Акадэміі навук. Жыў у сталіцы Беларусі—і з добрай рускай мовай адчуваў сябе як рыба ў вадзе. Упершыню задумаўся восенню 89-га—пасля вядомага разгону мітынгу на Маскоўскіх могілках. Адзінай афіцыйнай газетай, у якой я сустрэў праўду аб тых падзеях, быў «ЛіМ». Начаў купляць, шукаючы праўдзівае слова, пачаў усведамляць сябе беларусам. Праз паўгода, перасільваючы сябе і саромеючыся, упершыню звярнуўся да кіяскёра ў шапіку з газетамі, папрасіўшы даць мне нумар часопіса. Сярод маіх сяброў было некалькі, якія размаўлялі па-беларуску. Пачаў спрабаваць размаўляць з імі. На той час лічыў, што я павінен адказаць чалавеку, калі ён звярнуўся да мяне па-беларуску, таксама па-беларуску. Ішоў час. Яшчэ праз год я перайшоў на беларускую мову са сваім трохгадовым сынам.

Чытаю перш за ўсё «Наша слова» і «ЛіМ». І зараз лічу так: беларусы павінны штохвілінна дапамагаць адраджэнню сваёй мовы, і найперш—спрыяць стварэнню беларускамоўнага асяроддзя. Ты—у сваёй хаце, на Беларусі! Гавары на роднай мове ўсюды і з усімі і асабліва—з прадстаўнікамі дзяржаўных устаноў (крамы, лякарні, школы, дзіцячыя садкі і г. д.). Вакол многа людзей, якія разумеюць мову, але адвыклі ад яе ці саромеюцца. Гэта ім будзе дапамагаць, а чыноўнікаў—падштурхоўваць. І толькі ў выпадках, калі суразмоўнік зусім не разумее, тады, канечне, пажадана выкарыстоўваць іншую мову для ўзаемаразумення, у тым ліку і рускую.

Усюды і з усімі—па-беларуску! Не табе, а субяседнікам няхай будзе няёмка, што яны пакуль што не могуць адказваць табе на той жа мове! І гэта будзе твой рэальны ўклад у дапамогу матчынай мове.

**Адам ШПАКОЎСКІ,**
**народны дэпутат.**

г. Менск.

# Філасофія і мудрасць— розныя рэчы

Змест цікавага і вельмі актуальнага артыкула Міколы Крукоўскага «Суверэнітэт. Культура. Самасвядомасць, альбо Ці патрэбна беларуская філасофія?» («ЛіМ», 31 ліпеня 92 г.) вымагае працягу гаворкі па названых праблемах. Трэба думаць, такая гаворка будзе.

Ужо даўно пара нам вярнуцца да першапачатковых, сапраўдных дэфініцый усіх паняццяў, тым больш тых, што вызначаюць стан нашай духоўнасці. Возьмем, да прыкладу, паняцце культура. Колькі вакол яго нагаворана?! А сэнс і змест яго, на маю думку, ляжыць на паверхні, у састаўных слова: «культ» і «ура»—уздым да святла. У дадзеным выпадку—да святла вышэйшага, што спараджае ў нашай душы сумленне (совесць). Мець совесць—гэта значыць мець звестку (вестку, весть), што мы ў Сусвеце не адны, што ёсць вярхоўныя законы быцця, і што мы прызнаём гэтыя законы, і што, вядома, адказны за свае ўчынкі перад Тварцом (Богам). Вось адсюль і паўстае пытанне, ці можна назваць культурнымі чалавека, грамадства, цэлую этнічную папуляцыю, якія ўхіляюцца ад выканання адной з галоўных запаведзяў—самому сабе зарабляць хлеб.

Культурнасць пэўнага суб'екта вымяраецца яшчэ і адносінамі да сваіх суседзяў, асабліва калі яны ў параўнанні з ім нешматлікія.

Безумоўна, выпадае з поля культурнага існавання і той, хто ўсё жыццё пакорліва гне сваю спіну на рознага кшталту захрыбетнікаў і да каго зневажальна ставяцца розныя яго так званыя дабрадзеі ды «старэйшыя браты». Але тут ужо гаворка павінна весціся аб пакутніках, пакутніках у пэўнай ступені добраахвотных. Любы пакутніцкі шлях чымсьці выкліканы і абумоўлены. Пра гэта неабходна гаварыць таксама, і, вядома, пра шляхі пазбаўлення ад пакут.

Ёсць неабходнасць, на нашу думку, зрабіць размежаванне паміж паняццямі філасофія і мудрасць. Бо вельмі часта за філасофіяй стаіць з'ява, назва якой—сафістыка, бясконцыя і бясплённыя гаварэнні. Як сведчыць гісторыя, дзе няма дастаткова мудрасці, а зашмат «філасофіі», выходзяць розныя дактрыны аб уласнай (чалавека, грамадства, этнасу) выключнасці.

Варта ўводзіць ва ўжытак і паняцці аб сапраўдных ведах і аб вучоным няведанні. Бо сёння мы зашмат ведаем і валодаем тым, што атручвае, знішчае жывое жыццё. Нам амаль нічога невядома пра тое, што служыць працягам нашага зямнога існавання. Адсюль ні ў якім разе не трэба рабіць вывад аб неабходнасці бегчы і кідацца ў абдымкі з бязбожным духавенствам. Наша вера павінна быць асвечанай і прамяністай.

**Яўген ГУЧОК,**
**старшы рэдактар выдавецтва «Народная асвета».**

# Ад супярэчнасцей да змен

(Пачатак на стар. 5).

У рамане Івана Чыгрынава «Вяртанне да віны» пісьменнік вярнуўся да герояў сваёй эпапеі, якая даўно пачалася раманам «Плач перапёлкі». На маю думку, аўтар набыў новае творчае дыханне на сваёй марафонскай эпапейнай дыстанцыі — у сэнсе павышэння інтэлектуалізму і псіхалагізму, што абумоўлена, відаць, выхадам на пярэдні план раней эпізадычнага героя, беларускага інтэлігента Масея Зазыбы. Цікавае супадзенне: у той жа кніжцы «Полымя» (1992, № 1), дзе апублікавана першая частка новага рамана Чыгрынава, публікуецца нізка вершаў паэта-эмігранта Масея Сяднёва, паводле сведчання Івана Гаўрылавіча,— прататыпа яго героя. Думаю, чытачы з цікавасцю прачытаюць другую і, мабыць, трэцюю яшчэ неапублікаваныя часткі ягонага твора.

Мяне, як чытача, радуе пісьменніцкая і грамадзянская актыўнасць ветэрана нашай літаратуры паэта Сяргея Грахоўскага. Дзякаваць Богу, паэт сёння перажывае сапраўдны творчы ўзлёт, асэнсоўвае не толькі пройдзены, але і сённяшні шлях народа да нацыянальнага самасцвярджэння. Апублікаваная ў «Полымі» (1992, № 2) пад рубрыкай «Старонкі нашай гісторыі» яго элегія «Мястэчка... мястэчка» чытаецца на адным дыханні, бадай што як адна з удалых аповесцей літаратурнага сезону.

Сярод кніг прозы, якія апублікаваны за апошні год, звяртае на сябе ўвагу сваёй канцэптуальнасцю і сюжэтнай займальнасцю аповесць Вольгі Іпатавай «За морам Хвалынскім», нядаўна выдадзеная ў перакладзе на расійскую мову. Апрача прыкмет добрай, Караткевічавай традыцыі беларускай гістарычнай прозы, гэты твор цікавы драматычным сутыкненнем двух тыпаў сацыяльнага быцця і культуры, двух менталітэтаў — славяна-беларускай і цюрска-ўсходняй. Гэтая праблема сёння, здаецца, актуальная не толькі ў гістарычным, але і ў сучасным аспекце нашага жыцця ў рэгіёне былога СССР.

Кніга Анатоля Жалязоўскага «Чаканне шчасця» (1991), найперш ягоная аповесць «Процістаянне» пісалася ў часы пік-перабудовачнай эйфарыі (другая палова 80-х гадоў). Зразумела, той час, які, здаецца, ужо стаў гісторыяй, дэтэрмінаваў фабулу, калізіі і канцэпцыю аўтара. Але твор гэты цікавы не ілюзіямі наконт паляпшэння каманднa- адміністрацыйнага кіравання народнай гаспадаркай, а скарэй аналізам сацыяльна-псіхалагічных супярэчнасцей усіх звенняў грамадства, супярэчнасцей, якія засталіся і сёння як нялёгкая спадчына недалёкага мінулага.

Свае арыгінальныя «вершы ў прозе», сабраныя ў кніжцы «Там, за дзвярыма» (1991), Уладзімір Арлоў, следам за Алесем Разанавым, назваў «версэтамі». Тут, безумоўна, прачытваецца ў змесце «літаратурная школа» Разанава, бо асабістае і нацыянальнае жыццё прасвечваецца, так сказаць, «sub specie aeternitatis» (з пункту погляду вечнасці). Але ў плане жанравым і кампазіцыйным перад намі набліжаныя да сучаснасці медытатыўныя прытчы, вядомыя паводле біблейскай кнігі. Затое «Кніга прытчаў» Янкі Сіпакова («Полымя», 1992, № 2) названа толькі па аналогіі біблейскай кнігай, а паводле фабул і кампазіцыі — гэта сучасны жанр экспрэсіўнай, у нечым нават сюррэалістычнайназелы. Яна — новая з'ява ў нашай паэтычнай прозе.

Падводзячы вынікі свайму эскізнаму крытычнаму агляду, скажу: у сучаснай беларускай літаратуры ёсць цікавыя з'явы і мастацкія знаходкі. Аднак у ёй пераважае рэтраспектыўнае мастацкае асэнсаванне нацыянальнага быцця. Узнікае пытанне: а хто сёння выходзіць на авансцэну нашага постсавецкага, хімернага (бо яно ні сацыялістычнае, ні цывілізавана капіталістычнае) грамадства? Сакрэт гэтага героя крыху прыадкрывае апавяданне Алеся Асташонка «Шклатара». Адбываецца люмпенізацыя рабочых, значнай часткі інтэлігенцыі. А хто багацее? Падпольныя бізнесмены.

Думаецца, што ў блізкай будучыні нас чакае і пэўная станоўчая тэндэнцыя — селекцыя літаратуры, выпрабаванне на мастацкую трываласць. Шанц выжыць і «выйсці ў людзі» застанецца, з аднаго боку, за літаратурай элітарнай, якая здольна спасцігнуць глыбіню духоўнай драмы чалавека (медытатыўная паэзія, інтэлектуальная проза і драматургія) і, з другога боку,— за літаратурай масавай, займальнай у лепшым сэнсе гэтага слова, арыентаванай на ігру творчай фантазіі і здаровы эстэтычны густ.

Прыжыліся, здаецца, і пайшлі ў рост яшчэ дзве галіны нашага літаратурнага дрэва. Адна ўзнікла на сумежжы мастацкай прозы, публіцыстыкі і эскізнага «жывапісання» словам. Яе традыцыі пачынаюцца ў «казках жыцця» таленавітых палескіх народных апавядальнікаў, адкрытых фалькларыстам А. Сержпутоўскім, працягваліся ў творчасці Якуба Коласа і прозе «Нашай Нівы», а сёння ярка выявіліся ў навелах, мастацкіх дзённіках і «вітражах» Янкі Брыля. Другая плынь узнікла ў выніку сінтэзу белетрыстыкі, мастацтвазнаўчага даследавання зямнога жыцця і духоўнай «эсенцыі» асобы мастака. Знаходка літаратурнага сезона ў гэтым жанры — эсэ Віктара Карамазава пра жыццё і мастацтва В. Бялыніцкага-Бірулі «Крыж на зямлі і поўня ў небе» (1991).

Адным словам, насуперак лементацыям і «прароцтвам» скептыкаў, якія ўжо даўно спраўляюць памінкі па нашым літаратурным саюзе і, ускосна,— па самой літаратуры, яна ўсё яшчэ жыве і працуе для нацыянальнага адраджэння. Калі не дэкларацыямі, як гэта робяць палітыкі, то хоць бы ўжо адным фактам свайго існавання.

ТЭАТР

## Рагнеда набыла аблічча?

Пасля пэўнага перапынку 22 верасня на сцэну Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра ізноў выйшла Рагнеда: спектакль «Выгнанне ў рай» Н. Рапы таксама стаўся знакам святкавання на Беларусі тысячагадовых угодкаў праваслаўнай царквы. Прадстаўнік апошняй айцец Георгій Латушка ды супрацоўніца Гістарычнага музея Беларусі Ірына Зварыка зрабілі ўступнае слова перад пачаткам спектакля: высокую ацэнку гледачоў атрымала і работа Галіны Дзягілевай, якая ўвасобіла Рагнеду... не адно на сцэне паэтычнага тэатра: менавіта яе Рагнедзе давялося ўзяць удзел у святочнай вечарыне ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета.



Г. Дзягілева (Рагнеда) у сцэне са спектакля «Выгнанне ў рай».

Фота У. ПАНАДЫ.

## Папялушка, Карабас, Цмок і іншыя

Самы ветлівы, самы добры і вясёлы тэатр запрасіў першага кастрычніка на адкрыццё сезона — тэатр лялек! Вас і дзетак вашых чакаюць дзень пры дні ва ўтульнай зале ўлюбеныя ды невядомыя казачныя героі. Надарацца самыя неверагодныя цуды. Дабро абавязкова пераможа такое абрыдлае ўжо зло. Зусім няшмат пераўтварэнняў — і зноў пабяжыць старая знаёмка Чырвоная Шапачка да бабулі («Пра Чырвоную Шапачку»), уладкуюцца маленькія жыхары ў сваім церамку («Церамок»), атрымае адказ на сваё самае галоўнае пытанне маленькае сланяня («Тое самае сланяня»), весела заскачуць тры свавольнікі-парсючкі («Тры парсючкі»), спяе сваю добрую й самотную песеньку Папялушка («Папялушка, альбо Свята дабрачыннасці»). А калі жорсткі Карабас будзе тупаць сваімі страшэннымі ботамі, ніхто не спалохаецца, таму што Бураціна ўсё адно знойдзе шлях у краіну шчасця («Прыгоды Бураціна»). Сустрэнуцца з вамі ў сёлетнім сезоне і героі новай пастаноўкі В. Маслюка «Чароўная сарочка», дзе ў лялечную Белую краіну з'явіўся жахлівы Цмок, які надта хацеў ператварыць яе ў Чорную...



У. Палякоў (Азазэла) у спектаклі «Майстар і Маргарыта» М. Булгакава.

Фота А. ВАЙНШТЭЙНА.

Апрача знаных герояў са спектакляў паводле У. Шэкспіра, М. Булгакава, Я. Шварца, Л. Філатава, хутка з'явяцца і персанажы батлейкавага відовішча «Цар Ірад», якіх падрыхтавалі да выхаду на сцэну мастацтвазнаўца Г. Барышаў ды рэжысёр А. Ляляўскі. Здаецца, выразнае мастацкае вырашэнне спектакля, знойдзенае мастачкай А. Фаміной, будзе адным з самых запамінальных... Пэўна, не толькі для аматараў лялечнага мастацтва.

Нялішне будзе паведаміць, што кошт тэатральных білетаў у Дзяржаўным лялечным — самы даступны для гледачоў.

Аляксандр ВЕРГУНОЎ.

ВІДЭА

## Усё пра Максіма

На самую шырокую аўдыторыю разлічана відэастужка «Максім Багдановіч. 100», прымеркаваная да юбілею паэта. Фільм не проста выкладае біяграфію Максіма Багдановіча, але і распавядае пра юбілейныя ўрачыстасці, якія адбыліся ў Крыме ды на Волзе, у Маскве і Таліне, у Польшчы і Францыі...

Шмат каго мусяць зацікавіць думкі нашчадкаў ды сваякоў паэта,—яны сабраны з дапамогаю сцэнарыста Рыгора Барадуліна, рэжысёра Валерыя Каралёва ды аператара Сяргея Пушкіна.

МУЗЫКА

## «Пачынаем 60-ы сезон...»

Паведаміўшы пра гэта карэспандэнту «ЛіМа», дырэктар ДАВТа Беларусі мастацкі кіраўнік оперы Сяргей Картэс запрасіў усіх на першы спектакль новага сезона — 6 кастрычніка, «Вайна і мір». Звычайна гэта і нагода ўспомніць сезон мінулы і зазірнуць у бліжэйшыя планы. Дык вось, у жыцці ДАВТа пазначыліся прыкметы абнаўлення. Справа, вядома, не ў новых пастаноўках, якія папоўнілі афішу (балеты «Карсар» ды «Ундзіна», опера «Майстар і Маргарыта»). Абнаўленне — гэта спектакль дзіцячай студыі «Кот у ботах» і пазапланавая работа опернай трупы «Шэкспір і Вердзі»,гэта абнаўленне пастаноўкі «Вяселле Фігара» і ўпадабаны публікай баль «На нашай сцэне—аперэта», гэта гастролі ў Іспаніі аркестра ДАВТа і першая вандроўка оперы ў Грэцыю, са спектаклем «Медыум»...

Як зазначыў С. Картэс, юбілейны для тэатра сезон будзе адметны дзвюма беларускімі прэм'ерамі: операй А. Бандарэнкі «Князь Наваградскі» ды балетам А. Мдзівані «Рагнеда». Мяркуецца таксама пастаноўка вытанчаных аднаактовых твораў — «Іяланты» П. Чайкоўскага ды «Франчэскі да Рыміні» С. Рахманінава, аднаўленне старых спектакляў бягучага рэпертуару, якія цікавяць нашых заходніх партнёраў («Князь Ігар», «Царская нявеста»).

Беларускі балет яшчэ да пачатку сезона паспяхова выступіў у Турцыі, неўзабаве прадоўжыцца яго вялікая гастрольная праграма, у тым ліку і па краінах Заходняй Еўропы. Не адстае і опера: у лютым мае адбыцца першая вялікая вандроўка са спектаклямі «Яўгеній Анегін» ды «Пікавая дама» ў Бельгію, Люксембург, Францыю. А 2 лістапада салісты ДАВТа Наталля Кастэнка, Наталля Руднева, Марат Грыгорчык, Яраслаў Пятроў, канцэртмайстар Ларыса Талкачова вылятаюць разам з дырэктарам у Буэнас-Айрэс: запланавана 7 канцэртаў беларускіх спевакоў у Аргенціне.

Сцэна ДАВТа, у сваю чаргу, прыме выдатных гасцей: выхаванца Беларускай кансерваторыі, парыжскага спевака Аркадзя Валадося, Марыну Гулегіну; двума спектаклямі будзе дырыжыраваць маэстра з Францыі Марк Траутман... Славуты Зураб Саткілава спяе Каварадосі ў оперы «Тоска». А колькі сюрпрызаў абяцаюць маладыя беларускія салісты, якія рыхтуюцца дэбютаваць у складаных оперных партыях! Словам, тэатр мяркуе не проста выжыць у складаных сацыяльна - эканамічных умовах —ён рыхтуецца да разнастайнага, творчага жыцця. Дай Бог...

ДРУК

## ...І адраджэнскія матывы

Рэспубліканскі грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс шырокага профілю — так значыцца на вокладцы двухмесячніка Цэнтральнага праўлення Беларускага таварыства глухіх. Выдаецца ён з лютага 1991 года, але для шырокага чытача, можна сказаць, прыйшоў толькі цяпер, калі з'явіўся і ў кіёсках. «Жыццё» — за гэтай назвай шырокае кола праблем, звязаных з жыццём, работай і адпачынкам вялікай колькасці людзей.

Не застаецца часопіс убаку і ад пытанняў нацыянальнага Адраджэння. У ім вядуцца ўрокі беларускай мовы. Пачаліся яны з руска-беларускага слоўніка. У другім жа нумары на пытанні карэспандэнта С. Фокінай адказвае доктар гістарычных навук, прафесар А. Грыцкевіч — «Сімвалы незалежнай Беларусі». Ёсць тут і старонкі беларускага народнага календара на май і чэрвень.

## «Пралеска», № 9

Значную частку нумара займаюць матэрыялы, якія расказваюць пра рэспубліканскі конкурс «Педагог года-92 дашкольнай установы». Галоўны рэдактар часопіса А. Сачанка гутарыць з доктарам псіхалагічных навук Я. Каламінскім — «... Плюс псіхалагізацыя ўсяго народа». У. Арлоў працягвае чарговыя старонкі апавяданняў па гісторыі Беларусі «Адкуль наш род» — расказваецца пра князя Усяслава Чарадзея і тую няпростую эпоху, у якую ён правіў. З. Кустава працягвае «Азбукоўнік». Надрукавана народная казка «Селянін, мядзведзь і лісіца», смяшынкі У. Мацвеенкі.

## «Роднае слова», № 9

Часопіс імкнецца разнастаіць падачу матэрыялаў, выкарыстоўвае розныя формы і жанры. Супрацоўнікі «Роднага слова» І. Ждановіч і С. Барыс расказваюць пра М. Танка «ў дамашнім інтэр'еры». Юбілею нашага выдатнага паэта прысвечаны таксама артыкул Л. Гарэлік «Збіраю галасы сусвету», матэрыялы да вечара, падрыхтаваныя М. Яфімавай «Мне за ўсё даражэй небазвод нарачанскі...», нарыс М. Чарняўскага «У Пількаўшчыне».

Да 110-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа прымеркаваны матэрыялы «Мова дакладная, выразная, дынамічная» З. Кудрэйкі, «Сэрцу мілыя мясціны» М. Жыгоцкага, «З крынічак памяці людской» Б. Зубкоўскага.

Друкуюцца таксама слова Т. Кахаlandоўскай пра Зоську Верас і яе часопіс «Заранка» («Праз усё жыццё»), некалькі твораў пісьменніцы.

Зацікавяць чытачоў артыкулы Г. Прыбыткі «Беларускія асветнікі XVI—XVII стагоддзяў у Маскве», В. Шматава «Святло Скарынавых кніг», праграма-праспект па беларускай літаратуры для VII—XI класаў сярэдняй школы (літаратура пачатку XX ст., нашаніўскі перыяд). М. Скобла ў раздзеле «Літаратурны ветразь» прадстаўляе паэтэсу А. Кажэру.

## Першая паўсотня

Яшчэ адно пацвярджэнне хуткаплыннасці часу. Здаецца, зусім нядаўна (было гэта, як вядома, у ліпені 1988 года) прыйшла да чытача першая кніжка «Бібліятэкі часопіса «Маладосць». А цяпер—глядзіш! —з'явіўся пяцідзесяты зборнік. Ім наканавана было стаць кнізе паэзіі Таісы Мельчанкі «Званок у верасень». Гомельская аўтарка піша пра тое, што яе найбольш хвалюе, не абмінаючы і чарнобыльскай тэмы.

ЛІТКУР'ЕР

## Малы залатнік, ды дарагі...

Зборнік Максіма Багдановіча «Мае песні» і сапраўды маленькі, так сказаць — кішэннага фармату. Але ў ім — найбольш вядомыя творы класіка нацыянальнай літаратуры. Гэта і «Краю мой родны!», і «Вераніка», і «Слуцкія ткачыхі», і «Пагоня», і «Маладыя гады...»




Поруч з арыгіналам ідуць пераклады на рускую мову, выкананыя В. Дзяржавіным, Б. Ірыніным, І. Шкляроўскім, Ф. Яфімавым і іншымі аўтарамі.

Гэтай кніжкай Таварыства «Кніга» Рэспублікі Беларусь распачало серыю «Скарбы беларускай літаратуры і фальклору».

## Абмяркуюць кнігі маладых

7-га кастрычніка ў 15.00 адбудзецца пасяджэнне секцыі прозы, на якім будуць разглядацца кнігі маладых аўтараў. Запрашаюцца ўсе жадаючыя.

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

## Атрымалі з Кліўленда

У сувязі з XX сустрэчай беларусаў свету ў шостым нумары «Полацака» шэраг віншаванняў. Сярод іх словы В. Быкава, А. Грыцкевіча, верш Р. Барадуліна «Беларусам у выраі». М. Белямук кідае свой позірк на 40 гадоў назад, калі быў пакладзены пачатак гэтай важнай справе — «З гісторыі сустрэчаў беларусаў».




Ю. Штыхаў публікуе нататкі пра гісторыю вывучэння крыжа прападобнай Еўфрасінні, Л. Калядзінскі — пра Храм св. Міхаіла ў Віцебску. З гэтага нумара часопіс пачынае друкаваць «Кароткі нарыс па гісторыі дзяржавы і права ў Беларусі» Я. Юхо. М. Белямук працягвае даследаванне «Эмблема на шчыце герба «Пагоня», а П. Урбан — вывучэнне пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвінаў.

У. Міхнюк і Я. Паўлаў прыадкрываюць асобныя старонкі архіваў КДБ — «Як загінуў Езавітаў». «Помнікі даўніны ва ўяўленні беларусаў» — артыкул Л. Дучыц. Друкуецца працяг успамінаў Я. Ціхановіча.

Багаты літаратурны раздзел: новыя творы М. Сляднёва, вершы В. Супруна (з прадмовай А. Лойкі) з кнігі, якая рыхтуецца ў «Мастацкай літаратуры», іншыя матэрыялы.

Змешчаны факсіміле песні М. Равенскага «Падняты родны сцяг дзяржавы», чарговы раздзел кнігі С. Белай «Віленскія беларусы расказваюць...», падборка «З жыцця эміграцыі».

КУЛЬТУРА

## Заслаўе: новы музей замест старога

Два гады — пасля таго, як будынак колішняга кальвінскага збору, дзе апошнім часам месціўся Музей рамёстваў і народных промыслаў — філіял Дзяржаўнага музея Беларусі, быў перададзены Рускай праваслаўнай царкве — старажытнае Заслаўе не мела культурнага цэнтра. І вось нарэшце, 26 верасня, у Заслаўі адкрыўся музейны і выставачны комплекс.

Музейны комплекс складаецца з рэстаўраванага млына і так званай «Хаты завозніка». Завознік — гэта той, хто прывёз на млын збожжа, а хата ўяўляла сабою нешта накшталт гасцініцы, дзе завознік мог спыніцца і даволі камфортна (па сялянскіх крытэрыях) адпачыць.

У выставачнай зале экспануюцца беларускія народныя інструменты, маляванкі Алены Кіш і творы сучасных мастакоў-габеленшчыкаў В. Дзёмкінай і Ю. Піскуна, прысвечаныя Заслаўю, беларускай гісторыі.

Адначасова ў памяшканні мясцовага гарвыканкама адкрылася і будзе працаваць да 15 кастрычніка выстава археалагічных знаходак на тэрыторыі Заслаўя.

НАШ КАР.

## Сябруюць з казкай



Гэтыя сімпатычныя дзеці (на здымку)—удзельнікі дзіцячага народнага самадзейнага тэатра «Батлейка». Яго стварыла ў дзіцячым садку № 17 Крычава музычны работнік Тамара Якавенка. У рэпертуары «Батлейкі» — любімыя дзецьмі казкі, мініяцюры. Прадстаўленні, якія наладжваюць малыя, з задавальненнем глядзяць і бацькі, і равеснікі.

Фота Валерыя БЫСАВА.
БЕЛІНФОРМ.

ВІНШУЕМ!

## У месяцы верасні...

За мінулы месяц з'явіўся ладны шараг указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якімі адзначана праца вядомых дзеячаў літаратуры, культуры, выканаўцаў. Прынамсі, музыказнаўцу, члену Саюза кампазітараў рэспублікі Тамары ДУБКОВАЙ прысвоена ганаровае званне «заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь», артыстцы балета вядомага фальклорна-харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» Святлане КАШТАЛАПАВАЙ, артысту-вакалісту Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Мікалаю СКОРЫКАВУ ды піяністцы, салістцы БДФ Ірыне ШУМІЛІНАЙ — ганаровае званне «заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь».

АНОНС

## Пра ўсё, што нас зближае

З 5 кастрычніка ў «жывы» эфір пачынае выходзіць новая радыёпраграма, назву якой — на што спадзяюцца яе стваральнікі — дапамогуць прыдумаць самі слухачы. Пакуль жа называюць яе «Музычны канал». Час выхаду — 13.10 — 14.00, 15.15 — 16.05. Супрацоўнікі музычнай рэдакцыі Беларускага радыё, дасведчаныя і спрактыкаваныя прафесіяналы, спецыялісты ў галіне гэтага самага тонкага і самага ўплывовага мастацтва, разумеюць, якую велізарную ды адказную ролю адыгрывае музыка, калі яна — у эфіры. Вось і шукаюць новыя формы зносін з радыёслухачамі, каб з дапамогаю ўплывовай мовы музыкі сагрэць, зблізіць чалавечыя душы, напоўніць іх дабрынёй і надзеяй, а між тым пагаварыць і пра штодзённыя клопаты, якія таксама зближаюць нас... «Музычны канал» — гэта навіны культуры і анонсы канцэртнага жыцця, творы па заяўках слухачоў і агляды газетных публікацый па праблемах мастацтва, адказы на тэлефонныя званкі і знаёмства з цікавымі грамплацінкамі, дэбюты маладых беларускіх выканаўцаў і парады гасцей студыі. І, канечне, сур'ёзныя размовы пра музыку. Так, напрыклад, у праграме 5 кастрычніка прагучыць расказ пра музычную творчасць... нашчадка Скарыны. Пастарайцеся паслухаць!

## «Бацькаўшчына» запрашае

Шаноўныя мастакі!

Калі вы зацікаўлены ў тым, каб выйсці са сваімі творамі ў далёкі свет, зрабіць рэкламу сабе, а заадно і беларускаму мастацтву (ці наадварот), калі ваша душа ўсё яшчэ шчыміць чарнобыльскай ранай і вы жадаеце дапамагчы людзям у іх цяжкай бядзе, — запрашаем вас паўдзельнічаць у выстаўцы-аўкцыёне, што будзе наладжана ў Нью-Йорку з дапамогай Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Наладжвае выставу амерыканская ўстанова, прадстаўнік якой у гэтым месяцы згодзен прыехаць у Мінск і абмеркаваць умовы ўдзелу ў гэтай выставе-продажу як творчых суполак, так і асобных прафесійных мастакоў і народных умельцаў. Іх удзел можа быць чыста дабрачынным, калі ўсе выручаныя грошы пойдуць на набыццё лекаў і медычнага абсталявання для Беларусі, альбо з адлічэннем долі прыбытку ад продажу ўладальнікам твораў. Мастакам, чыя творчасць будзе цешыцца найбольшым поспехам, арганізатары выставы-аўкцыёна бяруцца залагодзіць у ЗША персанальныя выстаўкі. Пра сваю згоду ўдзельнічаць у гэтым дабрачынным мерапрыемстве просьба ў хуткім часе паведаміць сакратару-рэферэнту ЗБС «Бацькаўшчына» Макоўскай Алене на працу (тэл. 27-32-87), ці дахаты старшыні рады Лецку Яўгену (37-91-87).

# «ІДЭАЛАГІЧНА ЧУЖЫ ЭЛЕМЕНТ...»

## Новае пра лёс Антона Баліцкага

Ад аднаго гісторыка мне давялося пачуць у прыватнай гутарцы такое меркаванне пра народнага камісара асветы Беларусі ў далёкія дваццатыя гады Антона Баліцкага: ён, маўляў, належаў да людзей, якія адначасова былі і саўдзельнікамі злачынстваў сістэмы і яе ахвярамі.

Я даўно цікаўлюся асобай гэтага чалавека, меў магчымасць пазнаёміцца з многімі архіўнымі дакументамі, якія тычацца яго жыцця і дзейнасці, і вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што ён усё-такі быў ахвярай кзмуністычнай сістэмы, якая не цярпела ніякага іншадумства. А іншадумцам Антон Баліцкі быў. І досыць актыўным...

Але ўсё па парадку. Мне хочацца, хоць пункцірна, абазначыць асноўныя вехі біяграфіі А. Баліцкага.

У 1921—1929 гадах ён займаў пасады спачатку намесніка наркома, а затым і наркома асветы рэспублікі. Сістэма асветы на пачатку 20-х гадоў была вельмі складаная. Акрамя асноўных пытанняў адукацыі, выхавання, навукі, наркамат выконваў таксама функцыі нядаўніх Міністэрства культуры, Дзяржкіно, Дзяржкамітэта па справах выдавецтва, паліграфіі і кніжнага гандлю БССР і некаторых іншых устаноў.

З імем А. Баліцкага звязаны прынцыповыя змены ў арганізацыі і развіцці сістэмы народнай асветы Савецкай Беларусі.

7 красавіка 1926 года па яго ініцыятыве ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову аб увядзенні на Беларусі ўсеагульнай абавязковай пачатковай адукацыі дзяцей ва ўзросце ад 8 да 11 гадоў.

Плённая дзейнасць Антона Васільевіча і работнікаў Наркамата асветы БССР у гэтым напрамку прынесла добрыя вынікі. Ужо ў 1927—28 навучальным годзе працавала больш за 5 тысяч школ, якія наведвалі 357 тысяч вучняў.

Антон Васільевіч добра разумеў, што ў сувязі з увядзеннем усеагульнай пачатковай, а затым і сямігадовай адукацыі, павелічэннем колькасці школ расце патрэба ў кваліфікаваных педагагічных кадрах. Каб забяспечыць імі школьную сетку, у Савецкай Беларусі была шырока разгорнута падрыхтоўка настаўнікаў сярэдняй і вышэйшай кваліфікацыі. Так, ужо ў 1927—28 навучальным годзе ў рэспубліцы працавала 15 педагагічных тэхнікумаў, у якіх навучалася каля 3 тысяч юнакоў і дзяўчат.

Знаходзячыся на пасадзе наркома асветы БССР, А. Баліцкі надаваў вялікую ўвагу павелічэнню колькасці вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў, умацаванню іх матэрыяльнай базы. Яго подпіс стаіць пад гістарычным актам урачыстай закладкі будынкаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта (Універсітэцкага гарадка). Антон Васільевіч садзейнічаў адкрыццю ў Мінску Музея рэвалюцыі БССР, рэарганізацыі Беларускай дзяржаўнай і універсітэцкай бібліятэк ў Беларускую дзяржаўную бібліятэку (з 1932 года Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна), клапаціўся аб дзейнасці Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатра пад кіраўніцтвам У. Галубка.

А. Баліцкі быў не толькі таленавітым арганізатарам і кіраўніком народнай асветы Савецкай Беларусі, але і адным з арганізатараў навукі і культуры рэспублікі. У якасці намесніка наркома асветы БССР і прадзейнага члена Інбелкульта ён садзейнічаў арганізацыі Інстытута беларускай культуры і ўсяляк дапамагаў яго рабоце.

Антон Васільевіч быў старшынёй Прэзідыума аб'яднанай секцыі беларускай мовы і літаратуры Інбелкульта, уваходзіў у склад урадавай камісіі па рэарганізацыі Інстытута Беларускай культуры ў Беларускую Акадэмію навук. У снежні 1928 года А. Баліцкі быў зацверджаны членам Прэзідыума БАН.

Актыўная нацыянальная палітыка, якую праводзіў Антон Васільевіч, аказалася не дападобы партыйнаму кіраўніцтву рэспублікі і асабліва старшыні ЦКК КП(б)Б і наркому РСІ Аўгусту Калніну. У сярэдзіне 20-х гадоў А. Баліцкі двойчы выключаўся з партыі. Першы раз — летам 1923 года, калі рашэннем ЦКК КП(б)Б яму была аб'яўлена строгая вымова з пазбаўленнем яго права на працягу аднаго года быць абраным у партыйныя органы і на партканферэнцыю. За што? За пазіцыю, занятую ім у час выбараў у райком партыі ў маі 1923 года. Антон Васільевіч тады падверг сумненню адну з прысланых «зверху» дырэктыў, чым заслужыў ярлык «ухіліста». А 24 мая 1924 года ў ходзе партыйнай чысткі пастановай праверачнай камісіі А. Баліцкага выключаюць з партыі «как идеологически чуждый элемент, не переварившийся за время пребывания в партии». Крытычна было ацэнена яго выступленне на акадэмічнай канферэнцыі, прысвечанай праблеме беларускага правапісу. Антону Васільевічу паставілі ў віну нават тое, што ў сваёй прамове ён ні разу не сказаў пра ролю камуністычнай партыі ў стварэнні БССР і развіцці беларускай культуры. Абвінавачваўся ён таксама і ў тым, што не пратэставаў супраць афармлення ў беларускім нацыянальным каларыце залы пасяджэнняў.

А. Баліцкі не мог не бачыць, што над яго галавой згушчаюцца хмары. Іншы на яго месцы мог «прытаіцца», перачакаць грозны час, не «падстаўляць сябе». Але не такім быў гэты чалавек. Калі ў перыядычным друку пачалося цкаванне вядомага савецкага вучонага-гісторыка, рэктара БДУ У. Пічэты, калегія Наркамата асветы БССР па ініцыятыве А. Баліцкага ў сакавіку 1929 года прымае спецыяльную пастанову ў яго абарону.

Пачынаючы з другой паловы 20-х гадоў многіх вядомых дзеячаў навукі і культуры рэспублікі пачалі абвінавачваць у так званым нацыянал-дэмакратызме, які ў партыйных дакументах і ў друку тлумачыўся як варожая савецкай уладзе ідэалогія, контррэвалюцыйная дзейнасць, што ставіла сваёй мэтай рэстаўрацыю капіталізму ў Беларусі. Сярод абвінавачваемых у «нацдэмаўшчыне» былі такія вядомыя грамадскія і дзяржаўныя дзеячы, як З. Жылуновіч, У. Ігнатоўскі, З. Прышчэпаў, А. Баліцкі, П. Ільючонак, А. Ульянаў, М. Кудзелька (Міхась Чарот), П. Галавач, А. Адамовіч і іншыя.

31 жніўня 1929 года А. Баліцкі быў звольнены з пасады наркома асветы, а 17 верасня Прэзідыум ЦКК КП(б)Б аб'явіў яму строгую вымову з накіраваннем яго на два гады на нізавую работу.

Антон Васільевіч некаторы час быў беспрацоўным, а потым працаваў вясковым настаўнікам на Гомельшчыне.

Апагеем кампаніі супраць так званых нацыянал-дэмакратаў стала сфальсіфікаваная справа «Саюза вызвалення Беларусі», па якой органамі АДПУ было арыштавана 86 чалавек, галоўным чынам дзеячаў навукі, культуры, мастацтва і адказных супрацоўнікаў раду наркаматаў рэспублікі, уключаючы наркомаў. Адным з іх быў А. Баліцкі.

Мне ўдалося высветліць такія-сякія падрабязнасці ягонага арышту. Яго блізкая сваячка Арыядна Паўлаўна Высоцкая, якая доўгі час жыла ў сям'і А. Баліцкага, расказвала мне, што летам 1930 года Баліцкі зняў хату ў адной з вёсак непадалёк ад Менска і адпачываў там з сям'ёй. «У той дзень Антон Васільевіч быў з сям'ёй у вёсцы, — апавядала Арыядна Паўлаўна, — а я была адна ў кватэры. Жылі мы тады на Пляцы Волі. Работнікі АДПУ прыехалі на машыне ноччу, гадзін у 12 і спыталі Баліцкага. Я сказала, дзе ён. Яны пэехалі, а праз некалькі гадзін прыехалі разам з Антонам Васільевічам. Баліцкі захоўваў спакой і сказаў мне: «Ты не пужайся, цяпер у нас будуць рабіць вобыск». І пачалося... Перарылі ўсё, асабліва кнігі. У сястры была велізарная медыцынская бібліятэка, дык разгортвалі кожную кнігу і кідалі на падлогу. Так працягвалася да раніцы. Нічога не знайшлі... На развітанне Антон Васільевіч сказаў мне, каб мы не хваляваліся, бо ён хутка вернецца. Яго павезлі, і з таго часу мы больш яго не бачылі».

Архіўныя дакументы сведчаць, што А. Баліцкі быў арыштаваны не ў жніўні, як успамінае А. Высоцкая, а 3 верасня 1930 года. А праз паўтара месяца — 18 кастрычніка рашэннем Бюра ЦК КП(б)Б ён быў выключаны з партыі пры разглядзе пытання па справе «Саюза вызвалення Беларусі».

Яшчэ раней былі арыштаваны намеснік наркома земляробства БССР А. Адамовіч, намеснік старшыні «Белпайгандлю» П. Ільючонак, а потым нарком земляробства БССР З. Прышчэпаў. Разам з А. Баліцкім усе яны абвінавачваліся ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў. У снежні 1930 года з невядомых прычын матэрыялы ў адносінах да З. Прышчэпава, А. Баліцкага, А. Адамовіча, П. Ільючонка, былі выдзелены ў асобную следчую справу.

Ішлі доўгія месяцы зняволення З. Прышчэпава, А. Баліцкага, А. Адамовіча, П. Ільючонка без прад'яўлення абвінавачвання. Пастановай калегіі АДПУ ад 18 сакавіка 1931 года іх прызналі вінаватымі ў тым, што на працягу шэрагу гадоў належалі да контррэвалюцыйнай арганізацыі

# Хутары на Беларусі

У падручніках па гісторыі БССР пра хутары на Беларусі ўспаміналі звычайна адным радком — для нас гэта было нешта чужое, нязвыклае, насільна занесенае сюды П. Сталыпіным і прадаўжальнікамі яго справы—«прышчэпаўцамі».

Між тым, не трэба праводзіць глыбокіх даследаванняў, каб паказаць, што хутарское рассяленне ў беларускіх губернях пачало пашырацца пад уплывам перасяленцаў з Прыбалтыкі ўжо ў другой палове XIX ст. Па падліках, зробленых у 1905 г., толькі ў Віцебскай губерні тады было больш за 5 тысяч хутароў. Пакольні на хутары высяляліся напачатку ініцыятыўныя і руплівыя вяскоўцы, то іх гаспадаркі хутка ставаліся аднымі з самых заможных у акрузе.

Калі ў гады сталыпінскай рэформы ініцыятыва сялян пачала падтрымлівацца дзяржавай, рассяленне на хутары набыло сілу імклівага руху. На Беларусі ён узмацняўся дзеяннем такіх фактараў, як паглыбленне спецыялізацыі сельскай гаспадаркі ў накірунку мяса-малочнай жывёлагадоўлі, вырошчвання бульбы, лёну, а таксама прыродна-геаграфічных ўмоў. У Віцебскай і Магілёўскай, як і ў цэнтральных губернях Расійскай імперыі, сялян падштурхоўвала да вядзення хутарской гаспадаркі імкненне выдзеліцца з абшчыны, якая стрымлівала ініцыятыву вяскоўцаў, абмяжоўвала свабоду іх дзеянняў, замацоўваючы церазпалосіцу і, разам з тым, і мацнейшую эксплуатацыю з боку багатых мужыкоў. Як вынік, тут працэнт выйшаўшых на хутары быў істотна вышэйшым, чым у сярэднім па імперыі.

Безумоўна, ідэалізаваць сталыпінскую аграрную рэформу таксама было б памылковым, яна мела істотныя сацыяльныя выдаткі, стварала пэўныя перашкоды ў развіцці нацыянальнага руху. Ды факт застаецца фактам—у перыяд першай сусветнай вайны, калі ўрад не быў здольны эфектыўна кантраляваць ход землеўпарадчых работ, выхад на хутары стыхійна працягваўся.

Новы штуршок рассяленню на хутары магла даць ліквідацыя памешчыцкага землеўладання. Але, як вядома, з усталяваннем савецкай улады зямля была нацыяналізавана (тут да месца нагадаць, што на Беларусі да кастрычніка 1917 г. большасць сялян мела яе ў прыватнай уласнасці). Тут пачынаецца стварэнне саўгасаў і фарсіраванне працэсу аб'яднання аднаасобных гаспадарак у калектыўныя. У Віцебскай і Магілёўскай губернях многія партыйныя кіраўнікі і работнікі зямельных аддзелаў лічылі, што калі зараз жа не стварыць «адзінай камуністычнай сельскай гаспадаркі, то ўся прамысловасць прыпыніцца і працоўным будзе пагражаць галодная смерць». Адсюль на ўзбраенне быў узяты лозунг: аднаасобная гаспадарка павінна быць як найхутчэй зліквідавана.

Была спынена хутарызацыя і ў створанай (люты 1919 г.) Літоўска-Беларускай ССР (ЛітБел). Тут таксама большасць маёнткаў аддавалася пад саўгасы і калектыўныя гаспадаркі. У наркамаце земляробства ЛітБел быў створаны пададдзел абагульнення сельскай гаспадаркі. Арганізоўваліся так званыя рабочыя камітэты садзейнічання арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Дарэчы, памылковасць такой палітыкі ўсведамлялася ўжо тады асобнымі супрацоўнікамі Камісарыяту земляробства (аб чым сведчыць дакумент, знойдзены ў адпаведным фондзе ЦДАКР РБ, на жаль, не падпісаны). «Ставячы сабе на словах шырокія задачы насаджэння сацыялізму, — гаворыцца ў ім, — мы адмаўляем у задавальненні надзённых патрэб беднаму насельніцтву».

Выступленні сялянства садзейнічалі таму, што ўжо ў канцы 1920 г. найбольш дальнабачныя з бальшавіцкага кіраўніцтва прыходзяць да разумення неабходнасці змены аграрнай палітыкі. У прыватнасці, У. Ленін заяўляе: «калгасы нашы падобны на багадзельні, і трэба абапірацца на аднаасобнага селяніна». Праз год з'явіўся дэкрэт аб свабодным выбары форм землекарыстання. На месцах сяляне тлумачылі гэта як доўгачаканае вяртанне да ранейшай землеўпарачай палітыкі. Загадчык Віцебскага губернскага зямельнага ўпраўлення ў 1922 г. тэлеграфаваў у Маскву: «Новыя пазямельныя адносіны ўспрыняты вёскай добразычліва і назіраецца вялікая цяга да хутароў, для чаго



Фота А. КЛЕШЧУКА.

зацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якая называлася «Саюзам адраджэння Беларусі» (САБ), а потым была перайменавана ў «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ). Гэтая арганізацыя быццам бы ставіла сваёй канчатковай мэтай звяржэнне савецкай улады шляхам узброенага паўстання і інтэрвенцыі і ўстанаўлення буржуазнай Беларускай Рэспублікі. У прыгаворы адзначалася, што Баліцкі і яго саўдзельнікі дапамагалі кіраўніцтву СВБ збіраць і канцэнтраваць контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакратычныя сілы ў кіруемых імі ўстановах. Яны праводзілі нацыянальна-дэмакратычныя ідэі ў навучальных установах, літаратуры і друку, адрывалі навуковыя ўстановы Беларусі ад усесаюзных навуковых цэнтраў, распаўсюджвалі контррэвалюцыйныя літаратурныя творы, напісаныя нацыянал-дэмакратычнымі паэтамі і пісьменнікамі па заказе цэнтра «Саюза вызвалення Беларусі».

На падставе артыкулаў $58^{11}$ і $58^{2}$ усе абвінавачваемыя былі кінуты ў лагер на 10 гадоў кожны.

А. Высоцкая ўспамінае: «Антон Васільевіч умудрыўся неяк з лагера прыслаць даволі аб'ёмісты рукапіс, дзе падрабязна апісваў сваё жыццё. Ён пісаў, што ні ў чым не вінаваты і не разумее, за што яго арыштавалі. Баліцкі прасіў адправіць гэты рукапіс у Маскву Сталіну. Я выканала яго просьбу, але ніякага адказу мы не атрымалі».

А. Баліцкі адбываў пакаранне ў Беламорска-Балтыйскім лагеры НКУС. Па пастанове оперупаўнаважанага следаддзела УДБ НКУС Быхоўскага ад 20 чэрвеня 1937 года, па зноў адкрытых абставінах, якія, быццам бы, сведчылі аб прыналежнасці Баліцкага да антысавецкай арганізацыі, ён, як гэта бачна з матэрыялаў справы, быў вернуты ў Мінск, дзе пачалося новае следства. 25 верасня 1937 года Баліцкаму было прад'яўлена абвінавачанне ў тым, што ён з'яўляўся адным з кіраўнікоў нацыянал-фашысцкай арганізацыі ў Беларусі, вёў актыўную дыверсійна-шкодніцкую работу ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і савецкім апараце і на глебе шпіёнскай дзейнасці быў звязаны з польскім консулам у Мінску. На падставе артыкулаў 68, 69, 10 і 76 КК БССР А. В. Баліцкі 30 кастрычніка 1937 года быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Прыгавор быў прыведзены ў выкананне 31 кастрычніка 1937 года. Ёсць падставы меркаваць, что гэта адбылося ў сумна славутых Курапатах.

Вызначэннем Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР ад 25 сакавіка 1958 года справа па абвінавачанні А. В. Баліцкага, асуджанага ў 1937 годзе, была спынена за адсутнасцю складу злачынства.

Значна даўжэй прыйшлося чакаць рэабілітацыі па абвінавачаннях у нацдэмаўшчыне ў 1930—1931 гадах. Аналіз матэрыялаў справы і дадатковая праверка засведчылі недаказанасць самога існавання арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі». Таму 14 чэрвеня 1988 года Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР вызначыла: «Пастанову калегіі АДПУ ад 18 сакавіка 1931 года ў адносінах Прышчэпава З. Ф., Баліцкага А. В., Адамовіча А. Ф., Ільючонка П. В. адмяніць і справу вытворчасцю спыніць за адсутнасцю ў іх дзеяннях саставу злачынства».

І на заканчэнне колькі слоў аб тым, што не ўваходзіла ў службовыя характарыстыкі Антона Васільевіча Баліцкага, — аб яго асабістых якасцях як чалавека, яго сям'і. Па сведчаннях людзей, якія яго ведалі, гэты шыракаплечы, з заўсёды начыста голенай галавой чалавек быў адкрыты і ветлівы, гатовы прыйсці на дапамогу бліжняму. Сям'я Баліцкіх жыла сціпла. Нарком асветы атрымліваў у месяц 150 рублёў, у той час, як яго жонка Тамара Паўлаўна, урач па спецыяльнасці, — 700 рублёў.

Сям'я Баліцкіх жыла ў доме № 3 па вуліцы Скобелеўскай, дзе цяпер Дом афіцэраў. Тамара Паўлаўна працавала ардынатарам у 2-й клінічнай бальніцы ў прафесара Выдрына. У маі 1922 года ў Баліцкіх нарадзіўся першынец — сын Вадзім, а ў 1926 годзе — другі сын, якога назвалі ў гонар бацькі Антонам. У той час у гэтай сям'і жылі маці Тамары Паўлаўны з дачкой Адай. У 1924 годзе ў Мінск выклікалі брата жонкі А. В. Баліцкага — Глеба Сарокіна (будучага народнага артыста СССР Глеба Паўлавіча Глебава). Так што зарплаты Антона Васільевіча і Тамары Паўлаўны ледзь хапала для вялікай сям'і.

Як успамінаюць блізкія сваячкі А. Баліцкага З. Завадская і А. Высоцкая, сярод сяброў Антона Васільевіча былі Янка Купала, Цішка Гартны, Міхась Чарот. Яны часта бывалі ў яго дома, чыталі свае новыя творы, раіліся. Частымі гасцямі ў гэтай кватэры былі артысты, музыканты, кампазітары.

Пасля арышту Антона Васільевіча на яго сям'ю і сваякоў пачаліся розныя ганенні. Тамару Паўлаўну звольнілі з клінікі, сям'я апынулася без сродкаў для існавання, дзеці галадалі. У 1936 годзе Тамара Паўлаўна Баліцкая ад усіх гэтых нягод цяжка захварэла і памерла.

З 1939 года Антон Баліцкі-малодшы жыў у свайго дзядзькі Г. П. Глебава (Сарокіна). У 1944 годзе ён скончыў снайперскую школу, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. У 1958 годзе Антон Антонавіч Баліцкі закончыў Кіеўскае вышэйшае інжынерна-авіяцыйнае вучылішча ВПС і служыў у войсках Уральскай і Далёкаўсходняй ваеннай акругі. У 1972 годзе звольніўся ў запас у званні падпалкоўніка і прыехаў у свой родны Мінск, дзе працаваў старшым інжынерам Дзяржстандарта БССР. Зараз А. А. Баліцкі — пенсіянер. У яго дзве дачкі — Вольга і Таццяна.

Памяць пра Антона Васільевіча жыве сярод яго землякоў. У музеі Лашанскай сямігадовай школы імя Я. Ф. Карскага і Луцкаўлянскай сярэдняй школы экспануюцца яго фатаграфіі, матэрыялы аб жыцці і дзейнасці.

**Э. ІОФЕ,**
**дацэнт Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага, кандыдат гістарычных навук.**

# Слова развітання

Заўчасна, на 59-м годзе жыцця памёр Юрый Пашкін. Нямногія даведаліся пра яго смерць і прыйшлі правесці яго ў апошні шлях. Ён жыў замкнёна, ціха і неяк далікатна... Гэтаксама ціха 8 верасня пайшоў з жыцця...

Людзі, якія прысвяцілі сябе акадэмічнай навуцы, мала вядомыя шырокаму колу тэатральнай грамадскасці. Але для нашага невялікага цэху тэатразнаўцаў і крытыкаў гэта адчувальная страта. Юрый Андрэевіч Пашкін, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік аддзела тэатра ІМЭФ АН Беларусі даследаваў праблемы рускай тэатральнай культуры на Беларусі, міжнацыянальныя тэатральныя сувязі. Напісаў манаграфію «Рускі тэатр у Беларусі XIX стагоддзя», падрыхтаваў, але не паспеў выдаць кнігі пра Тэатр юнага гледача, пра акцёра Кістава.

Мы ведалі Юрыя Андрэевіча Пашкіна як цудоўнага знаўцу архіўнай справы, удумлівага даследчыка, інтэлігентнага, сумленнага і жыццярадаснага чалавека. Такім ён і застанецца ў нашай памяці...

**Калегі.**

# Светлы след

Восеньскую радасць сонечнага Узвіжання раптоўна захмарыла горкая вестка з Львова: памёр Уладзімір Лучук. Той, хто хоць крыху ведаў гэтага прачула-шчырага, дарэшты аддадзенага роднай украінскай зямлі паэта-грамадзяніна, гэтага па-дзіцячы даверлівага, спакойна-ўраўнаважанага ўкраінца-заходніка, гэтага вернага, надзейнага пабраціма беларускай культуры, адразу зразумее, якую непапраўную страту панеслі не толькі братняя Украіна, украінская літаратура, але і мы, беларусы, усё беларускае прыгожае пісьменства.

Уяўляю тое духоўнае здранцвенне, якое выклікала дачасная смерць пісьменніка (а пражыў ён усяго пяцьдзесят восем гадоў) ва ўсіх, хто яго блізка ведаў, з кім ён у свой час працаваў: у супрацоўнікаў львоўскага часопіса «Дзвін», абласнога Таварыства аховы помнікаў гісторыі, Львоўскай навуковай бібліятэкі імя В. Стафаніка, львоўскага аддзялення інстытута літаратуры імя Т. Шаўчэнкі Акадэміі навук Украіны... Невымоўны боль працінае сэрцы яго родных...

Здаецца, яшчэ ўчора (бо і сапраўды: прайшло толькі паўтара месяца!) у Маладзечне на Міжнароднай навуковай канферэнцыі па фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў мы слухалі яго разважлівы, глыбокі даклад пра ролю прафесара І. Свянціцкага ў беларускім нацыянальным адраджэнні, бачылі мяккую ўсмешку з-пад крыху абвіслых казацкіх вусоў, радаваліся і за яго, і за ўсё «лучукоўскае трыо» (да тэматыкі канферэнцыі і да беларускай культуры ўвогуле ён залучыў яшчэ жонку, вядомую паэтэсу Аксану Сенатовіч і сына, кандыдата філалогіі Тараса Лучука)... Здаецца, яшчэ пазаўчора (а было гэта сёлета ў сакавіку) на арганізаваных ім у Львове Багдановічаўскіх чытаннях мы (С. Законнікаў, С. Панізнік, Т. Кабржыцкая і я) з неймавернарадасным здзіўленнем прымалі з ягоных рук унікальны падарунак — укладзеную і выдадзеную ім на ксераксе ўсяго за адзін дзень (!) кніжачку М. Багдановіча «Пагоня», якую склалі арыгінал гэтага класічнага верша і вядомыя ўкладальніку пераклады твора на мовы народаў свету...

Можна прыгадаць і шматлікія іншыя, заўжды жаданыя, запланаваныя і нечаканыя сустрэчы з Уладзімірам Лучуком: і ў Маскве, і ў карпацкай Франковай Крыварыўні, і на маёй роднай Ракаўшчыне, дзе ў Доме творчасці «Іслач» імя В. Дуніна-Марцінкевіча яму так хораша пісалася... Так, было усё гэта, было...

Але чаму «было»? Наперадзе ж ва ўсіх нас новыя сустрэчы з пісьменнікам Лучуком, з ягонай творчасцю, якая — несумненна! — застанецца жыць у свядомасці і сэрцах не аднаго пакалення ўдзячных чытачоў. А гэта — сотні вершаў і паэм, што ўвайшлі ў тры дзесяткі выдадзеных ім кніг для сталага і дзіцячага чытача, у тым ліку — прачулыя вершы з ягонай беларусіяны: «Вязынка», «Свіцязь», «Пачатак Якуба Коласа», «Максім Багдановіч», «Пакаранне Кастуся Каліноўскага. 1864», «Фенікс-Мінск», «Хатынь» і інш. Гэта і шматлікія вершаваныя пераклады на ўкраінскую мову з літаратур славянскага свету і найперш— з беларускай літаратуры (творы М. Багдановіча, Я. Купалы, М. Танка, Р. Барадуліна, Л. Геніюш, У. Караткевіча, А. Лойкі, С. Панізніка, В. Зуёнка, У. Дубоўкі і інш.). Гэта і выдатныя артыкулы, эсэ пра літаратуру і літаратараў, а сярод іх—і пра беларускую літаратуру, беларускіх літаратараў, пра ўкраінска-беларускія літаратурныя повязі. Гэта і ўкладзеныя ім, з ягонымі прадмовамі і каментарыямі, унікальныя паэтычныя анталогіі, такія, як анталогія мадэрнісцкай заходнеўкраінскай паэзіі пачатку XX стагоддзя «Маладая муза», вялікі зборнік вершаў (у тым ліку— і беларускіх паэтаў) пра ўкраінскую мову і інш. Нават цяжка адразу акінуць думкаю тую шырокую літаратурную дзялянку, якую так дбайна ўрабляў гэты павольны ў рухах і голасе, флегматычнага складу добрасумленны пісьменнік-працаўнік.

Верыцца, што ўкраінскі чытач неўзабаве атрымае кніжку, думкай пра якую Уладзімір Лучук апошні час жыў. У яе павінна было ўвайсці ўсё лепшае, што ён напісаў пра Беларусь вершам і прозаю, а таксама ягоныя вартнейшыя пераклады з беларускай паэзіі. А мы, беларусы, проста абавязаны паскорыць выданне кніжкі выбранай лірыкі Лучука ў нашай самай прэстыжнай серыі перакладной паэзіі. Бо выдадзеная колісь у нас яго дзіцячая кніжачка «Возера-Бульдозера» (1978, пераклад Р. Барадуліна і В. Зуёнка), якою ён у свой час надта цешыўся,—далёка неадэкватная таму ўкладу, які паэт унёс у развіццё літаратуры, завельмі малая даніна ўдзячнасці такому самааддадзенаму прапагандысту беларускай культуры, нястомнаму сейбіту на ніве беларуска-ўкраінскага братэрства.

Светлы след, пракладзены Уладзімірам Лучуком у небе паэзіі і на роднай зямлі, будзе вечна жывы!

**Вячаслаў РАГОЙША.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі смуткуе з выпадку заўчаснай смерці перакладчыка беларускай літаратуры вядомага ўкраінскага паэта Уладзіміра ЛУЧУКА, выказвае глыбокае спачуванне яго жонцы паэтэсе Аксане Сенатовіч, родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса «Нёман» і рэдкалегія выказваюць глыбокае спачуванне намесніку галоўнага рэдактара Генадзю Бубнаву з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці БАЦЬКІ.**

не шкадуюць аніякіх сродкаў для аплаты землеўпарадчыкам, толькі б атрымаць хутар».

Дарэчы, менавіта ў Віцебскай (як і ў Смаленскай) губерні ў першай палове 20-х гг. колькасць хутароў працягвала імкліва павялічвацца, дасягаючы ў асобных паветах (раёнах) 70—80 працэнтаў сярод іншых форм землекарыстання. Звернемся да аднаго цікавага дакумента, які захоўваецца ў Віцебскім абласным архіве і ўяўляе сабою сукупнасць анкетных звестак па апытанні насельніцтва аб формах землекарыстання, праведзенага ў канцы 1921—пачатку 1922 г. Не злоўжываючы ўвагай чытача, звернемся толькі да асобных адказаў. Напрыклад, на пытанне: «пры якой з формаў землекарыстання дасягаецца лепшая апрацоўка глебы» каля 88 працэнтаў апытаных адказалі: «пры хутарской». Каля 67 працэнтаў сцвярджалі, што менавіта пры хутарской форме землекарыстання дасягаецца найбольшая дапамога суседзяў адзін аднаму, і больш за 72 працэнты удакладнілі, што жыццё на хутарах не перашкаджае наведванню дзецьмі школы, а дарослымі—розных сходаў. Таму не дзіўна, што 78,8 працэнта рэспандэнтаў вызначылі: насельніцтва іх сельсаветаў імкнецца пераважна да хутарской формы.

З пункту гледжання перспектыў павелічэння сельскагаспадарчай вытворчасці і зніжэння сабекошту прадукцыі, уліку схільнасцей сялянства найбольш эфектыўнай формай была хутарская гаспадарка. Гэта паказала само жыццё. Напрыклад, у той час, калі на пасёлку і адрубах вытворчасць лёну не прыносіла прыбытку ці з'яўлялася стратнай, хутаране мелі ад гэтай культуры да 40—45 працэнтаў прыбытку. Спецыяльная камісія, якая даследавала стан сялянскай гаспадаркі ў розных рэгіёнах БССР у 1928 г., вызначыла, што ва ўмовах пераважна хутарскога землекарыстання сельскагаспадарчая вытворчасць у Віцебскай акрузе развіваецца больш інтэнсіўна. Не адмаўляў найбольшай эфектыўнасці хутароў сярод астатніх формаў індывідуальнага землекарыстання ў сваёй манаграфіі і прафесар, вядомы спецыяліст-аграрнік М. Макараў (1929). Па такім паказчыку, як рацыянальнае выкарыстанне зямельнай плошчы, апошні ставіў хутары вышэй, чым калгасы. Ды тут неўзабаве пачынае дзейнічаць фактар ідэалогіі, і хутарская сістэма ў афіцыйных дакументах пачынае падавацца, як «непрымальная для грамадства, што ідзе да сацыялізму».

Хутарская форма была прызнана непажаданай, хоць адзначым, працягвалася землеўпарадкаванне хутароў, якія фактычна ўжо існавалі. У 1926 годзе з усіх хутарскіх гаспадарак рэспублікі 25,6 працэнта былі створаны да рэвалюцыі, 23.2—на падворна-цераспалосных землях падчас землеўпарадкавання і больш за 50 працэнтаў — на былых памешчыцкіх землях, атрыманых сялянамі пасля 1917 г.

Камуністычная партыя бярэ ўсё больш жорсткі курс на прымусовую калектывізацыю. Хоць, адзначым, пакуль яшчэ дапускаюцца і іншыя (у тым ліку і хутарскія) формы вядзення сельскай гаспадаркі.

Свабоднае развіццё розных формаў землекарыстання — характэрная рыса 20-х гг. — забяспечыла даволі хуткія тэмпы аднаўлення і развіцця сельскай гаспадаркі Беларусі (найвышэйшы паказчык — 1928 год). Аднак узросшая залежнасць ад завозімага ў рэспубліку збожжа ўрэшце кінула яе ў 1928 годзе ў вір хлебанарыхтовак.

Больш-менш высокая ўраджайнасць збожжавых у калгасах была для партыйнага кіраўніцтва «аргументам» для фарсіравання справы калектывізацыі. Хутарское землеўпарадкаванне было канчаткова забаронена. З асаблівасцямі Беларусі (спецыялізацыя сельскай гаспадаркі, высокая ўдзельная вага хутароў і іх эфектыўнасць) ужо ніхто не лічыўся. Як не лічылі і тых грошай і сіл, што былі затрачаны на перанос дзесяткаў тысяч сядзіб у калгасныя пасёлкі.

Так пачалася калгасная эра, якая прынесла Беларусі незлічоныя бядоты, вынішчыўшы селяніна з яго адвечнай любоўю да зямлі, давёўшы народ да паўгалоднага існавання.

**С. ХОДЗІН,**
**дацэнт кафедры гісторыі Беларусі БДУ.**

# «...АБ'ЯДНАЛІСЯ Ў АДЗІН НАРОД...»

## Урад БНР пра адносіны беларусаў і яўрэяў

Дзіўна было б, калі б пільная савецкая цэнзура раней, у эпоху свайго жорсткага кантролю за выданнем духоўнай прадукцыі ў краіне, дазволіла гэтыя дакументы апублікаваць. З іх жа зусім не такім, якім дзесяцігоддзі малявалася ў навуковых манаграфіях і ў блаславёных на шырокае спажыванне гістарычных раманах, паўстае аблічча ўрада колькі часу аддадзенай у нас анафеме Беларускай Народнай Рэспублікі, наогул паслякастрычніцкай беларускай палітычнай эміграцыі. Яны і захоўваліся ў рэспубліканскім архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў фондзе яшчэ нядаўна закрытым, даступным даследчыкам толькі з «допускам» — гэта значыць, правераным адпаведнай службай, папярэджаным, што будуць адказваць перад судом, калі тое, з чым пазнаёмяцца, рассакрэцяць. Вось і ведала пра дакументы мо жменька давераных спецыялістаў. А вартыя яны, несумненна, вядомасці шырэйшай. Бо робяць гонар палітыкам, што калісь далі ім жыццё.

Нічога такога, што ўразіла б нечаканасцю, у дакументах нібы і няма. То не дужа вялікае адкрыццё — што ў дачыненнях між беларусамі і яўрэямі, між беларускай і яўрэйскай інтэлігенцыяй, між беларускімі і яўрэйскімі нацыянальна настроенымі згуртаваннямі і партыямі ў пару, калі на Беларусі пачынаўся адраджэнскі рух, як цяпер гаворыцца, праблем не існавала. Доказам на памяці шмат што. Тое, напрыклад, што і Янка Купала падпісаў гнеўны пратэст цвету тагачаснай расійскай культуры супраць разгулу цемрашальства з прычыны сумнаслыннага працэсу Бейліса. Тое, што на выбарах ва Устаноўчы сход у семнаццатым годзе Беларуская сацыялістычная грамада і партыя Паалей-Цыён, яўрэйская нацыянальная партыя з сацыялістычнай ідэяй, злучыліся ў адзін блок. Тое, што яўрэйскія грамадскія арганізацыі шчыра віталі ў снежні таго ж семнаццатага Усебеларускі кангрэс — як цяпер яго ацэньваем, найважную вяху ў станаўленні нацыянальнага самаўсведамлення беларусаў. Пералік фактаў такога роду можна доўжыць і доўжыць.

Але ж тысячы і тысячы людзей колькі гадоў чыталі і чулі пра «так званую» БНР і яе ўрад (о, гэта крывагубае «так званая», «так званы», «так званыя»!) толькі брыдкае. Тысячам і тысячам людзей толькі нядаўна пачала адкрывацца цынічнасць ранейшай прапагандная маны пра дзяржаўнае ўтварэнне, абвешчанае ў Мінску праднеснем васемнаццатага года. Яго ж партрэт, да ўсяго, са зразумелым разлікам на негатыўны эфект высвечваўся заўсёды з напамінам, што хто-ніхто з яго былых функцыянераў у вайну вярнуўся на Беларусь у абозе гітлераўцаў і зрабіўся саўдзельнікам іх злачынстваў. Карычневы цень пазнейшага (а што было, тое было, у прычыны тут не ўваходжу) кідаўся тым і на мінулае. Ва ўспрыманні і яно паўставала ў афарбоўцы адпаведнага адцення.

Я рады, што дакументы, якія ніжэй прыводзяцца, гэты нядобры міраж развейваюць.

Ёсць чытачы, якім трэба, мусіць, растлумачыць, што ўжыванне ў першым дакуменце азначэнняў «жыды», «жыдоўскае», а не «яўрэі», «яўрэйскае», мэты абразіць народ не мела. Проста тады ў беларускай мове такое азначэнне было назыўным і толькі. Абразлівага напаўнення не несла — набыло яго пазней, пераняўшы з рускай.

Значыць, 1921 год. Урад БНР знаходзіцца ў выгнанні ў Коўне (Каўнасе), тагачаснай сталіцы маладой незалежнай Літвы. Прымаецца адозва, якая друкуецца лістоўкамі па-беларуску і па-яўрэйску:

«25 сакавіка 1921 году прайшло тры гады ад часу, калі Беларускі Народ у асобе лепшых сваіх прадстаўнікоў выявіў сваю непахісную волю да самаіснага дзяржаўнага будавання і апавясціў Незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ні векавое панаванне шляхецкай Польшчы, ні рабскі ўціск Расейскага самадзяржаўя не вырзалі з душы народу яго свягога імкнення да свайго вызвалення ад векавых прыгнётчыкаў.

Наадварот, пракаветнае змаганне за сваё нацыянальнае бытаванне выкавала ў ім непахібную волю да свабоды і загартавала лепшых сыноў народу ў імкненні да здзяйснення сваіх нацыянальных ідэалаў.

Гістарычны шлях быў доўгі і цярністы. Многа ахзяр палажыў Беларускі Народ на алтар свабоды. Многа жывых палягло ў самаахвярным змаганні за шчасце і дабро народу. Вечная слава волатам змагарным. Маці-бацькаўшчына будзе вечна праслаўляць іх імёны.

Ды не сам адзін быў Беларускі Народ у сваім змаганні. Побач яго цярпеў і бароўся другі Народ — пракаветны мучанік Народ Жыдоўскі — з незапамятных часоў паліваўшы зямлю беларускую сваім потам, слязамі і крывёй.

Бязмерны быў глум панявольнікаў над верай і жыццём сыноў Ізраіля. Самадзяржаўе Маскоўскае меркавала, што яно ў крыві жыдоўскай патопіць народны гнеў, які не адзін раз парываўся разбурыць тыранскую ўладу; шляхта польская шчыра памагала свайму ж кату распаляць інстынкты разбэшчанай чэрні.

Жыдоўскі народ зразумеў ясна, што яму няма чаго чакаць ласкавасці ад сваіх панявольнікаў; што толькі ў змаганні жыды дабудуць правы на жыццё і свабоду.

Уразумеўшы гэта, жыды падалі прыязную руку свайму брату па няшчасцю — Народу Беларускаму, дзеля супольнага змагання за незалежнасць, замацаваўшы гэта актам 25 сакавіка.

Сталося: дзве суверэнныя нацыі, насяляючыя Зямлю Беларускую, уявілі сябе і аб'ядналіся ў адзін народ, дзеля далейшага змагання за сваю зямлю, культуру і дзяржаўную незалежнасць.

У вялікі гістарычны дзень 25 сакавіка 1918 году — Дзень апавяшчання Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі першы раз была ясна і голасна на ўвесь свет выказана дзяржаўная воля гэтых дзьвёх суверэнных нацый. Ніякія найміцкія штыкі, ніякія інтрыгі і авантуры ап'янеўшых ад шавіністычнага чаду імперыялістаў не прымусяць Беларусаў звярнуць з раз выбранага імі шляху. Логіка гісторыі прымусіць прызнаць народы, каторыя шчыра зацікаўлены ў тым, каб спыніць братабойчую разню, што толькі поўнае прызнанне правоў Беларускага Народу на мірнае дзяржаўнае будаўніцтва, згодна з яго нацыянальнымі ідэаламі, супакоіць развогненую пасыю і дасць магчымасць усім іншым суседнім народам улажыць меч у похвы і ўзяцца за плуг і молат.

У вялікі гістарычны дзень 25 сакавіка 1918 году Беларуская Рада, пераняўшая ўладу ад Усенароднага Беларускага Кангрэсу, першы раз развярнула запраўды народны сцяг, на якім накрэслены запраўды святыя словы:

1) Незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, як свабоднай працоўнай дзяржавы.

2) Перадача ўсёй зямлі працоўнаму народу і дзяржаўная абарона працы.

3) Суверэннасць нацый беларускай і жыдоўскай і поўнае аб'яднанне іх у адзін дзяржаўны Беларускі народ.

4) Грамадзянскае роўнапраўе ўсіх нацый, насяляючых Беларусь, без розніцы веры і поўнае здаволенне рэлігійных і культурных патрэб.

Вялікія словы. Пад гэтым сцягам шчасце жыць і змагацца і пачэсна паміраць.

У трэція гадавіны вялікага народнага святкавання Беларуская Рада і выканаўчая ўлада ў асобе Рады Міністраў не да смерці клічуць вас, грамадзяне, а да жыцця і змагання за святыя ідэалы, пакінутыя ў спадчыну нам вялікімі змагарамі за шчасце і свабоду Беларускага Народу.

Грамадзяне! Мы цвёрда верым, што ў гэты вялікі дзень на ўсёй зямлі кожнае чэснае беларускае сэрца б'ецца разам з намі і разам з намі кліча:

Слава Беларускай Народнай Рэспубліцы!
Няхай жыве Беларуская Незалежнаць!

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі».

Два наступныя дакументы — з шэрагу рэзалюцый Беларускай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі, што сабралася ў Празе ў верасні 1921 года. На канферэнцыі прадстаўлены быў багаты спектр беларускай палітычнай эміграцыі — эсэры, сацыялісты-федэралісты, народныя сацыялісты, сацыял-дэмакраты. Не ва ўсім яны адразу прыходзілі да згоды. Гучалі і спрэчкі, узаемныя папрокі, абвінавачанні. Але сярод заяў, зрабіць якія палічылі неабходным усе дэлегаты незалежна ад партыйнай прыналежнасці, былі і гэтыя дзве.

Відаць, дзеля таго, каб з імі хутчэй пазнаёміліся як шырэйшыя колы шматнацыянальнага эмігранцтва, што апынулася пасля грамадзянскай вайны за межамі былой Расійскай імперыі, тэкст заяў прымаўся канферэнцыяй на рускай мове. Так іх і прыводжу:

### Резолюция против еврейских погромов

Белорусская Национально-Политическая Конференция в Праге, познакомившись с докладом о случаях еврейских погромов, имевших место в последнее время, констатирует, что:

1) На белорусской земле за все время многовековой совместной жизни белорусов и евреев не было ни одного случая, чтобы мирная жизнь 12-миллионного народа белорусского с 3-миллионным народом еврейским омрачалась каким-нибудь крозавым эксцессом.

2) Бывшие в последние месяцы, с водворением в Белоруссии польских и красноармейских полков, несколько случаев зверских расправ с евреями обязаны своим происхождением бандам Савинкова, Балаховича, Буденного и красноармейским дезертирам.

Вследствие того, что эти мерзкие факты имели место на белорусской земле и могут иметь влияние на некоторые несознательные массы белорусского крестьянства — втянуть и спровоцировать их на аналогичный шаг, Белорусская Национально-Политическая Конференция в Праге решительно протестует против агитации темных сил на белорусской земле и обращается к белорусскому народу с предостережением и просьбой не принимать участия в этой работе бандитов, но всеми силами бороться против них.

С другой стороны Национально-Политическая Конференция в Праге подчеркивает, что все воззвания Правительства Белорусской Народной Республики к польскому и советскому правительствам с протестами и требованиями ввести дисциплину в оккупационные войска и положить конец отвратительной погромной агитации не только не дали до этого времени никаких результатоз, но даже остались без ответа.

Вследствие этого всю ответственность за эксцессы, могущие быть в будущем в границах оккупированной Белоруссии, Белорусская Национально-Политическая Конференция всецело возлагает на теперешних оккупантов.

### Резолюция о деятельности Балаховича

Белорусская Национально-Политическая Конференция, обсудив выступление Балахозича под национальным белорусским знаменем, констатирует:

1) что Балахович не имеет никакой поддержки со стороны белорусских национальных и политических организаций;

2) что, связав свое имя с белорусским освободительным движением, он до сих пор не очистил себя от позорящих белорусское имя обвинений в еврейских погромах и грабежах;

3) что он самовольно объявил себя главнокомандующим белорусских вооруженных сил и

4) позволил себе выдавать акты государственного значения.

Белорусская Национально-Политическая Конференция считает Балаховича до тех пор, пока он не оправдается перед белорусской общественностью, узурпатором и авантюристом.

Учытваюся ў дакументы. Учытваюся, як у яшчэ адно сведчанне, што Беларусь — край традыцыйнай талерантнасці, міжнацыянальнай цярпімасці. Прынамсі, беларускі селянін і местачковы яўрэйскі саматужнік былі, як правіла, суседзямі добразычлівымі.

Сённяшняе становішча на прасцягах, якія былі калісьці царскай Расіяй, потым Савецкім Саюзам, блізкае да таго, што склалася на пачатак дваццатых гадоў, — усё ў заняпадзе, усё разбурана. Што да міжнацыянальных адносін, то да такога страхоцця, як цяпер, мабыць, не даходзілі яны і тады. Дзякаваць богу, у нашым краі няма ні стралянiны, якая грыміць у Таджыкістане, у Закаўказзі, у Прыднястроўі, ні фашысцкага шабашавання, якое бушуе, бывае, у Маскве і Піцеры. Хоць газетныя кіёскі Мінска таксама дбала забяспечваюцца адменным чарнасоценным таварам — як прывазным, так і мясцовай выпечкі. Хоць «Правда», занепакоеная тым, што паміж Беларуссю і Ізраілем, падобна на тое, могуць наладзіцца ўзаемавыгадныя эканамічныя стасункі, спяшаецца выпрабаваным спосабам застрашыць беларусаў — маўляў, сцеражыцеся, сіяніісцкія капіталісты надумалі ператварыць Беларусь у калонію...

Верыцца, хочацца, ва ўсякім разе, верыць у нязрушную вернасць Беларусі і надалей сваім добрым спрадвечным традыцыям.

Традыцыям, пра якія нагадваюць і рассакрэчаныя ў нашых архівах дакументы.

**Уладзімір МЕХАЎ.**

---

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Беларусы не зналі расейскай «приказной избы». Дык адкуль канцылярскія словы, што сілком увапхнуты ў мову? Як адкуль? Не скаралася мова, не здавалася без барацьбы — і была ўзбагачана на братняй казённай аснове.

●

Даць бацькам магчымасць выбіраць школу? А прапіска? Даць настаўніку выкладаць як ён лічыць лепш? А праграма? Даць школе падручнікі на выбар? А дзе яны? Чаго ж вы пярэчыце, калі кажу, што школа ў нас пакуль што (як) казарма?

●

Патрыёты з разраду «што патрабуецца», «Жыве Беларусь!» лямантуюць спрэс. А нядаўна раўлі — дагэтуль чуецца —«Слава КПСС!», «Слава КПСС!». Спытаў такога: «Як злучаеце полюсы?». Ашчэрыўся: «Так яго і растак, неістотна, якому Богу молімся, прадаем, як куплялі, — навучаны так».

●

Куды кацілася наша школа — апірышча партыі і камсамола, сацыялізму пахвальны ліст. Пра тое напішуць яшчэ дысертацыі, а я ўспамінаю слова-мутацыю бюракратычнае «хорошист». Па кленчанню і працэнтнаму вар'яцтву школа была сколкам грамадства, і гэта не віна яе, а бяда. Ды, кажуць, мяняецца школа, перабудоўваецца «ад» і «да». А як з «хорошистами». захацелася спытаць. «Іх цяпер — адказалі, — «недавыдатнікамі» зваць».

●

Столькі лічбаў на адным пятачку? І ўсё — Цыферблату? Не іначай, як па блату.

●

Ёсць такая ідэя: утварыць сумеснае прадпрыемства з Карэяй. А каб не ўляпацца здуру, сутыкнуць нашы структуры. Яны нам вытворчы ажур, а мы ім перакур. Яны нам барацьбу за якасць, а мы ім абыякавасць. Яны нам непарушнасць асноў. а мы ім плоймы несуноў. Яны нам рытмічныя пастаўкі матэрыялаў, а мы ім штурхачоў і даставалаў. Вось як вытрымаюць гэта выпрабаванне, можна гаварыць пра аб'яднанне.

●

З вайсковага статута: фронт разгортваецца направа левым флангам упер.ад.

●

У каго дваццатыя, у каго саракавыя, у спартсменаў трыццатыя — ракавыя. Калі надыходзіць змена, куды падацца спартсмену? У ахоўнікі, бармены, рэкеціры? А іншыя арыенціры? Спадары з Міністэрства асветы, спартыўнага камітэта, дзе фізкультурніку зарабляць, калі стукне трыццаць пяць, а знік попыт?.. Не ваш клопат?

●

Барацьба класаў, барацьба ідэй («Дураць нашага брата, дураць...») А ці не лепш падзяляць людзей на тых, што кураць, і тых, што не кураць?

●

«Трымайся», «Мацуйся», «Бывай здароў»... О мова нічога не вартых слоў!

●

«Будзе жыць вечна»... «Ніколі не забудзецца»... «Застанецца між нас»... Некралогі прывабліваюць абяцанкамі.

●

«Грошай куры не клююць»? Не ў нас пачута. Нам тут яйкі прадаюць ці не за валюту.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў; Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 1.10.92 г. у 18.10.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12